# 100 гадоў таму назад - 28 красавіка 1918 года - беларуская мова афіцыйна стала дзяржаўнай мовай БНР




***28 красавіка 1918 года афіцыйна ўведзена ў дзеянне пячатка Рады БНР з Пагоняй і з надпісам на адзінай дзяржаўнай мове - беларускай***

# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае свайго мінулага, не мае будучыні*





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

№ 2 ( 82 ) КРАСАВІК - ЧЭРВЕНЬ 2018 г.


## У НУМАРЫ:



**На першай старонцы вокладкі макет-пераможца конкурсу на помнік Вялікаму князю Гедзіміну ў Лідзе.**



Мы просім ўсіх, хто мае цікавыя матэрыялы па гісторыі Ліды і краю, дасылаць іх на адрас: 231282, Ліда-2, п/с 7, або E-mail: naszaslowa@tut.by

Аўтары цалкам адказныя за гістарычную дакладнасць сваіх матэрыялаў


**Пасведчанне аб рэгістрацыі № 907 ад 18.12.2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь**

Заснавальнік
**Валерый Васільевіч Слюкін,**
старшы навуковы супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастацкага музея, кандыдат геаграфічных навук.

Рэдактар
**Станіслаў Вацлававіч Суднік**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**231293, Лідскі р-н, в. Даліна**
**АДРАС САЙТА:**
**http// naszaslowa.by**

**Наклад 250 асобнікаў**
**8,5 друк. аркушаў**
**Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.**
**Замова № 3066.**
**Часопіс падпісаны да друку 30.06.2018 г.**
**Часопіс надрукаваны 30.10.2018 г.**

**Падпісны індэкс 00257**
**Кошт падпіскі:**
**індывід. 3 мес. - 2,47 руб.**
**індывід. 6 мес. - 4,94 руб.**
**Кошт у розніцу: вольны.**

ISSN 2218-1792







# Да слова беларускага праз Слова Божае




Мітрапаліт Менска-Магілёўскі, старшыня Канферэнцыі каталіцкіх біскупаў у Беларусі, архібіскуп Тадэвуш Кандрусевіч 20 красавіка наведаў Ліду з важнай місіяй.

Кіраўнік Каталіцкага касцёла ў Беларусі прыняў удзел у прэзентацыі Новага Запавету на беларускай мове. Гэта першы поўны афіцыйны пераклад на беларускую мову, выкананы беларускім рымска-каталіцкім касцёлам. Мерапрыемства адбылося ў сценах гістарычна-мастацкага музея Ліды.

Увосень прэзентацыя доўгачаканага выдання адбылася ў Менску ў касцёле святых Сымона і Алены і нацыянальнай бібліятэцы. А цяпер магчымасць урачыстасць вітаць Кнігу кніг выпала і нашаму гораду.

Сімвалічна, што заканчэнне працы супала з 500-годдзем беларускага кнігадрукавання. Цікавы і той факт, што пераклад выкананы практычна адначасова з Праваслаўнай царквой Беларусі, што лішні раз пацвярджае рух дзвюх канфесій у адным кірунку.

Над канчатковым варыянтам кнігі








калектыў перакладчыкаў працаваў на працягу 15 гадоў. Складанасць працы заключалася ў тым, што пераклад павінен быць зроблены менавіта на жывую сучасную беларускую мову. Таму праца была не столькі тэхнічнай, колькі творчай. Над выданнем працавалі супрацоўнікі секцыі па перакладзе літургічных тэкстаў і афіцыйных дакументаў, якая працуе пры Каталіцкім касцёле Беларусі.

Тадэвуш Кандрусевіч звярнуўся з прывітальным словам да лідзянаў. Касцёльны іерарх падкрэсліў значнасць падзеі як для ўсяго беларускага народа, так і для кожнага хрысціяніна ў прыватнасці.

Доктар біблейскай тэалогіі Марына Пашук выступіла перад лідзянамі з дакладам. Навуковы супрацоўнік распавяла, што адметнай асаблівасцю дадзенага перакладу з'яўляюцца геаграфічныя карты тых часоў, біблейскі слоўнік, а таксама храналагічная табліца падзей, звязаных з агульнай гісторыяй чалавецтва.

Пакуль выдадзена каля 2 тыс. паасобнікаў Новага Запавету. Напрыканцы мерапрыемства мітрапаліт Тадэвуш Кандрусевіч уручыў кнігі Новага Запавету прадстаўнікам мясцовай улады, супрацоўнікам гістарычна-мастацкага музея, раённай бібліятэкі, прадстаўнікам Праваслаўнай і Грэка-каталіцкай цэркваў і інш. Набыць выданне ў Лідзе можна было ў Фарным касцёле.

У праграме візіту таксама была сустрэча са старшынём райвыканкама Міхаілам Карповічам, а таксама наведванне экспазіцый гістарычна-мастацкага музея і Лідскага замка.

***Вольга Ніканенка, 0154.by.***

# КРОНІКА ЛІДЫ




У красавіку 2018 г. да 100-годдзя абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі ў гарадзенскім выдавецтве ЮрСаПрынт выйшла кніга Леаніда Лаўрэша "Генерал, які дайшоў да Беларусі. Жыццяпіс генерала Кіпрыяна Кандратовіча". 154 ст. Наклад 130 ас.



У красавіку 2018 г. прайшлі "VI лідскія чытанні. Лідчына: учора, сёння і заўтра", прымеркаваная да Года малой радзімы і 695-годдзя горада Ліды.



1 траўня ў мікрараёне Паўднёвы быў асвечаны прыдарожны каталіцкі крыж. Тут адбывалася першая святая імша ў новастворанай лідскай каталіцкай парафіі Святога Юзафа-рамесніка.




У пачатку траўня 2018 г. Лідская друкарня выдала кнігу Анастасіі Каладзяжнай "Память - главный свидетель". 432 ст. Наклад - 200 ас.



У траўні па праспекце Перамогі, цераз дарогу ад Лідскага замка, устанавілі незвычайны аўтобусны прыпынак. Да захаплення гараджан, дызайнеры - працаўнікі Лідскага ГУП ЖКГ - вельмі пастараліся і зрабілі яго ў выглядзе велізарнага парасона.



У канцы траўня Лідская абутковая фабрыка выпусціла бела-чырвона-белыя паўкеды с гербам ВКЛ.



2 чэрвеня футбольны клуб "Лідсельмаш" у чацвёрты раз у сваёй гісторыі стаў чэмпіёнам Беларусі па міні-футболу.




У чэрвені 2018 г. у варшаўскім выдавецтве “SOWA” выйшла кніга Валерыя Сліўкіна і Яна Казлоўскага “Інтэлектуалы Лідчыны” (“Intelektualisci Ziemi Lidzkiej”). 222 ст. наклад 50 ас.

# Лідчына ў 2017 годзе

## *Інфармацыя пра вынікі сацыяльна-эканамічнага развіцця Лідскага раёна за 2017 год*

**1. Рэальны сектар эканомікі**

***1.1. Прамысловы комплекс***

*(удзельная вага ў выручцы ад рэалізацыі прадукцыі, тавараў, работ, паслуг - 69,9%)*

На долю раёна прыпадае 11,2 % прамысловай вытворчасці вобласці. Аснову прамысловага комплексу ствараюць 30 прадпрыемстваў, сярэдняспісавая колькасць працаўнікоў на якіх складае 14,0 тыс. чалавек.

Прамысловымі арганізацыямі раёна за 2017 год выраблена прадукцыі ў фактычных адпускных цэнах, уключаючы кошт давальніцкай сыравіны, на суму 934,3 млн. рублёў, тэмп росту - 115,2%.

Індэкс прамысловай вытворчасці па наборы тавараў-прадстаўнікоў у базісных цэнах 2015 года за 2017 год - 105,1%.

З 30 арганізацый павялічылі выпуск прадукцыі ААТ "Лакафарба", ААТ "Лідскі завод электравырабаў", ААТ "Лідаграпраммаш", ААТ "Лідскі ліцейна-механічны завод", РДУПП "Конус" РУП "Навукова-практычны цэнтр Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі па механізаванні сельскай гаспадаркі", ААТ "Лідская абутковая фабрыка", ААТ "Лідабудматэрыялы", ААТ "Торфабрыкетны завод “Дзітва", ААТ "Торфабрыкетны завод “Лідскі", ААТ "Лідскі малочна-кансервавы камбінат", ААТ "Лідахлебапрадукт", ААТ "Біяваст Ліда", ААТ "Мінойтаўскі рамонтны завод", ЗАТ "Каскад", ААТ "Лідскае піва", СЗАТ "ЛІПЛАСТ-СПб".

У аб'ёмах вытворчасці Лідскага раёна найбольшую ўдзельную вагу займае вытворчасць прадуктаў харчавання, напояў, хімічных прадуктаў.

У апрацоўчай прамысловасці ў 2017 годзе індэкс прамысловай вытворчасці склаў 105,4% і забяспечаны вышэй узроўню 2016 года ў вытворчасці: прадуктаў харчавання, напояў і тытунёвых вырабаў - 107,6%, хімічных прадуктаў - 111,2%, коксу і прадуктаў нафтаперапрацоўкі - 127,1%, машын і абсталявання, не ўключаных у іншыя групоўкі, - 142,5%, электраабсталявання - 123,6%, тэкстыльных вырабаў, адзежы, вырабаў са скуры і футра - 109,0%, іншых гатовых вырабаў - 118,3%.

У горназдабыўной прамысловасці індэкс прамысловай вытворчасці склаў 123,2%.

У забеспячэнні электраэнергіяй, газам, парай, гарачай вадой і кандыцыянаваным паветрам - 101,2%.

У водазабеспячэнні; зборы, апрацоўцы і выдаленні адыходаў, дзейнасці па ліквідацыі забруджванняў - 99,4%.

У цэлым у раёне за 2017 год павялічыўся выпуск найважнейшых відаў прамысловай прадукцыі (таварны выпуск): ангідрыду фталевага - на 20,7%, фарбаў, лакаў і аналагічных пакрыццяў на аснове палімераў, дыспяргіраваных ці раствораных у водным асяроддзі - на 48,4%, фарбаў, лакаў і аналагічных пакрыццяў на аснове палімераў, дыспяргіраваных ці раствораных у лятучых арганічных растваральніках - на 6,8%, фарбаў і лакаў іншых - на 18,5%, посуду сталовага і кухоннага са свінцовага крышталю ручнога набору - на 38,0%, тэрмастатаў, манастатаў і іншых прыбораў і апаратуры для аўтаматычнага рэгулявання і кіравання - у 2,9 раза, частак і прыналежнасцяў бінокляў, манокляў і аптычных тэлескопаў іншых - у 1,9 раза, лінзы кантактнай - на 49,6%, частак электрарухавікоў, генератараў і трансфарматараў - у 1,7 раза, частак іншага электрычнага абсталявання - у 1,8 раза, электраабсталявання сігналізацыйнага і абсталявання для забеспячэння бяспекі ці рэгулявання (кіравання) руху на шашэйных дарогах і чыгунках - у 1,6 раза, рыхліцеляў і культыватараў - у 2,9 раза, барон дыскавых - на 22,1%, сеялак іншых для выкарыстання ў сельскай гаспадарцы - на 9,9%, машын, выкарыстоўваных для падрыхтоўкі ці культывавання глебы - у 2,6 раза, касілак, жатак навясных і прычапных - у 52,0 разы, машын сенаўборачных - на 6,9%, прэспадборшчыкаў для саломы, сена ці травы іншых - у 2,0 разы, бульбакапалак - у 1,7 раза, камбайнаў збожжаўборачных - на 12,5%, абсталявання складскога для захоўвання сельскагаспадарчай прадукцыі - у 6,6 раза, частак глебаапрацоўчых машын катэгорыі 28.30.3 - на 12,5%, частак машын для сельскай і лясной гаспадаркі - у 3,2 раза, частак машын і абсталявання для металургіі - у 1,8 раза, машын іншых для вымання, трамбавання ці ўшчыльнення грунту - на 40,1%, частак машын для горназдабыўной прамысловасці - на 7,9%, торфу паліўнага - на 23,2%, гранул паліўных (пелеты) - у 2,0 разы, брыкетаў, акатышаў і аналагічных відаў цвёрдага паліва, атрыманага з торфу - на 27,1%, абутку мужчынскага з верхам з натуральнай ці кампазіцыйнай скуры - на 25,0%, абутку жаночага з верхам з натуральнай ці кампазіцыйнай скуры - на 16,7%, абутку дзіцячага з верхам з натуральнай ці кампазіцыйнай скуры - на 36,4%, абутку з ахоўным металічным падноскам - на 25,0%, абутку вытворчага - на 33,3%, піламатэрыялаў, таўшчынёй больш за 6 мм - на 24,0%, драўніны хваёвых парод, прафіляванай па беражку ці па плоскасці - у 6,6 раза, паддонаў - на 47,9%, мяса і печані сельскагаспадарчай птушкі падмарожанай, замарожанай - на 8,1%, субпрадуктаў харчовых сельскагаспадарчай птушкі - на 3,3%, мукі кармавой мясакасцяной - у 1,8 раза, масла і тлушчу жывёльнага іншага - у 1,8 раза, малака апрацаванага, вадкага - на 3,4%, малака і вяршкоў нязгушчаных і

непадсалоджаных тлустасцю больш за 6,0% - у 1,5 разы, малака сухога тлустасцю не больш за 1,5% - на 13,4%, малака і вяршкоў сухіх тлустасцю больш за 1,5% - на 5,3%, ёгурту і іншых відаў малака ці вяршкоў ферментаваных ці сквашаных - на 4,8%, мукі дробнага памолу пшанічнай ці пшанічна-жытняй - на 1,6%, мукі з іншых збожжавых культур, акрамя пшанічнай ці пшанічна-жытняй мукі - на 21,7%, крупаў і мукі грубага памолу з пшаніцы - на 3,5%, зерняў і зародкаў (прарослых зерняў) збожжавых культур плюшчаных, у відзе шматкоў - на 3,1%, вырабаў хлебабулачных і мучных кандытарскіх сухіх ці працяглага захоўвання - на 26,4%, прадуктаў для падрыхтоўкі соўсаў, запраў, не ўключаных у іншыя групоўкі - на 6,6%, супаў і булёнаў ды нарыхтовак для іх падрыхтоўкі - на 31,1%, сумесяў кармавых шматкампанентных для падрыхтоўкі збалансаваных камбікармоў ці дадатковых кармоў - у 8,8 раза, камбікармоў поўнарацыённых і камбікармоў-канцэнтратаў для сельскагаспадарчых жывёл - у 1,6 раза, заменнікаў сухога абястлушчанага малака, заменнікаў цэльнага малака (ЗЦМ), у парашку, гранулах ці ў іншых цвёрдых формах - у 1,9 раза, піва - на 4,8%, напояў безалкагольных іншых - на 14,7%.

Па стане на 1 студзеня 2018 г. сума запасаў гатовай прадукцыі ў прамысловасці склала 89,8 млн. рублёў ці 116,3% да сярэднямесячнага аб'ёму вытворчасці.

### *1.2. Сельская гаспадарка*

*(удзельная вага ў выручцы ад рэалізацыі прадукцыі, тавараў, работ, паслуг - 4,8%)*

За 2017 год сельскагаспадарчымі арганізацыямі выраблена прадукцыі ў супастаўных цэнах на суму 86304,6 тыс. рублёў, тэмп росту - 113,4%. Вытворчасць прадукцыі раслінаводства ўзрасла на 28,6%, жывёлагадоўлі - на 4,9%.

Нарасцілі тэмп росту валавай прадукцыі: КСУП "Бердаўка-Агра" (тэмп росту - 121,2%), КСУП "Ваверка-Агра" (тэмп росту - 112,6%), КСУП "Беліца-Агра" (тэмп росту - 125,7%), РСУП "Саўгас "Лідскі" (тэмп росту - 112,5%, КСУП "Пескаўцы" (108,2%), ЛРСУП "Мажэйкава" (106,0%), філіял "Дзітва" ААТ "Лідахлебапрадукт" (106,3%), КСУП "Ёдкі-Агра" (101,2%), свінагадоўчы комплекс "Прагрэс" ААТ "Лідахлебапрадукт" (100,1%), ЗТАА "Арвібелагра" (1,6 раза), ААТ "Карэлічы-лён" (115,8%).

Удзельная вага прадукцыі раслінаводства ў агульным аб'ёме сельскагаспадарчай прадукцыі склала 40,7%.

Усе сельскагаспадарчыя арганізацыі павялічылі аб'ёмы вытворчасці прадукцыі раслінаводства.

Структура раслінаводчай прадукцыі склалася наступным чынам: збожжа - 11,0%, алеенасенне рапсу - 4,9%, бульба - 2,9%, гародніна - 4,7%, цукровыя буракі - 3,6%, плады - 1,4%, кукуруза на зялёны корм - 4,0%.

Вытворчасць збожжа склала 52,7 тыс. тон у свірнавай вазе і ўзрасла да 2016 года на 23,8%. З 1 гектара ўборачнай плошчы атрымана 27,1 ц, што на 3,0 ц/га больш, чым у 2016 годзе.

Самая высокая ўраджайнасць збожжавых культур атрымана ў РСУП "Саўгас "Лідскі" - 35,4 ц/га і філіяле "Дзітва" ААТ "Лідахлебапрадукт" - 34,1 ц/га.

Валавая вытворчасць алеянасення рапсу склала 6,1 тыс. тон, што ў 3,4 раза больш ад узроўню 2016 года. Сярэдняя ўраджайнасць склалася на ўзроўні 16,5 ц/га, што больш ад узроўню 2016 года на 10,2 ц/га. Ураджайнасць вышэйшая ад сярэднераённага ўзроўню атрымана ў РСУП "Саўгас "Лідскі" - 24,4 ц/га і ў філіяле "Дзітва" ААТ "Лідахлебапрадукт" - 22,0 ц/га.

Аб'ём вытворчасці льновалакна склаў 701 тону ці 163,0% да 2016 года. Ураджайнасць павялічылася на 0,2 ц/га і склала 8,8 ц/га.

Аналізаваны 2017 год быў спрыяльным для вырошчвання бульбы, цукровых буракоў, гародніны і нарыхтоўкі травяністых кармоў. У сельскагаспадарчых арганізацыях накапана бульбы 13,6 тыс. тон ці 145,2% да 2016 года. Ураджайнасць склала 331,0 ц/га, што на 165,0 цэнтнераў вышэй ад узроўню 2016 года. Самая высокая ўраджайнасць бульбы ў раёне атрымана ў РСУП "Саўгас "Лідскі" - 391,0 ц/га.

Цукровых буракоў вырашчана 47,8 тыс. тон ці 141,5 % да 2016 года, ураджайнасць павялічылася на 103,0 ц/га і склала 405,0 ц/га.

Гародніны атрымана 3,3 тыс. тон ці 235,6% да 2016 года. Ураджайнасць узрасла на 162,0 ц/га і склала 279,0 ц/га.

Пладова-ягаднай прадукцыі атрымана 1,2 тыс. тон, ураджайнасць - 114,7 ц/га.

Для грамадскага пагалоўя нарыхтавана 104,8 тыс. тон усіх відаў кармоў у пераліку на кармавыя адзінкі ці 110,0% да 2016 года, з іх травяных кармоў - 73,0 тыс. тон кармавых адзінак (102,8%).

У разліку на адну ўмоўную галаву атрымана па 31,5 ц. к. адз., што на 4,0 ц. к. адз. больш, чым у 2016 годзе, у тым ліку травяных кармоў 25,5 ц. к. адз, больш на 0,5 ц. к. адз.

Палепшыўся батанічны склад кармавых угоддзяў, павялічылася доля бабовых кампанентаў. У 2017 годзе мелася 8,5 тыс. гектараў шматгадовай травы, з іх 78,0% бабовых і бабова-зерневых сумесяў. На долю люцэрны і канюшыны прыпадае 3,3 тыс. гектараў ці 40,0% ад усіх траў на ворыве.

У раёне праведзена праца па перезалужанні сенажацяў і пашаў з падсяваннем бабовага кампаненту травы. Паразалужана 1,6 тыс. га, што склала 7,6% ад іх наяўнасці.

У жывёлагадоўлі аб'ёмы прадукцыі ў цэлым па раёне павялічыліся на 4,9%.

У структуры вытворчасці ўдзельная вага малака склала 27,3%, ялавічыны - 8,8%, свініны - 12,0%, мяса птушкі - 7,9%, яйкаў - 1,8%.

Удзельная вага прадукцыі жывёлагадоўлі ў агульным аб'ёме сельскагаспадарчай прадукцыі склала 59,3%.

Рост прадукцыі жывёлагадоўлі забяспечаны трыма сельскагаспадарчымі арганізацыямі: філіялам "Дзітва" ААТ "Лідахлебапрадукт" (тэмп росту - 104,4%), КСУП "Беліца-Агра" (104,5%) і КСУП "Бердаўка-Агра" (101,3%).

У цэлым па раёне прададзена малака гатункам "Экстра" і "вышэйшым" гатункам 83,1%. Тлустасць і ўтрыманне бялку ў малацэ вышэй базіснай і фактычна склалі 3,8% і 3,14% адпаведна.

Сярэдні ўдой малака ад каровы склаў 4173 кг, што на 38 кг больш, чым у 2016 годзе.

Самая высокая прадуктыўнасць дойнага статка забяспечана ў філіяле "Дзітва" ААТ "Лідахлебапрадукт" - 5994 кг, што на 248 кг больш, чым у 2016 годзе.

Вытворчасць (гадоўля) жывёлы і птушкі склала 13,7 тыс. тон, што на 15,4% больш, чым у 2016 годзе.

Высокія сярэднясутачныя прывагі свінняў на гадоўлі і адкорме атрыманы на свінагадоўчым комплексе "Прагрэс" ААТ "Лідахлебапрадукт" - 620 грамаў, што на 2 грамы больш ад 2016 года.

Вытворчасць мяса птушкі ўзрасла ў цэлым па раёне ў 3,0 разы і склала 4,6 тыс. тон, яйкаў - на 3,7% і склала 14,5 млн. штук.

### *1.3. Будаўніцтва*

*(удзельная вага ў выручцы ад рэалізацыі прадукцыі, тавараў, работ, паслуг - 5,1%)*

Аб'ём будаўніча-мантажных работ за 2017 год склаў 115,8 млн. рублёў ці 97,0% да 2016 года ў супастаўных цэнах.

Асноўнымі прычынамі зніжэння тэмпаў росту аб'ёмаў будаўніча-мантажных работ па раёне з'яўляецца адсутнасць будаўніцтва жылля па дзяржаўнай падтрымцы, крыніц фінансавання на будаўніцтва аб'ектаў аграпрамысловага комплексу, сацыяльнага прызначэння, інжынерна-транспартнай інфраструктуры ў індывідуальных жылых забудовах, зніжэнне інвестыцыйнай актыўнасці арганізацый раёна.

З мэтай нарошчвання будаўніча-мантажных работ ажыццяўляецца будаўніцтва 7-мі шматкватэрных жылых дамоў з долевым удзелам грамадзян. За 2017 год асвоена 12,3 млн. рублёў.

З ліпеня 2017 года вяліся работы па рэканструкцыі вуліцы Свярдлова г. Ліды. За 2017 год асвоена 5,4 млн. рублёў.

Са жніўня 2017 года праводзілася рэканструкцыя аўтадарогі М-6 Менск-Гародня-мяжа Рэспублікі Польшча (Брузгі) у Лідскім раёне (РУП "Менскаўтадар-Цэнтр") і газанапаўняльнай станцыі ў г. Лідзе (РУП "Гародняаблгаз"). За жнівень-снежань 2017 года асвоена 15,9 млн. рублёў і 3,4 млн. рублёў, адпаведна.

Будаўнічым комплексам раёна выканана падрадных работ на суму 79,5 млн. рублёў, што склала 99,9% да 2016 года ў супастаўных цэнах.

Шэсць арганізацый забяспечылі рост аб'ёмаў падрадных работ: ГП "Лідская ПМК - 169" ГОСУП "Гроднааблсельбуд" - тэмп росту 126,4%, ГП Лідская ПМК - 170" ГОСУП "Гроднааблсельбуд" - 121,1%, дарожна-будаўнічае кіраванне №24 ААТ "Дарожна-будаўнічы трэст № 6" - рост у 2,1 раза, ААТ "Будвектар" - тэмп росту 109,9%, ААТ "Лідагазбуд" - 103,9%, ДРБУ № 157 КУП "Гроднааблдарбуд" - 110,0%.

За 2017 год уведзена ў эксплуатацыю 334 кватэры агульнай плошчай 45,643 тыс. квадратных метраў, у тым ліку: пабудавана - 2 шматкватэрныя жылыя дамы (132 кватэры) агульнай плошчай 7,669 тыс. квадратных метраў, 202 кватэры плошчай 37,974 тыс. квадратных метраў індывідуальнай жылой забудовы.

### *1.4. Гандаль*

*(удзельная вага ў выручцы ад рэалізацыі прадукцыі, тавараў, работ, паслуг - 12,5%)*

Аб'ём рознічнага таваразвароту гандлю праз усе каналы рэалізацыі ў цэлым па раёне за 2017 год у фактычных цэнах склаў 556,5 млн. рублёў. Тэмп росту ў супастаўных цэнах да 2016 года - 102,1%.

У 2017 годзе за кошт новага будаўніцтва і перапрафілявання адкрыта 10 гандлёвых аб'ектаў агульнай плошчай 1242,5 квадратных метра і 7 аб'ектаў грамадскага харчавання на 205 месцаў.

Гандлёвымі арганізацыямі праведзена 24 кірмашы, 109 выстаў-продажаў, 1369 распродажаў тавараў па зніжаных цэнах, 90 няцэнавых промаакцый. Дадаткова атрымана таваразвароту 3,9 млн. рублёў.

Па крэдытах банкаў на спажывецкія патрэбы і безпрацэнтных крэдытах рэалізавана тавараў на суму 7,8 млн. рублёў, за кошт сродкаў гандлёвых арганізацый - на 2,0 млн. рублёў.

У мэтах прыцягнення турыстаў у 8-мі крамах раёна ўкарэнена сістэма вартання падатку на дадаены кошт TAX FREE. За 2017 год замежным пакупнікам выдадзена 627 чэкаў на агульную суму 166,4 тыс. рублёў (за 2016 год - 383 чэкі на агульную суму 134,2 тыс. рублёў).

Забяспечанасць насельніцтва гандлёвай плошчай на 1000 жыхароў на 01.01.2018 склала 629,5 квадратнага метра пры нарматыве 600 квадратных метраў, забяспечанасць месцамі ў агульнадаступнай сетцы грамадскага харчавання склала 35,7 месца пры нарматыве 22 месцы.

Па стане на 1 студзеня 2018 г. у раёне па дадзеных дзяржаўнага інфармацыйнага рэсурсу "Рэестр побытавых паслуг Рэспублікі Беларусь" 598 суб'ектаў гаспадарання ўсіх формаў уласнасці аказваюць побытавыя паслугі насельніцтву, у тым ліку ў г. Лідзе - 518 суб'ектаў ці 86,6%. За 2017 год у раёне зарэгістраваны 43 новыя суб'екты гаспадарання і 36 аб'ектаў побытавага абслугоўвання.

Забяспечана выкананне нарматыву забяспечанасці насельніцтва сеткай комплексных прыёмных пунктаў па прыёме замоў на аказанне побытавых паслуг у сельскай мясцовасці. Па стане на 01.01.2018 функцыянуе 12 сельскіх комплексных прыёмных пунктаў ці адзін пункт на 1712 сельскіх жыхароў пры нарматыве 1 пункт на 1800-2200 чалавек. Выкананы нарматыў вытворчых магутнасцяў на тысячу жыхароў па 11 відах сацыяльна-значных побытавых паслуг.

### *1.5. Транспартная дзейнасць*

*(удзельная вага ў выручцы ад рэалізацыі прадукцыі, тавараў, работ, паслуг - 6,2%)*

За 2017 год пасажырскім транспартам супаль-

нага карыстання раёна перавезена 19,4 млн. пасажыраў (тэмп росту 100,7%), грузавым - 1,7 млн. тон грузаў (тэмп росту - 131,2%).

Сацыяльныя стандарты абслугоўвання насельніцтва ў вобласці транспарту выконваюцца ў поўным аб'ёме.

**2. Замежнаэканамічная дзейнасць**

***2.1. Экспарт тавараў (ключавы паказчык)***

Замежнагандлёвы зварот тавараў арганізацый раёна за 2017 год склаў 441,4 млн. даляраў ЗША.

Аб'ём экспарту - 316,8 млн. даляраў ЗША ці 116,9% да 2016 года. Аб'ём імпарту - 124,6 млн. даляраў ЗША, тэмп росту 111,9%.

Сальда знешняга гандлю таварамі склалася дадатнае ў памеры 192,2 млн. даляраў ЗША.

Удзельная вага экспарту арганізацый раёна ў экспартных аб'ёмах вобласці - 16,4%.

Нарасцілі аб'ёмы экспарту наступныя арганізацыі раёна: ААТ "Лакафарба" - тэмп росту 131,8%, ААТ "Лідаграпраммаш" - 140,6%, ААТ "Лідскі ліцейна-механічны завод" - 112,0%, ААТ "Лідская абутковая фабрыка" - рост у 1,9 раза, ААТ "Лідскія харчовыя канцэнтраты" - у 1,3 раза, ААТ "Завод "Оптык" - тэмп росту 125,6%, ААТ "Лідабудматэрыялы" - у 4,8 раза, РДУПП "Конус" РУП "Навукова-практычны цэнтр Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі па механізацыі сельскай гаспадаркі" - у 2,3 раза, ААТ "Торфабрыкетны завод “Дзітва" - тэмп росту 137,2%, ААТ "Торфабрыкетны завод “Лідскі" - 112,9%, ААТ "Лідскі малочна-кансервавы камбінат" - 104,3%, ААТ "Лідахлебапрадукт" - 108,7%, ЗАТ "Каскад" - рост у 9,7 раза, ААТ "Біяваст Ліда" - у 2,1 раза, СЗАТ "Ліпласт - СПб" - у 2,2 раза, ЗП "Белтэкс-Оптык" - тэмп росту 127,0%, СТАА "Бел-Пласт Інтэрнэшнл" - 104,5%.

Экспартна-імпартныя аперацыі праведзены з 86 дзяржавамі свету, пры гэтым тавары экспартаваліся ў 71 краіну.

Асноўнымі гандлёвымі партнёрамі прадпрыемстваў раёна з'яўляюцца Расійская Федэрацыя (рэалізуецца 69,4% экспартнай прадукцыі), Літва (7,7%), Украіна (5,8%), Кыргызстан (1,7%), Нямеччына (1,5%), Турцыя (1,3%), ЗША (1,2%), Злучанае Каралеўства Вялікабрытаніі (1,2%) і Польшча (1,2%).

Прадпрыемствы ажыццяўляюць гандлёва-эканамічнае супрацоўніцтва з 8 расійскімі федэральнымі акругамі, 72 рэгіёнамі.

Удзельная вага экспарту ў агульным аб'ёме экспарту ў краіны ЕАЭС склала 74,2%, ЕС-12,8%, іншыя краіны - 13,0%.

У 2017 годзе ўпершыню экспартавана прадукцыя ААТ "Лакафарба" - у Бангладэш, ААЭ, Эквадор, Калумбію, Кенію, Чылі, Турцыю, ААТ "Шклозавод "Нёман" - у Аўстралію, Новую Зеландыю, Швейцарыю, Румынію, Ліван, ААТ "Лідаграпраммаш" - у Замбію, ААТ "Лідахлебапрадукт" - у Сербію, Бенін, ПАР, Егіпет, Мадагаскар, ААТ "Лідскае піва" - у Азербайджан, Грузію, Карэю, Грэцыю, СЗАТ "Ліпласт-СПб" - на Кубу, ЗАТ "Каскад" - у Туркменістан, Нямеччыну, Францыю.

***2.2. Экспарт паслуг (ключавы паказчык)***

Па выніках працы за 2017 год аб'ём экспарту паслуг па арганізацыях Лідскага раёна склаў 14839,7 тыс. даляраў ЗША ці 94,9% да 2016 года. Імпарт паслуг - 5040,4 тыс. даляраў ЗША, тэмп росту - 116,6%. Замежнагандлёвае сальда склалася дадатнае ў памеры 9799,3 тыс. даляраў ЗША.

У 2017 годзе арганізацыі экспартавалі паслугі ў 55 краін свету. Буйнымі спажыўцамі паслуг з'яўляюцца рэзідэнты Расійскай Федэрацыі (41,9%), Літвы (28,8%), Нямеччыны (8,6%), Польшчы (6,3%), Вялікабрытаніі (3,3%).

Сярод паслуг найболей значнымі з'яўляюцца транспартныя паслугі (доля ў экспарце 71,7%), аб'ём якіх у аналізаваным перыядзе склаў 10638,6 тыс. даляраў ЗША ці 110,2% да 2016 года.

Аб'ём экспарту іншых дзелавых паслуг узрос на 7,0% (доля ў агульным аб'ёме аказваных паслуг - 7,0%), турыстычных - на 4,3% (доля ў агульным аб'ёме аказваных паслуг - 2,7%), паслуг аховы здароўя - на 1,9%, паслуг у вобласці спорту - на 6,2%.

**3. Інвестыцыйная і інавацыйная дзейнасць**

***3.1. Інвестыцыі ў асноўны капітал***

Па выніках 2017 года арганізацыямі Лідскага раёна скарыстана 168,6 млн. рублёў інвестыцый у асноўны капітал.

Тэхналагічная структура інвестыцый:

- аб'ём інвестыцый на выкананне будаўніча-мантажных работ склаў 115,8 млн. рублёў;
- выдаткі на набыццё машын, абсталявання, транспартных сродкаў - 36,3 млн. рублёў;
- іншыя работы і выдаткі - 16,5 млн. рублёў.

Удзельная вага выдаткаў на набыццё машын, абсталявання, транспартных сродкаў у агульным аб'ёме інвестыцый у асноўны капітал склаў 21,5%.

***3.2. Замежныя інвестыцыі (ключавы паказчык)***

Аб'ём паступлення прамых замежных інвестыцый на чыстай аснове (без уліку запазычанасці за тавары, работы, паслугі) за 2017 год склаў 3328,1 тыс. даляраў ЗША.

Асноўныя крыніцы паступлення - рэінвеставанне і пазыкі, атрыманыя ад замежных заснавальнікаў. Малаважную частку склалі ўнёскі ў статутныя фонды прадпрыемстваў.

Паступленне за кошт рэінвеставання прыбытку забяспечылі ЗП "Белтэкс Оптык", ТАА "ФУДПАК", СЗАТ "ЛІПЛАСТ-СПб", ТАА "Хавер ВУ металатканы завод" і іншыя.

За кошт крэдытаў і пазык, атрыманых ад замежных фундатараў, ажыццяўлялася рэалізацыя наступных праектаў: "Стварэнне вертыкальна-інтэграванага комплексу па прамысловай вытворчасці прадукцыі з мяса індычкі на тэрыторыі Лідскага раёна Гарадзенскай вобласці", ЗТАА "АРВШБЕЛАГРА" і "Увод у эксплуатацыю абсталявання 2-ой лініі з усталёўкай варачнага катла бесперапыннага дзеяння" ў рамках праекту "Тэхнічнае пераўзбраенне, рэканструкцыя і павелічэнне магутнасцяў прадпрыемства па ўтылізацыі адыходаў жывёльнага паходжання на базе ААТ "Лідскі ветэрынарна-санітарны ўтылізацыйны завод".

З мэтай пошуку новых фундатараў праводзіцца мэтанакіраваная праца па арганізацыі сустрэч з прадстаўнікамі замежных кампаній, правядзенні перамоў і прэзентацый інвестыцыйных магчымасцяў раёна.

У 2017 годзе Лідскі раён наведвалі дэлегацыі Расійскай Федэрацыі, Літвы, Егіпту, Францыі, Польшчы, Літвы, Румыніі, Аўстрыі.

### 4. Рынак працы і палітыка занятасці

#### *4.1. Працаўладкаванне грамадзян на нанава створаныя працоўныя месцы (ключавы паказчык)*

За 2017 год колькасць працаўладкаваных грамадзян на нанава створаныя працоўныя месцы склала 505 чалавек, у тым ліку:

- за кошт стварэння новых вытворчасцяў - 325 чалавек, з іх: 171 чалавек працаўладкаваны ў сельскую, лясную і рыбную гаспадарку, 22 - у прамысловасць, 111 - у аптовы і рознічны гандаль, 9 - у сферу адукацыі, 3 - у ахову здароўя і сацыяльныя паслугі, 3 - у транспартную дзейнасць, складаванне, паштовую і кур'ерскую дзейнасць, 2 чалавекі - у паслугі па часовым пражыванні і харчаванні, 2 чалавекі - у фінансавую і страхавую дзейнасць, 1 чалавек - у прафесійную, навуковую і тэхнічную дзейнасць, 1 чалавек - у аказанне іншых відаў паслуг;

- адкрыццё новых прадпрыемстваў - 180 чалавек, з іх 68 чалавек - на прадпрыемствы, створаныя ў 2016 годзе і 112 чалавек - у 2017 годзе.

#### *4.2. Рынак працы і палітыка занятасці*

У кіраванне па працы, занятасці і сацыяльнай абароне Лідскага райвыканкама па садзейнічанне ў працаўладкаванні за 2017 год звярнуліся 4493 чалавекі, з іх 2943 (65,5%) зарэгістраваных беспрацоўных.

На 1 студзеня 2018 г. лік беспрацоўных, якія стаяць на ўліку, склаў 465 чалавек, узровень беспрацоўя - 0,8% да колькасці эканамічна актыўнага насельніцтва.

Лік вакансій, заяўленых наймальнікамі ў службу занятасці, на канец снежня 2017 года склаў 499 вольных працоўных месцаў.

У сярэднім на адну заяўленую вакансію на 1 студзеня 2018 г. прыпадае 0,9 беспрацоўных.

З пачатку года з улікам вакансій, якія былі, працаўладкавана 2936 чалавек, у тым ліку на сталую працу - 1999 беспрацоўных.

Арганізавана прафесійная падрыхтоўка, перападрыхтоўка і падвышэнне кваліфікацыі 155 беспрацоўных.

У мэтах дадатковай матэрыяльнай падтрымкі беспрацоўных і іншых незанятых грамадзян арганізоўваліся аплачваныя грамадскія працы, у якіх прынялі ўдзел 768 чалавек.

Для набыцця досведу практычнай працы на працоўныя месцы працаўладкавана 17 беспрацоўных.

Аказана садзейнічанне ў арганізацыі прадпрымальніцкай дзейнасці шляхам вылучэння субсідый 23 беспрацоўным.

Тры сям'і беспрацоўных пераселены на новае месца жыхарства і працы.

Праведзена 15 кірмашоў вакансій, у якіх прынялі ўдзел 86 наймальнікаў і 387 грамадзян.

#### *4.3. Прыбыткі і сацыяльная абарона насельніцтва*

Сярэднямесячная заработная плата аднаго працаўніка Лідскага раёна за студзень-снежань 2017 года склала 660,4 рублёў (тэмп росту - 113,7%), за снежань - 822,0 рублёў (тэмп росту - 128,5%).

Тэмпы росту рэальнай заработнай платы за снежань - 123,0%, за 2017 год-107,3%.

### 5. Развіццё сацыяльнай сферы

#### *Адукацыя*

Лідскія навучэнцы на абласной і рэспубліканскай алімпіядах па вучэбных прадметах заваявалі 78 і 16 дыпламоў адпаведна.

Адзначаецца дадатная дынаміка працэнта навучэнцаў, якія завяршылі 2016/2017 навучальны год на 5-10 балаў, - 79,65% (2015/2016 навучальны год - 78,68%), на 9-10 балаў - 8,88% (2015/2016 навучальны год - 8,15%), сярэдняга бала навучэнца - 7,55% (2015/2016 навучальны год - 7,49%).

Вышэй паказчыкаў папярэдніх гадоў працэнт навучэнцаў 9-х класаў, якім выдадзены пасведчанні пра агульную базавую адукацыю з адзнакай - 5,7% (2015/2016 навучальны год - 4,0%), працэнт навучэнцаў 11-х класаў, якім выдадзены атэстаты пра агульную сярэднюю адукацыю адмысловага ўзору з узнагароджаннем залатым (срэбным) медалём, - 7,4% (2015/2016 навучальны год - 5,6%).

У 2017 годзе лідскімі выпускнікамі атрымана 7 стобальных сертыфікатаў (у 2016 годзе - 5).

Забяспечана 100-працэнтнае размеркаванне выпускнікоў школ па далейшых каналах навучання. Стабільны паказчык паступлення выпускнікоў 11- тых класаў ва ўстановы вышэйшай адукацыі - 67,1% (2016 год - 67,9%). На навучанне педагагічным спецыяльнасцям ва ўстановах вышэйшай адукацыі выдадзена мэтавае накіраванне 29 выпускнікам 11-тых класаў.

У аздараўленчых лагерах усіх тыпаў за 2017 год аздароўлена 7283 дзіцяці (101,6% плану).

Захавалася тэндэнцыя павялічэння колькасці дзяцей ва ўстановах дашкольнай адукацыі: 2017 год - 6516, 2016 год - 6390.

***Культура***

Клубнымі ўстановамі праведзена 5270 мерапрыемстваў, у тым ліку 2116 на платнай аснове.

За 2017 год колькасць чытачоў бібліятэчнай сістэмы раёна склала 31,8 тыс. чалавек.

Адукацыйны працэс у школах мастацтваў раёна ажыццяўляецца ў адпаведнасці з навучальнымі планамі і праграмнымі патрабаваннямі.

ДУ "Лідскі гісторыка-мастацкі музей" праведзена 1385 экскурсій і заняткаў, арганізавана 35 выстаў.

Колькасць наведвальнікаў ДУ "Лідскі гісторыка-мастацкі музей" і Лідскага замка за 2017 год склала 90285 чалавек.

***Спорт***

За 2017 год праведзена 291 спартова-масавае мерапрыемства, у якіх прынялі ўдзел 28,6 тыс. чалавек.

Выканалі нарматывы: майстра спорту - 10 чалавек, кандыдата ў майстры спорту - 40 чалавек, 1 разраду - 57 чалавек, трэнерскіх катэгорый - 9 чалавек. У спіскавым складзе зборнай Рэспублікі Беларусь знаходзіцца 49 чалавек. Сталі пераможцамі і прызёрамі міжнародных спаборніцтваў 7 чалавек, рэспубліканскіх - 121 чалавек, абласных - 462 чалавекі.

У сферы турызму на 1 студзеня 2018 г. функцыянуе 43 аграсядзібы.

***Ахова здароўя***

За 2017 год у раёне нарадзілася 1474 дзіцяці, узровень нараджальнасці - 11,2 на 1000 насельніцтвы. Усяго памерла 1720 чалавек - узровень смяротнасці - 13,0 на 1000 чалавек насельніцтва.

У амбулаторна-паліклінічныя ўстановы зроблена 1896,2 тыс. наведванняў, хуткай дапамогай абслужана 42,6 тыс. выклікаў, у аддзяленнях дзённага знаходжання пралечана 5,4 тыс. чалавек, у стацыянарах на хаце - 1,9 тыс. чалавек, у кругласутачных стацыянарах - 32,1 тыс. чалавек.

Усе дзяржаўныя сацыяльныя стандарты ў вобласці аховы здароўя выкананы ў поўным аб'ёме. Фінансаванне аховы здароўя за 2017 год склала 33,3 млн. рублёў.

За 2017 год набыта медыцынскага абсталявання на суму 304,9 тыс. рублёў, у тым ліку: за кошт сродкаў рэспубліканскага бюджэту - 92,9 тыс. рублёў, абласнога бюджэту - 4,5 тыс. рублёў, мясцовага бюджэту - 105,8 тыс. рублёў, пазабюджэтных сродкаў - 18,1 тыс. рублёў, спонсарская дапамога - 83,6 тыс. рублёў. Закуплены фізіятэрапеўтычны апарат УВЧ, апарат штучнай вентыляцыі лёгкіх, электракардыёграфы СМАРТ-6, пісталет аўтаматычны для біяпсіі мяккіх тканак, маніторы фетальныя матачныя і інш.

За 2017 год бягучыя рамонтныя работы выкананы ў аб'ёме 93,3 тыс. рублёў.

***Інфармацыя Лідскага райвыканкама.***

## ЛІДСКІ РАЁННЫ ВЫКАНАЎЧЫ КАМ1ТЭТ

## ВЫПІСКА З РАШЭННЯ

**13 лютага 2018 г. №175** **г. Лща, Гродзенская вобл.**

**Аб выніках спаборніцтва працоўных калектываў раёна за дасягненне высокіх паказчыкаў у эканамічным і сацыяльна-культурным развіцці ў 2017 годзе**

Абмеркаваўшы вынікі працы арганізацый і ўстаноў Лідскага раёна за 2017 год, Лідскі раённы выканаўчы камітэт ВЫРАШЫЎ:

1. Прысудзіць Ганаровы дыплом І ступені Лідскага раённага выканаўчага камітэта за першае месца сярод арганізацый:

за дасягнутыя поспехі ў развіцці прамысловасці - адкрытаму акцыянернаму таварыству "Лідскі малочнакансервавы камбінат" (генеральны дырэктар Эйсымонт Андрэй Адамавіч);

за дасягнутыя поспехі ў будаўнічай галіне - адкрытаму акцыянернаму таварыству "Будвектар" (дырэктар Петарс Віктар Пятровіч);

за дасягнутыя поспехі ў гандлёвым абслугоўванні - Лідскаму філіялу Гарадзенскага абласнога спажывецкага таварыства (старшыня Вадэйка Крысціна Пятроўна);

за дасягнутыя поспехі ў адукацыі і выхаванні моладзі - дзяржаўнай установе адукацыі "Сярэдняя школа № 1 г. Ліды" (дырэктар Фанасаў Сяргей Анатолевіч).

2. Прысудзіць Ганаровыя дыпломы II ступені Лідскага раённага выканаўчага камітэта за першае месца сярод арганізацый:

за дасягнутыя поспехі ў ахове здароўя - пульманалагічнаму аддзяленню ўстановы аховы здароўя "Лідская цэнтральная раённая бальніца" (загадчык Бубашкіна Надзея Сяргееўна);

у пастаноўцы ідэалагічнай працы ў працоўным калектыве - філіялу Лідскія электрычныя сеткі Гарадзенскага рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства электраэнергетыкі "Гроднаэнерга" (дырэктар Жук Віктар Станіслававіч);

за дасягнутыя поспехі ў працы ўстаноў культуры - дзяржаўнай установе культуры "Лідская раённая

бібліятэка імя Янкі Купалы" (дырэктар Мартынаў Арцём Мікалаевіч);

за дасягнутыя поспехі ў развіцці фізічнай культуры, спорту і турызму - дзяржаўнай установе "Спецыялізаваная дзіцяча- юнацкая школа Алімпійскага рэзерву № 3 Лідскага раёна" (дырэктар Мілюць Мечыслаў Эдвардавіч).

3. Прысудзіць Ганаровыя дыпломы II ступені Лідскага раённага выканаўчага камітэта за другое месца сярод арганізацый:

за дасягнутыя поспехі ў развіцці прамысловасці - сумеснаму закрытому акцыянернаму таварыству "Ліпласт-СПб" (генеральны дырэктар Рышкевіч Ігар Міхайлавіч).

4. Прысудзіць Ганаровыя дыпломы III ступені Лідскага раённага выканаўчага камітэта за першае месца сярод арганізацый:

за дасягнутыя поспехі ў развіцці малога і сярэдняга бізнэсу - таварыству з дадатковай адказнасцю "Спадарожнік-Сэрвіс" Лідскі раён (дырэктар Кавецкі Ян Генрыхавіч);

за дасягнутыя поспехі ў адукацыі і выхаванні дашкольнікаў - дзяржаўнай установе адукацыі "Яслі-сад № 24 г. Ліды" (загадчыца Ярашэвіч Алена Віктараўна);

за дасягнутыя поспехі ў побытавым абслугоўванні - адкрытаму акцыянернаму таварыству "Лідскі камбінат побытавых паслуг" (дырэктар Дыско Святлана Віктараўна).

5. Прысудзіць Ганаровыя дыпломы III ступені Лідскага раённага выканаўчага камітэта за трэцяе месца сярод арганізацый:

за дасягнутыя поспехі ў развіцці прамысловасці - замежнаму вытворчаму ўнітарнаму прадпрыемству "БЕЛТЭКС ОПТЫК" (дырэктар Матусевіч Алег Ігаравіч).

6. Занесці на раённую дошку Пашаны работнікаў арганізацый і ўстаноў раёна, якія дамагліся найлепшых паказчыкаў па выніках года:

Аўраменкава Дзяніса Юр'евіча - маёра міліцыі, начальніка аддзялення па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі крымінальнай міліцыі аддзела ўнутраных спраў Лідскага райвыканкама;

Антановіча Юрыя Віктаравіча - трактарыста-машыніста Лідскага раённага сельскагаспадарчага ўнітарнага прадпрыемства "Мажэйкава";

Белавокую Святлану Расціславаўну - тынкоўшчыка-маляра адкрытага акцыянернага таварыства "Лідскае рамонтна-будаўнічае прадпрыемства № 17";

Будэйку Аляксандра Мікалаевіча - падпалкоўніка, начальніка кіравання вайсковай часткі 1234;

Гагалушку Віталія Мікалаевіча - педагога сацыяльнай дзяржаўнай установы адукацыі "Лідскі раённы цэнтр творчасці дзяцей і моладзі";

Енка Таццяну Уладзіміраўну - намесніка загадчыка гарадской паліклінікай № 2 установы аховы здароўя "Лідская цэнтральная раённая бальніца";

Жэбрык Ірыну Зянонаўну - майстра цэха па вытворчасці камбікормавай прадукцыі адкрытага акцыянернага таварыства "Лідахлебапрадукт";

Івуць Святлану Валянцінаўну - старшыню Лідскай раённай арганізацыі грамадскага аб'яднання "Беларускі саюз жанчын";

Кедыка Віктара Іванавіча - старэйшага майстра па рамонце адкрытага акцыянернага таварыства "Торфабрыкетны завод "Дзітва";

Камінскага Алега Аляксандравіча - гвардыі падпалкоўніка, намесніка начальніка штаба - начальніка аператыўнага аддзялення 116 гвардзейскай штурмавой авіяцыйнай базы Ваенна-паветраных сіл і Войскаў супрацьпаветранай абароны;

Каравайка Валянціну Мар'янаўну - галоўнага бухгалтара камунальнага сельскагаспадарчага ўнітарнага прадпрыемства "Беліца- Агра";

Крывеня Валянціну Віктараўну - майстра вытворчага ўчастка адкрытага акцыянернага таварыства "Мінойтаўскі рамонтны завод";

Лейтара Юрыя Міхайлавіча - аддзельшчыка выдзіманых вырабаў цэха бясколернага шкла адкрытага акцыянернага таварыства "Шклозавод "Нёман";

Мікавоза Паўла Эдвардавіча - кіроўцу аўтамабіля першага класа філіяла "Аўтобусны парк № 2 г. Ліды" адкрытага акцыянернага таварыства "Гроднааблаўтатранс";

Мішкеля Станіслава Станіслававіча - выкладчыка ўстановы адукацыі "Лідскі дзяржаўны музычны каледж";

Рудэнку Ірыну Казіміраўну - загадчыцу кавярні "Сябрына" ўнітарнага камунальнага прадпрыемства "Гандлёвы цэнтр "Патсдам";

Сільвановіч Валянціну Генрыкаўну - майстра аддзела рамёстваў і традыцыйнай культуры дзяржаўнай установы "Лідскі раённы цэнтр культуры і народнай творчасці";

Ступяка Дзяніса Бранілававіча - начальніка пажарнага аварыйна-выратавальнага паста № 12 Лідскага раённага аддзела па надзвычайных сітуацыях установы "Гарадзенскае абласное кіраванне Міністэрства па надзвычайных сітуацыях Рэспублікі Беларусь";

Субача Паўла Аляксандравіча - электрагазазваршчыка даччынага будаўнічага ўнітарнага прадпрыемства "Лідская перасоўная механізаваная калона № 169";

Цімлеву Марыю Юр'еўну - вядучага інжынера-тэхнолага адкрытага акцыянернага таварыства "Лідскі камбінат побытавых паслуг";

Чырко Дзяніса Алегавіча - кіроўцу аўтамабіля Лідскага раённага вузла паштовай сувязі Гарадзенскага філіяла рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства паштовай сувязі "Белпошта";

Шэўчыка Валера Францавіча - рабочага па комплексным абслугоўванні і рамонту будынкаў і збудаванняў жыллёва- эксплуатацыйнай службы № 2 Лідскага гарадскога ўнітарнага прадпрыемства жыллёва-камунальнай гаспадаркі;

Шэдзя Андрэя Пятровіча - кіроўцу адкрытага акцыянернага таварыства "Лідаспецаўтатранс";

Яновіча Сяргея Рыгоравіча - трэнера-выкладчыка па спорце ўстановы "Лідская спецыялізаваная дзіцячаюнацкая школа алімпійскага рэзерву "Лакафарба".

7. Узнагародзіць Ганаровай граматай Лідскага раённага выканаўчага камітэта:

Блажэвіча Паўла Юр'евіча - слесара-рамонтніка вытворчасці № 2 адкрытага акцыянернага таварыства "Лакафарба" г. Ліды;

Букату Вольгу Мікалаеўну - настаўніка гісторыі дзяржаўнай установы адукацыі "Сярэдняя школа № 1 г. Ліды";

Бурбу Артура Валер'евіча - начальніка ўчастка будаўніча-мантажных работ адкрытага акцыянернага таварыства "Будаўніча- мантажны трэст № 19";

Васору Аляксандра Тадэвушавіча - інжынера раёна цеплавых сетак філіяла "Лідскія цеплавыя сеткі" Гарадзенскага рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства электраэнергетыкі "Гроднаэнерга";

Вітука Браніслава Браніслававіча - ветэрынарнага лекара камунальнага сельскагаспадарчага ўнітарнага прадпрыемства "Пескаўцы";

Вічканава Сяргея Аляксандравіча - наладчыка кантрольна-вымяральных прыбораў і аўтаматыкі адкрытага акцыянернага таварыства "Лідскае піва";

Дрывіцкую Тамару Міхайлаўну - намесніка загадчыка па асноўнай дзейнасці дзяржаўнай установы адукацыі "Яслі-сад № 40 г. Ліды";

Качынскага Дзмітрыя Іванавіча - трэнера-выкладчыка ўстановы "Лідская спецыялізаваная дзіцяча-юнацкая школа алімпійскага рэзерву "Лакафарба";

Качынскага Андрэя Іванавіча - трэнера-выкладчыка ўстановы "Лідская спецыялізаваная дзіцяча-юнацкая школа алімпійскага рэзерву "Лакафарба";

Кімана Пятра Янавіча - намесніка дырэктара дзяржаўнай установы "Палац культуры горада Ліды";

Крысінеля Лявона Лявонавіча - намесніка дырэктара па сыравіне і забеспячэнні адкрытага акцыянернага таварыства "Лідскі малочна-кансервавы камбінат";

Крыгіну Кацярыну Уладзіміраўну - дырэктара таварыства з абмежаванай адказнасцю "Дэлісі";

Кучынскую Ірыну Уладзіміраўну - інжынера-цеплатэхніка вытворчасці камунальных кацельных і цеплавых сетак Лідскага гарадскога ўнітарнага прадпрыемства жыллёва-камунальнай гаспадаркі;

Міхаловіч Ганну Уладзіславаўну - загадчыка секцыі "Абутак" унітарнага камунальнага прадпрыемства “Крама № 1 "Дом гандлю";

Нядвецкую Ірыну Раймундаўну - лекара-афтальмолага цэнтральнай раённай паліклінікі ўстановы аховы здароўя "Лідская цэнтральная раённая бальніца";

Астроўскага Аляксандра Мікалаевіча - генеральнага дырэктара адкрытага акцыянернага грамадства "Лідахлебапрадукт";

Рышкевіча Дзмітрыя Ігаравіча - спартоўца-навучэнца ўстановы "Лідская спецыялізаваная дзіцяча-юнацкая школа алімпійскага рэзерву "Лакафарба";

Чаплю Вальдэмара Антонавіча - інструктара па працоўнай тэрапіі дзяржаўнай установы сацыяльнага абслугоўвання "Лідская псіханеўралагічны дом-інтэрнат для састарэлых і інвалідаў".

8. Узнагародзіць Падзячным лістом старшыні Лідскага раённага выканаўчага камітэта:

Бялана Сцяпана Сцяпанавіча - наладчыка абсталявання аптычнага ўчастка замежнага вытворчага ўнітарнага прадпрыемства "БЕЛТЭКС ОПТЫК";

Борыс Ніну Іосіфаўну, загадчыка вытворчасці сталовай дзяржаўнай установы адукацыі "Сярэдняя школа № 15 г. Ліды" ўнітарнага камунальнага прадпрыемства "Камбінат школьнага сілкавання" г. Ліды;

Баярынаву Галіну Чеславаўну - старэйшую медыцынскую сястру стаматалагічнай паліклінікі ўстановы аховы здароўя "Лідская цэнтральная раённая бальніца";

Васілеўскую Святлану Расціславаўну - кладаўшчыка камунальнага сельскагаспадарчага ўнітарнага прадпрыемства "Ходараўцы-Агра", старасту вёскі Ігнаткаўцы Ходараўскага сельсавета;

Генца Арцёма Ігаравіча, электрамеханіка сувязі Лідскага занальнага вузла электрасувязі;

Драздоўскую Крысціну Станіславаўну - прадаўца крамы № 31 "Камсамольскі" адкрытага акцыянернага таварыства "Гандлёва-вытворчая фірма "Ліда";

Жаўнерку Алега Мікалаевіча, фармоўшчыка вырабаў і канструкцый даччынага вытворчага ўнітарнага прадпрыемства "Лідабудканструкцыя";

Жукоўскага Андрэя Вітольдавіча - муляра адкрытага акцыянернага таварыства "Будаўніча-мантажны трэст № 19";

Зубко Таццяну Яўгенаўну - намесніка дырэктара па навучальна-выхаваўчай працы дзяржаўнай установы адукацыі "Лідскі раённы экалагічны цэнтр дзяцей і моладзі";

Кардаша Сяргея Міхайлавіча - лекара рэнтгенолага Бярозаўскай гарадской бальніцы ўстановы аховы здароўя "Лідская цэнтральная раённая бальніца";

Качаноўскую Святлану Леанідаўну - намотчыка абмотак трансфарматараў цэха № 2 адкрытага акцыянернага таварыства "Лідскі завод электравырабаў";

Малярову Ганну Зыгмунтаўну - намесніка дырэктара па гаспадарчай працы дзяржаўнай установы адукацыі "Сярэдняя школа № 12 г. Ліды";

Навіцкага Віктара Станіслававіча - кіраўніка фермерскай гаспадаркі "Агра";

Асядач-Брылеўскую Кацярыну Казіміраўну - індывідуальнага прадпрымальніка;

Скеміша Леаніда Станіслававіча - станочніка дрэваапрацоўчых станкоў рамонтна-будаўнічай вытворчасці Лідскага гарадскога ўнітарнага прадпрыемства жыллёва-камунальнай гаспадаркі;

Станевіч Галіну Эдмундаўну - кладаўшчыка склада сыравіны і матэрыялаў адкрытага акцыянернага таварыства "Лідская абутковая фабрыка";

Сукача Алега Леанідавіча - выканаўца работ прыватнага будаўнічага ўнітарнага прадпрыемства "АльфаСтроІкс";

Сургіневіча Віктара Антонавіча - ліцейшчыка металаў і сплаваў ліцейнага цэха адкрытага акцыянернага таварыства "Лідскі ліцейна-механічны завод";

Сычэўскую Вяславу Іванаўну - дырэктара дзяржаўнай установы адукацыі "Бярозаўская дзіцячая школа мастацтваў";

Фомчанку Віталя Сяргеевіча - дырэктара таварыства з абмежаванай адказнасцю "Праліда";

Шэршня Аляксандра Канстанцінавіча - выпрабавальніка на герметычнасць цэха па вытворчасці сталёвых ацяпляльных радыятараў адкрытага акцыянернага таварыства "Кіравальная кампанія холдынга "Лідсельмаш";

Янушкевіч Таццяну Іванаўну - індывідуальнага прадпрымальніка.

Старшыня М.К. Карповіч.

Кіраўнік справамі І.І. Юч.

# Ад рамонту ЗіЛ-оў да вытворчасці камбайнаў *ААТ "Лідаграпраммаш" - 60!*

**Другое жыццё для ЗіЛ-а**

У сярэдзіне 50-х гадоў мінулага стагоддзя стала зразумела, што час машынна-трактарных станцый (МТС), якія ствараліся для аказання дапамогі калгасам і саўгасам сельскагаспадарчай тэхнікай, праходзіць. Неўзабаве яны былі скасаваны. У Лідзе гэта паслужыла пунктам адліку гісторыі новага прадпрыемства. Паводле Пастановы Савета Міністраў БССР № 405 ад 13 чэрвеня 1958 года, у нашым горадзе на базе былой МТС быў створаны Лідскі аўтарамонтны завод - прадпрыемства па рамонце ЗіЛ-оў. Узначаліў яго Анатоль Дакукаў. Першапачаткова на прадпрыемстве працавала 250 чалавек. Аўтамабілі паступалі сюды на рамонт з заходніх рэгіёнаў СССР - Украіны, Прыбалтыкі, Малдовы, Бранскай і Смаленскай абласцей. З часам колькасць адрамантаваных ЗіЛ-оў стала дасягаць 300 адзінак у год.

У 1961 годзе прадпрыемства перайшло ў падначаленне Галоўнага кіравання рамонту і вытворча-тэхналагічнага Рэспубліканскага аб'яднання Савета Міністраў БССР "Белсельгастэхніка". Адкрыліся новыя перспектывы. На заводзе з'явілася новае абсталяванне, металарэзныя станкі. Мадэрнізацыя прайшла паспяхова - ужо праз год аб'ём прадукцыі патроіўся, завадчане пачалі рамантаваць у два разы больш рухавікоў і ў сем разоў больш аўтамабіляў.

Са студзеня 1965 гады на рамзаводзе прыступілі да рамонту аўтамабіляў ЗіЛ-150, ЗіЛ-164, ЗіЛ-585 і іх агрэгатаў (да 1971 года гэты спіс папоўнілі ЗіЛ-130 і ЗіЛ-ММЗ-555).



*Галоўны корпус, сучасны выгляд*

**Моцны гаспадарнік**

У 1966 годзе кіраваць заводам быў прызначаны Юры Дулуб. За 15 гадоў ён ператварыў завод у квітнеючае прадпрыемства, на якім працавалі 1800 чалавек (а калі ён прыняў завод, было 400). Гэта пры Юрыю Дулубе пачала асфальтавацца тэрыторыя завода, былі пабудаваны шэсць 90-кватэрных дамоў на вуліцах Набярэжнай, Ігнатава, Качана і інтэрнат на 408 месцаў для працаўнікоў прадпрыемства, а таксама - дзіцячы сад-яслі на 280 ложкаў, піянерлагер на беразе Нёмана, набыта база адпачынку на беразе Чорнага мора, не кажучы ўжо пра развіццё вытворчасці.



***Дулуб Юры Дзмітрыевіч кіраваў аўтарамзаводом з 1966 па 1981 год***

Паступова пашыралася вытворчая база. Укараняліся новыя тэхналогіі, будаваліся новыя аб'екты. Калі ў 1969 годзе быў пабудаваны новы корпус плошчай 3,6 тысячы квадратных мет-



***Дакукаў Анатоль Рыгоравіч (крайні злева), першы дырэктар аўтарамзавода. Кіраваў прадпрыемствам з 1958 па 1966 год.***



мана тэхнічная дакументацыя на будаўніцтва ліцейнага комплексу прадукцыйнасцю 12,1 тысячы тон чыгуннага і каляровага ліцця ў год.

Пачынаючы з красавіка 1973 года, завод запрацаваў у новым рэжыме. Гэта было звязана са зменай структуры прадпрыемства. Цяпер у яго ўваходзілі пяць асноўных цэхаў: цэх аднаўлення і вырабу дэталяў (ЦАВД), маторарамонтны, разборкі і зборкі агрэгатаў, разборкі і зборкі машын, вырабу металаканструкцый. Гэта прыяло да ўдасканалення вытворчых працэсаў. У сярэдзіне 70-х на Лідскім аўтарамонтным заводзе ў год рамантавалі



*Галоўны канвеер авторемзавода, ідзе рамонт ЗіЛ-оў (60-е гады); галоўны канвеер па зборцы аўтамашын ЗіЛ пасля капрамонту (70-я гады)*



*Участак рамонту задніх мастоў аўтамабіляў ЗіЛ, 60-я гады*



*Працаўнікі інструментальнага ўчастку (на мяжы 70-80 гадоў)*



*У кантрольна-вымяральнай лабараторыи, 70-я гады*

раў, гэта стала сапраўднай падзеяй. Усярэдзіне новага корпуса размясціліся: галоўны канвеер зборкі машын, участкі разборкі і мыйкі аўтамабіляў, аддзяленні рамонту кабін і рам, кавальска-рысорны цэх, іншыя вытворчыя падраздзяленні, у тым ліку, фарбавальная і сушыльная камеры.

У лютым 1971 года пры заводзе адкрываецца Лідскае галаўное канструктарска-тэхналагічнае бюро "Союзсельгастэхніка". У гэтым жа годзе была атрыпрыкладна 8,5 тысячы рухавікоў і каля 2 тысяч аўтамабіляў.

10 студзеня 1975 года ў новым ліцейным комплексе завода была праведзена першая выпрабавальная плаўка чыгуну.

У наступныя гады прадпрыемства расло і развівалася, многія працаёмкія працэсы механізаваліся, паралельна ажыццяўлялася рэканструкцыя самога завода. Былі ўведзены новы цэх зборкі аўтамашын,



*Корпус заводакіраўніцтва, 1970 год. Сёння гэты корпус знаходзіцца на тэрыторыі завода, у ім размяшчаюцца вытворчыя цэхі*



*Хітрун Тадэвуш Станіслававіч, дырэктар аўтарамзавода з 1981 па 1986 год*



*Будынак інтэрната па вуліцы Таўлая неўзабаве пасля ўводу ў эксплуатацыю*



*Здымак 70-х гадоў*

участак апрацоўкі і падзборкі рухавікоў, запрацавала аддзяленне дыягностыкі. З лістапада 1981 года па 1986-ты заводам кіраваў Тадэвуш Хітрун. У 1984 годзе адкрыўся новы дадатковы адміністрацыйны крпус. Тым часам на заводзе працавала 1445 чалавек.

**Ліда-1300 - камбайн, які стаў легендай**

1 кастрычніка 1985 года адбылася рэарганізацыя прадпрыемства: у выніку яго падзелу былі ўтвораны два заводы - ліцейна-механічны і аўтарамонтны. На аўтарамонтным (са снежня 1986 года яго ўзначаліў Рамуальд Гатоўка) працягваліся работы па мадэрнізацыі вытворчасці, укараненні новых тэхналогій. Тым часам на заводзе ажыццяўляўся капітальны рамонт аўтамабіляў ЗіЛ-130, рухавікоў Урал-375, ЗіЛ-130, ВАЗ, АЗЛК, ЛАЗ; праводзілася афарбоўка кузаваў легкавых аўтамабіляў; выпускалася новая тэхніка - культыватары, сеялкі, раскідвальнікі ўгнаенняў, гідразмывы для свінакомплексаў (на гідразмывы быў асаблівa вялікі попыт, яны пастаўляліся па ўсім Савецкім Саюзе).

У 90-х гадах, у сувязі са стварэннем незалежнай беларускай дзяржавы і вялікімі зменамі, якія адбываліся ў эканоміцы, прадпрыемства ў сваёй дзейнасці павінна было ўлічваць змена попыту на адпаведныя віды прадукцыі і паслуг. А 4 кастрычніка 1993 года змяніўся яго статут, яно было ператворана ў адкрытае акцыянернае таварыства "Лідаграпраммаш". У гэты перыяд на заводзе быў наладжаны выпуск універсальных пнеўматычных сеялак



***Гатоўка Рамуальд Іосіфавіч, дырэктар завода з 1986 па 2005 год***

СПУ-3 і СПУ-6, якія аказаліся вельмі запатрабаванымі на ўнутраным і замежным рынках. Таксама завадчане асвоілі шырокі асартымент рознай сельскагаспадарчай тэхнікі: бульбаўборачны камбайн, паўпрычэп трактарны самаскідны, раскідвальнік угнаенняў, збожжапагрузчык "Норыя", культыватары розных мадыфікацый.

У 1994 годзе пачынаецца новая веха ў гісторыі прадпрыемства. Па даручэнні кіраўніка дзяржавы ў ААТ "Лідаграпраммаш" прыступілі да асваення сур'ёзнай тэхнікі - збожжаўборачных камбайнаў. Пры гэтым ставілася ўмова: збожжаўборачныя машыны не павінны саступаць па сваіх характарыстыках замежным аналагам, але пры гэтым быць больш даступнымі для спажыўца па кошце. Натуральна, адразу ж стаўка рабілася на супрацоўніцтва з вядучымі заходнімі вытворцамі. Найболей прывабныя ўмовы супрацоўніцтва прапанавала лідзянам міжнародная карпарацыя "CASE" (канцэрн "CASE New Holland" - адзін з найбуйных у свеце вытворцаў збожжаўборачных камбайнаў і будаўнічай тэхнікі). Першыя два ўзоры машын на базе "CASE-524" з'явіліся ў 1997 годзе, а праз два гады ў ААТ "Лідаграпраммаш" прыступілі да зборкі камбайнаў "Ліда-1300".

Новая збожжаўборачная тэхніка ад лідаграпраммашаўцаў літаральна адразу стабільна прапісалася на беларускіх палях. Гэтаму, у прыватнасці, спрыялі высокая прадукцыйнасць машыны, якасная малацьба, камфортныя ўмовы ў кабіне для камбайнёра. Сёння здаецца амаль неверагодным, што ў лімітава сціснутыя тэрміны (усяго за 3 гады) параўнальна невялікі калектыў - 842 працаўнікі - паспяхова асвоіў вытворчасць такой складанай тэхнікі. І, самае галоўнае, - вельмі запатрабаванай на той перыяд. Завадчане і сёння звязваюць гэты поспех з асобай дырэктара Рамуальда Гатоўкі.

Прадпрыемства асвойвала выпуск і іншай тэхнікі. Да прыкладу, на міжнароднай выставе "Белагра-2002" "Лідаграпраммаш" прадставіў адразу чатыры навінкі: сеялку для абганяльных культур, бульбакапалку і 2 плугі - трох- і пяцікорпусны. Цікавасць да прадукцыі прадпрыемства ў той час была проста велізарная. Укараненне перадавых тэхналогій і абсталявання ў разы павялічвала магчымасці прадпрыемства.

У 2003 годзе на ім працавала каля 800 чалавек і збіралася ад 2 да 4 камбайнаў у дзень. Кожны дзясяты камбайн на збожжавых палях краіны быў - Ліда-1300.

**Стаўка на запатрабаваную тэхніку**




***Легендарны камбайн "Ліда-1300"***

У 2005 годзе прадпрыемства ўзначаліў Віктар Круглы. У 2006 годзе ААТ "Лідаграпраммаш" было адным з найболей стабільна працаваўшых прадпрыемстваў сельскагаспадарчага машынабудавання ў Беларусі і ўвайшло ў спіс найбуйных пастаўшчыкоў сельгастэхнікі на рынкі СНД. Пастаўлялася яна таксама ў шэраг еўрапейскіх краін, у Іран.

Да пачатку пасяўной кампаніі 2007 года на заводзе былі выпушчаны 588 сеялак. Асартымент сеялак увесь час пашыраецца самымі сучаснымі

мадэлямі. У гэта ж час на прадпрыемстве выпускаюцца сельскагаспадарчыя машыны для жывёлагадоўлі. Ну і, плюс да ўсяго, 2007-мы стаў годам прарыву лідскіх камбайнаў на расійскі рынак.

Наступны, 2008-мы, год быў адзначаны пачаткам распрацоўкі новага, больш магутнага, збожжаўборачнага камбайна - "Ліда-1600". У 2009 годзе "Ліда-1600" ужо працавала на нашых палях. У гэтым жа годзе ў сельгаспрадпрыемствы Гарадзеншчыны было пастаўлена 100 такіх машын. Але гэтым спіс навінак не абмяжоўваўся. На прадпрыемстве ўжо працавалі над самаходным апырсквальнікам - машынай для ўнясення вадкіх угнаенняў з уражлівым размахам крылаў - да 24 метраў.

У наступныя гады ў ААТ працягвалася распрацоўка і наладжванне выпуску сельскагаспадарчых машын рознага прызначэння, якія не саступаюць сусветным аналагам. У гэтым важкую дапамогу аказвае Нацыянальная акадэмія навук Беларусі. На заводзе ўкараняецца сертыфікаваная сістэма мэнэджменту якасці вытворчасці сельскагаспадарчых агрэгатаў у адпаведнасці з патрабаваннямі СТБ ISO 9001-2009.

**Яны кіравалі ААТ "Лідаграпраммаш"**



***Круглы Віктар Віктаравіч (2005-2011 гады)***



***Плаўскі Алег Альфрэдавіч (2011-2015 гады),***



***Якубашка Часлаў Мар'янавіч (2015 год)***



***Дырэктар ААТ "Лідаграпраммаш" Віталь Якубчык (злева) і галоўны канструктар Радзівон Казлоў***

**Прыярытэт - інавацыям**

Сёння ў ААТ "Лідаграпраммаш", якім з верасня 2015 года кіруе Віталь Якубчык, вырабляецца больш 25 найменняў і тыпапамераў сельскагаспадарчых машын (апырсквальнік самаходны высокаклірансавы, апырсквальнік прычапны штангавы, збожжаўборачны камбайн "Ліда-1300", агрэгат глебаапрацоўчы пасяўны, сеялка пнеўматычная ўніверсальная, сеялкі дакладнага высеву, сеялка для ўнясення мінеральных угнаенняў, культыватары, бароны дыскавыя, касілкі, граблі-валкафармавальнікі, трактарныя прычэпы, каток лугавы і іншыя). Дзесяць з іх не маюць аналагаў у краінах СНД. Высокая якасць прадукцыі прадпрыемства пацвярджае наяўнасць СЕ-маркіроўкі, што з'яўляецца пропускам на рынкі краін Еўрасаюза. У цэлым геаграфія паставак прадукцыі ААТ "Лідаграпраммаш" сёння даволі шырокая: Расія, Казахстан, Украіна, Балгарыя, Польшча, Чэхія, Славакія, Літва, Сербія, Ізраіль, Іран, Малдова, Грузія, Азербайджан, Арменія і г.д.

У ААТ "Лідаграпраммаш" распрацаваны прагноз развіцця на 2018-2030 гады. Ён накіраваны на станоўчы фінансавы вынік. У ліку першачарговых задач, рашэнне якіх дапаможа адкрытаму акцыянернаму таварыству стабілізаваць фінансава-эканамічны стан, - пошук новых эфектыўных рынкаў збыту, распрацоўка і асваенне новых відаў прадукцыі (у тым ліку - інавацыйных), укараненне перадавых тэхналогій, аснашчэнне вытворчасці самым сучасным абсталяваннем і іншыя.



***Агрэгат глебаапрацоўчы пасяўны***



***Граблі-валкаўтваральнікі***



***Цэх завода***

**Ад ВІА і "Паўлінкі" да "Аграмашаўца"**

На прадпрыемстве заўсёды было насычанае грамадскае жыццё. Пра гэта кажа хоць бы такі факт: ніводны гарадскі агляд-конкурс мастацкай самадзейнасці не абыходзіўся без творчага калектыва ААТ "Лідаграпраммаш" (аўтарамзавода). У розныя гады прадпрыемства на гарадскіх аглядах-конкурсах прадстаўлялі танцавальныя калектывы, ВІА, вакальныя мужчынскія і жаночыя групы, салісты-вакалісты. Вельмі папулярным быў жаночы клуб "Паўлінка". На заводзе працавалі спартовыя секцыі па валейболе, футболе, міні-футболе, лёгкай атлетыцы, водным турызме, спартовым турыстычным арыентаванні, водным спорце. Спартовыя каманды завода атрымлівалі шматлікія перамогі ў спаборніцтвах рознага ўзроўню - ад гарадскіх да рэспубліканскіх. Вялікую ролю ў грамадскім жыцці прадпрыемства іграе прафсаюзная арганізацыя, якую з 2011 года ўзначальвае Алена Місейка. Прафсаюз ажыццяўляе сваю дзейнасць у цесным звязку з кіраваннем кадравай, ідэалагічнай і арганізацыйнай працы, якім з 2016 года кіруе Андрэй Расенік. На прадпрыемстве працуюць першасныя арганізацыі ГА "Беларускі саюз жанчын", БРСМ, ГА "Беларускае таварыства Чырвонага крыжа", савет калектыва фізічнай культуры "Аграмашавец".



***Спартовыя ўзнагароды аўтарамзавода за розныя гады***

**У біяграфіі завода - іх імёны**

У ААТ "Лідаграпраммаш" створана "Кніга народнай славы прадпрыемства". У яе занесены імёны тых, хто ў розны час працаваў на заводзе і без каго проста немагчыма ўявіць яго гісторыю. Гэта - кладаўшчык гатовай прадукцыі Зміцер Пазднякоў, слесары Іван Раманаў і Барыс Якаўлеў, аўтаслесары Іван Маліноўскі і Мікалай Шабоцька, майстар АГМ Франц Гальмонт, галоўны інжынер Анатоль Бязлепкін, слесар-рамонтнік АГМ Васіль Ашмяна, электразваршчык цэха зборкі арматуры Эдуард Алюшкевіч, загадчык матэрыяльных складоў Іван Касмач, майстар па ўсталёўцы тэхналагічнага абсталявання Аляксей Беразанскі, намеснік начальніка тэхаддзела Павел Сяргееў, прасаўшчыца Ірына Чура, каваль Міхаіл Бярэзін, мадэльшчык Мікалай Караткевіч, брыгадзір комплекснай брыгады Анатоль Вострыкаў, старшы інжынер па працы Ядвіга Шпак, старшы майстар маторарамонтнага цэха Ян Сургяневіч, старшы майстар Яўген Сарока, Леанід Клусевіч, дырэктар Рамуальд Гатоўка.






***Святкаванне 60-годдзя ААТ "Лідаграпраммаш"***

***Ганна Лісоўская,***
***lidanews.by.***

***Леанід Лаўрэш***

# Прыход у Турэйску

Менавіта тут, каля сучаснай вёскі Турэйск, знаходзіўся першы на Лідчыне горад. Гэта паселішча цалкам адпавядала ўсім крытэрыям сярэднявечнага горада і ў летапісах мела назву Турыйск (ад невялічкай рачулкі Тур'я, якая працякае побач і ўпадае ў Нёман). Зараз дакладна вядома месцазнаходжанне летапіснага горада, яго гарадзішча знаходзіцца на трох узвышшах на ўсходняй ускраіне сучаснай вёскі, на правым беразе ракі Нёман. Зараз гэта адно з самых маляўнічых месцаў Панямоння.

З летапісаў вядома, што у 1252-1253 гг. князь Даніла Галіцкі прыходзіць з вайной на панёманскія гарады, якія былі пад уладай Міндоўга[1]. Так, разам з Наваградкам, Ваўкавыскам, Слонімам на старонкі пісьмовых крыніц трапляе і Турыйск. Вынікам паходу 1253 г. стаў мірны дагавор 1254 г., па якому Панямонне перадавалася сыну Данілы - князю Раману. На пачатку 50-х гг. XIII ст. сын Міндоўга, верагодна Войшалк, *"воева около Тоурьска"*. Падчас сутыкнення ў 1276 г. Льва Данілавіча і Уладзіміра Васількавіча з Трайдзенем і Сярпуціем *"Володимер же противу тому, послав взяв у него Тоуриск на реце Немне, и сёла около нега поима"* [2].

Археолагі сведчаць, што старажытны Турэйск узнік пры канцы XI ст. і быў горадам - адміністрацыйным цэнтрам сельскай акругі. Археолаг Сяргей Піваварчык піша: *"Спачатку гэта было неўмацаванае славянскае паселішча. Пасля пажару, які знішчыў першапачатковае паселішча, узвышша, на якім яно знаходзілася з напольнага боку было ўмацавана валам. Адначасова пачалі засяляцца навакольныя мясцовасці, утвараючы такім чынам пасады. Паселішча ператварылася ў цвердзь, з якой затым і вырас невялікі гарадок. Тое, што гэта сапраўды летапісны Турыйск, дазваляе сцвярджаць комплекс прызнакаў, якія і адрозніваюць горад: планіроўка (дзядзінец і пасад), тэрыторыя засялення каля 1,5 га, магутнасць культурнага пласта да 1,5 м, рэшткі рамеснай вытворчасці (у першую чаргу металургіі і апрацоўкі жалеза), знаходкі ў культурным пласце - фрагменты амфар, шкляныя бранзалеты, высокамастацкія касцяныя вырабы, кніжная зашпілька"* [3].

Археолагі адзначаюць блізкасць матэрыяльных культур Гародні і Турыйска[4]. Верагодна гарадзенскія князі зрабілі Турыйск цэнтрам збору падаткаў з мясцовай сельскай акругі. У Іпацьеўскім летапісе ў 1276 г. названы сёлы каля Турыйска на Нёмане. Адначасова ён быў цвердзю на мяжы Гарадзенскага і Навагародскага княстваў. Горад загінуў ў агні ў другой палове XIII ст. праз кароткі час пасля свайго ўзнікнення[5].

Першая інфармацыя пра існаванне царквы адносіцца да 1558 г., тады ж згадваецца Турыйскі поп Дзюк Швядзіцкі[6].

Царква Св. Мікалая, згодна з інфармацыяй крыніц, якія захоўваліся ў ёй яшчэ ў сярэдзіне XIX ст., у 1630 г. ужо існавала. Гэта быў драўляны будынак на каменным падмурку[7].

Я пераклаў інвентар вёскі Турэц за 1765 г., калі яна была ў складзе Панямонскага войтаўства, якое ў сваю чаргу было часткай Барцянскага староства (гл. дадатак)[8].

Візітатар 1792 г. занатаваў: *"Царква пад тытулам Св. Мікалая знаходзіцца ў Лідскім павеце, дэканаце, у фундацыі і каляцыі яснавяльможных паноў Макрэцкіх. Драўляная, добрая, на каменным фундаменце, гонтай крытая, з купалам ..., з жалезным крыжам. У царкве тры ... званы, з іх адзін меншы, разбіты. Гэтыя 3 званы важаць 3 камяні. Таксама ёсць малы купал з жалезным крыжам. Могілкі неагароджаныя, на 25 локцяў. Уваход у царкву праз бабінец, у ім дзверы на жалезных завесах з драўлянай зашчапкай. За гэтымі дзвярыма, па правым баку, дзверы на жалезных завесах, з зашчапкай, прабоямі і навясным замком у шопку ці сакрыстыю, дзе акно белага шкла ў акяніцы. У царкве столь з габляваных дашак, хор з балясамі, 4 добрыя акны з драўлянымі рамамі. 1 лаўка і канфесіянал сталярнай работы, поручы перад Вялікім алтаром"* [9].

У візітацыі 1784 г. адзначана, што царкоўны

[1] Ипатьевская летопись [в:] ПСРЛ, т. II, Москва 1962, с. 819, 828.

[2] Ипатьевская летопись, ПСРЛ, т. II, Москва 1962, с. 874..

[3] Піваварчык С. Беларускае Панямонне ў раннім сярэднявеччы (X-XIII ст. ст.) // BZH. № 2 (6). 1996. С. 15.

[4] Зверуго Я. Г. Верхнее Понеманье в XI-XIII вв., Мн. 1989, С. 75.

[5] Зверуго Я. Г. Верхнее Понеманье..., Мн. 1989, С. 89.

[6] Туристским маршрутом "По святыням Щучинского района" / Составитель Т.А. Тикунова. - Щучин: ГУО "Щучинская районная база юных туристов", 2009. // http://virtual-museum.shhuchin.edu.by/be/main.aspx?guid=2521

[7] Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами Генерального штаба. Виленская губерния. СПб., 1861. С. 549.

[8] ДГАЛ Ф. 11. Спр. 30. Lustracja starostw, dzierzaw i innych Krolewszczyzn w powiecie Lidzkim sytuowanych w r. 1765. А. 107.

[9] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі. Ф. 136. Воп. 1. Спр. 41244. Візіты цэркваў Лідскага дэканата. 1792 г. А. 9

фундуш *"да Масквы забраны"* [10], відавочна, падчас вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654-1667 гг. 12 ліпеня 1790 г. мечнік Лідскага павета Людвік Макрэцкі ахвяраваў 112 злотых на набыццё двух валоў для царкоўнай гаспадаркі[11].

Да 1784 г. згарэла жылая частка плябанскіх будынкаў[12], да 1792 г. яны не былі адноўлены[13].

Вядомы наступныя грэка-каталіцкія святары Турэйскай царквы.

Падчас візітацыі 1784 г. адміністратарам царквы быў а. Антон Снарскі[14]. А. Антон Бароўскі служыў у Турэйскай царкве да 1792 г., потым быў пераведзены ў царкву мястэчка Ятвеск Гарадзенскага павета, у 1795 г. візітатар запісаў пра яго: *"Звычаяў незаганных, навук слабых, гаспадарку з дапамогай сына рэгулярна даглядае"*[15]. Непрацяглы час у 1792 г. у Турэйскай царкве працаваў а. Міхал Сямацкі[16]. Пасля яго, пасаду заняў а. Рыгор Шыманскі[17].

А. Цыпрыян Плаўскі (сын Плацыда) нарадзіўся ў 1776 г., з 1795 г. быў адміністратарам царквы, *"звычаяў незаганных, навук слабых"*. Меў сыноў Францішка (1803 г. н.) і Рыгора (1806 г. н.)[18].

Пачынаючы з 1817 па 1837 г. вікарыем царквы служыў Ануфры Пракаповіч[19]. З 1832 святаром царквы быў а. Юстын Пратасевіч[20]. Толькі два месяцы пасля яго служыў а. Якуб Валачкевіч, ён памёр 20.04.1837 г. на пасадзе адміністратара царквы ў Турэйску[21].

Пасля скасавання уніі, святары і вернікі не ведалі праваслаўнай службы. Прыкладам, як здзяйснялася богаслужэнне былымі ўніяцкімі святарамі, можа служыць адпраўленне літургіі на Вялікдзень 1840 г. у Турэйскай царкве святаром Пратасевічам. Пры гэтым удзельнічаў Лідскі дабрачынны Брэн і яшчэ тры "святары-кантралёры". Уваходныя малітвы перад літургіяй Пратасевіч чытаў настолькі хутка і незразумела, што, як заўважыў Брэн, ледзь можна было разабраць першае і апошняе слова ў кожнай малітве, прычым замест *"Христос воскресе"*, ён чытаў *"Царю Небесный"*. Падчас праскамідыі, Пратасевіч, з-за сухасці прасфоры паліваў яе вадой. Падчас службы зусім не выкарыстаў кадзіла. Перад пачаткам літургіі, замест *"Христос воскресе"*, зноў чытаў *"Царю Небесный"*, прытым тэкст чытаў так, што святары - "кантралёры" якія стаялі ў алтары ледзь маглі чуць адно ці два слова, гучна прамаўлялася толькі *"помолимся и предадим"*.

Пры вялікім уваходзе Пратасевіч вельмі хутка і незразумела назваў царскую сям'ю і мясцовага архірэя, а пасля ўваходу не зачыніў царскіх варот. Сімвал веры толькі пачаў чытаць і замаўчаў, дзяк стоячы на каленях, адгукаўся на словы святара - *"Господи помилуй"* і *"подай Господи"*, а сімвал веры не прамаўляў. Пасля воклічу *"Твоя от Твоих"*, - святар малітвы не чытаў, а толькі спешна кладучы на сябе крыж, казаў: *"Господи, иже не отыми от нас"*. Малітву *"Отче наш"* прамовіў так хутка, што нічога нельга было чуць, акрамя *"от лукавого"*, а дзяк зусім не ведаў гэтай малітвы і маўчаў разам з народам. Пасля воклічу *"Святая Святым"* і ўкладання часціцы Св. Ягняці з надпісам *"Иисус"* у келіх, Пратасевіч *"не вливал теплоты"*, хоць збан з вадой стаяў на ахвярніку. Пасля прычашчэння ён не чытаў падзячнай малітвы, але ківаючы над прастолам пацірам, прамовіў: *"Со страхом Божьим"*. Замест *"Христос воскресе"* святар чытаў: *"Видехом свет"*. Перад словамі *"благословение Господне"* вялікім пальцам правай рукі паказваў на крыж над прастолам і дабраслаўляў народ. Пасля абедні, чытаў перадшлюбныя малітвы па-польску і, стоячы на каленях, спяваў: *"Под твою милость"*. Па прыкладзе святара і ўвесь народ на працягу абедні стаяў на каленях[22].

Аўтар кнігі "Материалы для географии и статистики…" пісаў, што ў 1820 г. старую драўляную царкву аднавіла абшарніца Янкоўская[23]. Але ён памыляецца, бо ў архіўнай справе ад 30 кастрычніка 1834 г. напісана: *"Па загадзе … Губернатара Гродзенскага аб новай царкве, якая знаходзіцца ў вёсцы Турэйск, на яе пабудову … Лідскага павета памешчыкамі Янкоўскай і Макрэцкім, дадзена 6 000 злотых"* [24].

Гісторык Ф. В. Пакроўскі ў канцы XIX ст. пісаў: *"Узвышаная мясцовасць, на якой пабудавана Турэйская царква, указвае на сляды штучнай планіроўкі, што несумненна вынікае з назіраных дагэтуль двух равоў, з усходняга і заходняга боку царквы. На цвінтары знаходзіцца шмат камянёў са старымі надпісамі, а на прасторы паміж царквой і сялом часта*

[10] НГАБ. Ф. 136. Воп. 1. Спр. 41244. А. 10.

[11] Там жа.

[12] ДГАЛ. Ф. 634. Воп. 1. Спр. 53. А. 118.

[13] НГАБ. Ф. 136. Воп. 1. Спр. 41244. А. 10 адв.

[14] Лісейчыкаў Дзяніс. Святар у беларускім соцыуме: прасапаграфія ўніяцкага духавенства 1596?1839 гг. С. 485.

[15] Там жа. С. 134.

[16] Там жа. С. 500.

[17] Там жа. С. 573.

[18] Там жа. С. 423.

[19] Там жа. С. 426.

[20] Там жа. С. 428.

[21] Там жа. С. 166.

[22] Извеков Н. Д. Исторический очерк состояния православной церкви в Литовской епархии за время с 1839-1889 г. Москва, 1899. С. 417-418.

[23] Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами генерального штаба. Виленская губерния. СПб., 1861. С. 549.

[24] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў г. Гродна. Ф. 1, Воп. 27, спр. 703.



***Турэйская царква***

*трапляюцца косці і старадаўняя срэбная і медная манета, некалькі асобнікаў якой павінна захоўвацца ў мясцовага святара"* [25].

У 1866 г. тамбоўскі паліцмайстар Колабаў, прыстаў Смірноў (верагодна, з былых "абрусіцеляў" нашага краю, зарабіўшых сябе тут чын і капітал) і некалькі тамбоўскіх купцоў, праз міравога пасярэдніка 2-га ўчастка Лідскага павета Балагоўскага, ахвяравалі Шчучынскаму дабрачыннаму шэраг царкоўных рэчаў на 348 руб. 50 кап. срэбрам. Рэчы пайшлі ў Турэйскую, Шчучынскую, Арлянскую, Дэмбраўскую і Сабакінскую цэрквы[26].

Будынак сучаснай Турэйскай царквы быў пабудаваны з каменю ў 1875 г. Відавочцы ўспаміналі: *"Унутраны строй царквы быў вельмі багаты, кожная ікона мела прыгожы ківот. Падсвечнікі ззялі пазалотай і чысцінёй ..."*. Тады ж быў замоўлены абраз Святіцеля Мікалая *"пісаны залатым пісьмом"*. Зараз абраз Св. Мікалая знаходзіцца ў Шчучынскім храме, куды ён быў прывезены на захаванне ад здзекаў у савецкія часы[27].

У канцы XIX ст. царква мела 163,5 дзесяціны зямлі (з яе - 68 раллі, 23 сенажаці, 28 пашы, 8,5 лесу і 3 дзесяціны пад сядзібай). Прыхаджан - 1 096 жанчын і 1 088 мужчын[28].

Трошкі пра святроў XX ст.

**Трашуцін Карнілій Фёдаравіч** (1882-1955). У 1916 г. быў пераведзены ў Літоўскую епархію і накіраваны ў Пакроўскі прыход в. Гародзькі. 07.12.1918 г. камандзіраваны ў Маламажэйкаўскую царкву Лідскага павета, але хутка, 02.09.1919 г., прызначаны настаяцелем Мікалаеўскага храма в. Турэйск. 09.07.1924 г. пераведзены ва Успенскі прыход в. Хаценчыцы Вілейскага пав., цяпер Вілейскі р-н Менскай вобл.

У 1928 г. у Турэйскай Свята-Мікольскай царкве з'явіўся спіс Ракавіцкай Божай Маці, вельмі паважаны мясцовымі вернікамі[29].

Святар **Іван Аляхновіч** (15.01.1886-05.09. 1943) нарадзіўся ў мястэчку Докшыцы. Па сваёй першай адукацыі працаваў на паштова-тэлеграфнай станцыі. У час Першай сусветнай вайны быў начальнікам

[25] Труды Виленского отделения Московского предварительного комитета по устройству в Вильне IX Археологического съезда. Отдел II. Вильна, 1893. С. 102.

[26] Литовские епархиальные ведомости. 1866. № 6. С. 156-158.

[27] Свято-Николаевская церковь в д. Турейск // http://virtual-museum.shhuchin.edu.by/be/main.aspx?guid=2521

[28] Извеков Н. Статистическое описание православных приходов Литовской епархии. Вильна, 1893. С. 28.

[29] Свято-Николаевская церковь в д. Турейск // http://virtual-museum.shhuchin.edu.by/be/main.aspx?guid=2521



***Вольга і Іван Аляхновічы***

палявога тэлеграфнага аддзялення ў расійскай арміі. У 1919-м г. прызначаны псаломшчыкам Віленскага кафедральнага сабора, быў іпадыяканам. У 1921-м г. скончыў багаслоўскія класы Віленскай духоўнай семінарыі, рукапакладзены ў сан іерэя. Служыў настаяцелем у Жыжмянскай царкве. У 1924-м г. пераведзены ў Дакудаўскую царкву. У 1930-34 гг. служыў у вёсцы Сарокі Глыбоцкага раёна, працаваў у Глыбоцкай польскай гімназіі. Са студзеня 1934 г. - у мястэчку Івянец. У верасні таго ж года прызначаны настаяцелем царквы ў Турэйску на Шчучыншчыне. Адначасна служыў у царкве Нараджэння Божай Маці ў Ракавічах[31].

У 1942 г. разам з жонкай, матушкай Вольгай, святар быў забіты жаўнерамі Арміі Краёвай[31]. У гэты прыход быў прызначаны новы святар - айцец Васіль, які таксама быў забіты на трэці дзень пасля прыезду[32]. Віктар Ярмалковіч піша, што святар Аляхновіч з жонкай быў забіты ў 1943 г. у Ракавічах[33].

Протаіерэй Віктар Сечка ў 1946 г. быў асуджаны да 20 гадоў лагераў, вызвалены ў 1956 г. У 1956 - 1962 гг. з'яўляўся настаяцелям Турэйскай царквы. Памёр у 1976 г.[34], пахаваны на могілках в. Лебяда Лідскага р-на.

У хрушчоўскія часы Турэйскі храм быў напалову разбураны. Скінуты і знішчаны купалы, а сам будынак пераабсталяваны пад склад збожжа і запчастак для сельскагаспадарчых машын. Жыхарка вёскі сведчыла: *"Адзін з партыйных работнікаў* (прозвішча не назвала) *сарваў з Царскай Брамы створку дзвярэй і прыстасаваў яе ў грамадскім вулічным туалеце!? ... Але прайшоў час, і гэтага злыдня напаткала лютая смерць - здох на дарозе"* [35].

У 1992 г. храм вёскі Турэйск быў зноў асвечаны пры вялікай колькасці народу.

9 красавіка 2017 г. у Ракавіцкай царкве была асвечана памятная дошка, прысвечаная святару а. Івану Аляхновічу, забітаму падчас Другой сусветнай вайны.

**Вёска Турэйск у складзе Панямонскага войтаўства Барцянскага староства, 1765 г.** [36]

| Дымы | Зямля, валокі | | Вёска Турэйск | Грашовыя выплаты | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Асадныя | Вольныя | | Злотыя | Грошы | Шэлягі |
| 1 | 1/4 | | Лукаш Паўлоўскі | 10 | | |
| 2 | 1/4 1/16 | | Мікалай Гоман | 12 | 15 | |
| 3 | 1/4 1/8 | | Ян Бароўскі | 15 | | |
| 4 | 1/8 | | Лапёва, удава | 5 | | |
| 5 | 1/8 | | Казімір Гоман | 5 | | |
| 6 | 1/4 1/8 | | Якуб Дзмітрукевіч | 15 | | |
| 7 | 1/4 1/8 | | Ян Паўлоўскі | 15 | | |
| 8 | 1/2 | | Міхал Паўлоўскі | 20 | | |
| 9 | 1/5 1/8 1/6 | | Марцін Цывінскі | 19 | 20 | |
| 10 | 1/5 | | Драздова, удава | 8 | | |
| 11 | 1/5 1/8 | | Фёдар Рагалевіч | 13 | | |
| 12 | 1/5 1/8 | | Васіль Чэбарака | 13 | | |
| 13 | 1/2 | | Мацей Запольскі | 20 | | |
| 14 | 1/2 1/6 | | Дайлідава, удава | 26 | 20 | |

30 Хільмановіч Уладзімір. Угодкі забойства праваслаўнага святара Івана Аляхновіча // https://www.racyja.com/hramadstva/ugodki-zabojstva-pravaslaunaga-svyat

31 Лідзкая акруга падчас нямецкае акупацыі 1941-1944 г. // Беларуская Думка, №1, кастрычнік 1960. С. 7.

32 Силова С. В. Крестный путь: белорусская православная церковь в период немецкой оккупации 1941-1944 гг. Минск, 2005. С. 44.

33 Ярмалковіч Віктар. Пазнавайма родны край. Інстытут Беларусаведы. Ляймэн, 1989. С. 78.

34 Горны Аляксандр. Мартыралог Гродзенскай епархіі (1917-1961). Гродна, 2012. С. 16.

35 Свято-Николаевская церковь в д. Турейск // http://virtual-museum.shhuchin.edu.by/be/main.aspx?guid=2521.

36 ДГАЛ Ф. 11. Спр. 30. Lustracja starostw, dzierzaw i innych Krolewszczyzn w powiecie Lidzkim sytuowanych w r. 1765. A. 107.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 15 | 1/6 | | Ненартовіч, удава | 6 | 20 | |
| 16 | 1/8 | | Антон Кунцэвіч | 5 | | |
| 17 | 1/2 1/12 | | Грыгор Ненартовіч | 23 | 10 | |
| 18 | 1/5 1/6 | | Міхал Жылюк | 14 | 20 | |
| 19 | 1/4 1/8 | | Пётр Бароўскі | 13 | 10 | |
| 20 | 1/4 1/8 | | Ян Пятрашка | 15 | | |
| 21 | 1/8 | | Тамаш Пятрашка | 5 | | |
| 22 | 1/4 1/6 | | Андрэй Пятрашка | 16 | | |
| 23 | 1/4 1/6 | | Юзаф Пятрашка | 16 | 20 | |
| 24 | 1/4 1/6 | | Антон Някрэвіч | 16 | 20 | |
| | | 1/2 1/5 1/2 1/32 | У пусташы | | | |

Разам у гэтай вёсцы: гаспадароў - 24, зямлі, валок - 11, чыншу - 330 зл. 25 гр., жыта - 1 бочка, ячменю - 1 бочка, аўсу - 1 бочка, ялавічнага - 30 зл., сеннага - 15 зл., вартаўнічага - 15 зл., палатнянага - 8 зл.

**Візітацыя царквы вёскі Турэйск, 1784 г.** [37]

Царква пад тытулам Св. Мікалая ў фундацыі і каляцыі яснавяльможных паноў Макрэцкіх, знаходзіцца ў Лідскім павеце і дэканаце. Драўляная, новая, на каменным фундаменце, гонтай крытая, на купале жалезны крыж. У купале тры званы, з іх адзін меншы, разбіты. Тыя 3 званы важаць 3 камяні. Таксама ёсць малы купал з жалезным крыжам. Могілкі неагароджаныя. Уваход у царкву праз бабінец у дзверы на жалезных завесах з зашчапкай і прабоямі і навясным замком. У сакрыстыі акно белага шкла ў акяніцы. У царкве столь з габляваных дошак, хор з балясамі, 4 добрыя акны. Лаўка - 1 і канфесіянал сталярнай работы, поручы перад Вялікім алтаром.

**Вялікі алтар** з абразам Св. Мікалая, на абразе срэбныя сардэчка і таблічка, фіранка з грызету. На прастоле незамкнутая старая дараносіца, у ёй у алавянай даразахавальніцы захоўваюцца Святыя Дары. Падсвечнікаў драўляных - 3 пары. Укрыжаванне з корпусам алавянае. Ручнікоў - 2. Абрус-пакрывала гарусавае. Партатэл[38] лацінскі. Заслона алтара зялёная, гарусная і прыступкі. Драўлянае крэселка пад Службоўнік.

**Бакавы алтар** з абразом Унебаўзяцца Найсвяцейшай Панны Марыі, на ім - 2 срэбныя кароны і сардэчка, фіранка сеткавая з ніці. На драўляным прастоле Укрыжаванне з драўляным корпусам. Падсвечнікаў драўляных - 1 пара. Ручнікоў - 2. Абрус-пакрывала палатнянае. Падушка пад Службоўнік. Заслона алтара драўляная.

**Алтар другі** бакавы без усялякіх упрыгожванняў, з абразом Св. Юрыя на прастоле. Крыж з корпусам драўляны. Падсвечнікаў драўляных - 1. Ручнікоў - 2. Абрус-пакрывала гарусавае. Заслона алтара гарусавая.

**Царкоўнае начынне.** Пацір срэбны пазалочаны знутры з дыскасам. Дараносіца для Святых Дароў для хворых срэбная. Мерніца алавяная ... другая старая. Ампулка алавяная добрая. Кадзільніца вялікая, старая. Алтарных званкоў - 4 і 1 - у сакрыстыі. Бурса для хворых кітайкавая, старая. Крыж для працэсіяў. Харугвы гарусныя - 2, надта старыя, з абразамі. Крыж дуты (полы) срэбны пазалочаны з корпусам, зламаны.

**Вагі**. Пацір з дыскасам і дараносіца для Святых Дароў для хворых важаць 2 грыўні і 1 лот. Крыж дуты (полы) - 6 лотаў. Таблічка і 2 сардэчкі важаць 8 лотаў. Даразахавальніца і пацір алавяныя важаць 2 грыўні. Ампулка, дыскас, лыжачка, 2 мерніцы важаць 2 грыўні. 5 званкоў і кадільніца важаць 2 1/2 грыўні.

**Літургічнае ўбранне**. Адно з цяжкага шоўку, белае, з усім неабходным. Другое аксамітнае, зялёнае, старое, патрабуе рамонту, з усім неабходным. Трэцяе кармазінавае, кітайкавае, з усім неабходным. Чацвёртае новае, кітайкавае ў паскі, белае ў кветкі, з усім неабходным. Альба тканая з гумералам у паскі. Комжа тканая - 1. Карпаралаў - 3. Пурыфікатараў - 8.

**Кнігі.** Службоўнік стары, выдадзены ва Уневе, ін-фоліо. Празнея[39] старая, друкаваная. Евангелічка польская, малая. Трэбнік стары. Метрыкі хрышчэнняў, шлюбаў і спіс парафіі.

**Плябанія**. Хата белая з сенямі і пякарня, выпадкова згарэлі. Невялікі свіран: дзверы на жалезных завесах з клямкай і зашчапкай ... . Гумно, адрына, хлеў старыя і дрэнныя, саломай крытыя. Усё пабудавана парахам.

**Зямля.** Адна валока ў трох частках.

[...]

**Парафія**. Вёска Турэйск, 5 дымоў; вёска Карповічы, 3 дымы; вёска Крупа, 5 дымоў; вёска Русакі, 5 дымоў; вёска Бабічы, 3 дымы; вёска Перакоп, 3 ды-

[37] ДГАЛ. Ф. 634. Воп. 1. Спр. 53. Візіты цэркваў Лідскага і Слонімскага дэканата. 1784 г. А. 117 адв. - 119.

[38] У традыцыях Заходняй царквы - невялікі ахвярнік з абразом. Выкарыстоўваецца падчас працэсій.

[39] Празнея - спрошчаны варыянт назвы святочнай Мінеі. Мінеі бывалі некалькіх відаў, і адзін з відаў гэта святочная, скарочаная Мінея, якая ўтрымлівала службы на нядзелі і святы.

мы; вёска Новікі, 4 дымы; вёска Варонішкі, 4 дымы; вёска Чарнякі, 5 дымоў; вёска Карпішкі, 5 дымоў; вёска Балічы, 7 дымоў; вёска Курылкі, 7 дымоў; вёска Раманавічы, 3 дымы; вёска Тарасы, 5 дымоў; вёска Давідкі, 4 дымы; вёска Рымкі, 7 дымоў; вёска Сарокі, 18 дымоў; вёска Якуцэвічы, 9 дымоў. Разам 117 дымоў. Мужчын да споведзі - 277, не да споведзі - 142. Жанчын да споведзі - 199, не да споведзі - 97. Усіх - 635.

**Дакументы.** Усіх няма. Штук 20. Першы, генеральная візіта, у якой апісваецца фундуш царквы, да Масквы забраны. 2-гі, асекурацыя[40] вялебнага святара Сяняўскага, пастыра турэйскага на адпраўленне Св. імшы ў пятніцу за душу Уладзіслава Макрэцкага. 3-ці, да каменд. ... пісаны. 4-ты, аўтэнтычная лягацыя на палову валокі зямлі ад вёскі Павошынскай. 5-ты, копія гэтай лягацыі. 6-ты, візітацыя гэтай царквы. 7-мы, копія прывілея на сенажаць ад Гаеўскага. 8-мы, да каменд. вялебнага святара Заблоцкага, святара Турэйскага. 9-ты, асекурацыя разам з распіскай васпана Лаеўскага на сенажаць. 10-ты, апісвае пашу разам з сенажацю. 11-ты, копія лягацыі. 12-ты, абмер зямлі Турэйскай царквы ...

У гэтай царкве адміністратарам ёсць вялебны святар Антон Снарскі, высвечаны яснавялебным мітрапалітам усяе Русі Гедэонам Грабніцкім 25 красавіка 1781 г. Прэзентаваны ад вяльможных паноў Юзафа і Людвікі Макрэцкіх 18 лютага 1784 г. ... шэсць месяцаў. ...

**Парафіяне Турэйскай царквы ў 1829 г.** [41]

**Вёска Турэйск** Яснавяльможных паноў Макрэцкіх.

1. Павел Піліпчык, 52 г.; яго ўнукі Ян, 7 г. і Іпаліт, 3 г.; Вянна, дачка Паўла, 30 г.; Кацярына, дачка Паўла 22 г.; Настася, дачка Вянны, 11 г.; Магдуся, рэкрутка (жонка рэкрута - *Л.Л.*), 43 г.; Агата Сарока, 53 г.

2. Францішак Масцінскі, 36 г.; яго сын Якуб, 16 г.; Гжэгаш, 13 г.; Базыль, 8 г.; Анна, жонка Францішка, 36 г.; дочкі Францішка, (без імені), 6 г., Кацярына, 4 г.

3. Якуб Стасюкевіч, 52 г.; яго сын Базыль, 7 г.; Гапуся, жонка Якуба, 42 г.; дочкі: Фядора, 16 г., Фяліцыя, 13 г.; Еўдоця, 8 г.; Ягана, 2 г.; Настася, жонка Васіля, рэкрутка, 53 г.; Магдалена Ганчар, 43 г.

4. Юзаф Каляда, 37 г.; Ян, сын Юзафа, 18 г.; Агата, жонка Юзафа, 37 г.

5. Максім Каляда, 48 г.; зяць Пётр Стасюкевіч, 35 г.; пляменніка Пятра: Павел, 8 г., Якуб, 6 г., Сцяпан, 2 г.; Кацярына, жонка Максіма, 47 г.; дочкі: Анастася, 18 г. і Канстанцыя, 11 г.; Мар'яна, жонка Пятра, 28 г.;

6. Філіп Базыльчык, 37 г.; яго сыны: Леан, 8 г., Алексы, 6 г. і Ігнат, 2 г.; Алексы Каняк, 26 г.; Анна, жонка Філіпа, 33 г.; дачка Еўдоця, 4 г.; Мар'яна баратавая Філіпа, 38 г.; дочкі Якуба Базыльчыка: Анна, 23 г. і Таццяна, 8 г.;

7. Ян Дзяміда, 42 г.; яго сыны: Франушак, 21 г., Себасцян, 14 г. і Гжэгаш, 1 г.; Кацярына, жонка Яна, 36 г.; дочкі: Анна, 18 г., Марцеля, 12 г. і Вікторыя, 6 г.

**Вёска Белагорцы** Яснавяльможнага пана графа Паца.

1. Тэадор Шляхтун, 52 г.; яго сын Алексы, 15 г.; Міхал Рымка, 28 г.; Антастасія, дачка Тэадора, 12 г.; Агата, жонка Міхала Рымкі, 27 г.; дачка Анна, 5 г.; Агата Рымка, 19 г.

2. Базыль Лазавік, 62 г.; яго сыны: Самуэль, 25 г. і Ян, 27 г.; яго сын Ян, 1 г.; Фрызына Дзівульская, 56 г.; Еўдоця Трахімовіч, 48 г.; Еўдоцця, жонка Яна, 28 г.; Ева, жонка Самуэля, 20 г.

3. Пётр Слюжка, 52 г.; яго сыны: Кандрат, 28 г., Марка, 26 г., Мікалай, 20 г. і Ігнат, 14 г.; сыны Кандрата: Ян, 8 г., Стэфан, 6 г. і Эліяш, 2 г.; Анастасія, жонка Пятра, 47 г.; Агаф'я, жонка Кандрата, 30 г.

4. Даніла Слюжка, 62 г.; яго сын Гжэгаш, 27 г.; яго ўнук Сымон, 9 г.; Якуб, сын Гжэгаша, 4 г.; Юзаф Рымка, 28 г.; Агата, дачка Данілы, 23 г.; Марыся, жонка Гжэгаша, 23 г.; Анеля Слюжка, 7 г.; Настуля, дачка Лаўрука Слюжкі, 4 г.; Антося, дачка Гжэгаша Слюжкі, 3 г.; Анна Тамко, 40 г.

5. Якуб Пазняк, 61 г.; яго сыны: Павел, 31 г., Цімох, 26 г., Пётр, 19 г., Сільвестр, 14 г. і Міхал, 8 г.; сыны Паўла: Даніла, 5 г. і Ян, 1 г.; Кацярына, жонка Паўла, 23 г.; Урусула, дачка Якуба, 18 г.

6. Дзям'ян Шостак, 41 г.; яго сыны: Геранім, 22 г., Якуб, 7 г., Ян, 4 г. і Антон, 1 г.; Апалонія, жонка Дзям'яна, 40 г.; дочкі: Петранеля, 15 г. і Эльжбета, 12 г.

7. Стэфан Несцяровіч, 49 г.; яго сыны: Міхал, 15 г., Антон, 7 г. і Ян, 5 г.; Пётр Несцяровіч, 38 г.; дочкі Мар'яна, 8 г. і Настася, 1 г.

**Вёска Сарокі** Яснавяльможнага пана графа Паца.

1. Антон Зенчык, 72 г.; яго сыны: Сымон, 32 г., Ян, 24 г. і Стэфан, 9 г.; жонка Сымона Уршуля, 30 г.; дочкі Антона: Марцеля, 23 г. і Анна, 15 г.

2. Якуб Шостак, 43 г.; яго сыны: Ян, 10 г. і Даніла, 5 г.; Змітрук Шостак, 38 г.; Антон Шостак, 28 г.; Кацярына, жонка Якуба, 39 г.; дочкі: Мар'яна, 9 г. і Магдалена, 6 г.; Кацярына Шостак, 22 г.; Пракседа, Шостак, 71 г.

3. Тамаш Сарока, 62 г.; яго сыны: Павел, 38 г., Антон, 25 г. і Гжэгаш, 23 г.; сыны Паўла: Ян, 10 г., Стэфан, 8 г. і Ян, 1г.; Тацяна, жонка Тамаша, 41 г.; Мар'яна, жонка Паўла, 30 г.; Анна, дачка Паўла, 10 г.; дочкі Тамаша: Ева, 20 г. і Анна, 18 г.

4. Ян Слюжка, 41 г.; Стэфан Рымка, 34 г.; дочкі Яна: Анастасія, 10 г. і Анна, 7 г.; Хэлена, жонка Сцяпана, 34 г.; дочкі Стэфана: Стэфуля, 9 г.; Агата, 5 г.

5. Павел Рымка, 41 г.; Пракоп Рымка, 23 г.; Гжэгаш Рымка, 36 г., сын Гжэгаша Леан, 1 г.; маці Агата Рымка, 69 г.; Зоф'я, дачка Агаты, 23 г.; Гапуся, жонка Гжэгаша, 32 г.; Настася, дачка Паўла, 7 г.; Агата, жонка Паўла, 28 г.; Катруша, маці Гжэгаша, 63 г.

6. Верамей Слюжка, 24 г.; Дамінік Ненартовіч, 16 г.; Базыль Ненартовіч, 14 г.; Ян Ненартовіч, 2 г.; Пракседа Ненартовіч, 63 г.; Анна жонка Верамея, 23 г.; Маруся, дачка Верамея, 1 г.

7. Сымон Рымка, 39 г.; Марцэля, жонка Сымона, 24 г.

8. Гіеранім Ненартовіч, 63 г.; Цімох, яго сын, 39 г.; сыны Цімоха: Міхал, 9 г. і Мікалай, 6 г.; Крысціна, жонка Гіераніма, 53 г.; Крысціна, жонка Цімоха, 33 г.; дочкі Цімоха: Еўдоцця, 15 г. і Тэкля, 12 г.

[40] Асекурацыя альбо асекурацыйны ліст, распіска. Гэтым дакументам запэўніваюць, што будзе зроблена ўсё гэтак, як узгоднена паміж бакамі.

[41] ДГАЛ. Ф. 634. Воп. 1. Сп. 10. Спіс парафіян Лідскага дэканата 1829 г. Турэйская царква А. 337 - 348 адв.

9. Ян Трахімовіч, 48 г.; яго сыны: Ян, 19 г., Базыль, 17 г., Пётр, 13 і Тамаш, 10 г.; жонка Яна Мар'яна, 39 г.; Парася Грынеўская, цёшча Яна, 63 г.

10. Пётр Зенчык, 48 г.; Пётр Рымка, 45 г.; Антон, яго сын, 6 г.; Леан Рымка, 25 г.; Мар'яна, жонка Пятра, 39 г.; Анастасія, жонка Пятра Рымкі, 31 г.; Пракседа, дачка Пятра Зенчыка, 8 г.; Тарэза, жонка Леана Рымкі, 23 г.; Вікторыя, дачка яе, 2 г.

11. Базыль Шулейка, 53 г.; Ян Сарока, 19 г.; дочкі Базыля: Мар'яна, 19 г., Марыся, 13 г., Анеля, 9 г., Аксіня, 8 г. і Хэлена, 5 г.

12. Антон Давідовіч, 53 г.; Тэадор, сын Антона, 29 г.; Ян, сын Антона, 27 г.; Павел, сын Тэадора, 2 г.; Мар'яна, жонка Антона, 45 г.; Хэлена, дачка Антона, 19 г.; Юстына, жонка Тэадора, 28 г.; Мар'яна, дачка Тэадора, 5 г.; Тэадора, жонка Яна, 23 г.; Анна, дачка Яна, 1 г.

**Вёска Рымкі** Яснавяльможнага пана графа Паца.

1. Пётр Рымка, 54 г.; яго сыны Якуб, 29 г.; Эльяш, 28 г.; Стэфан, 19 г.; Гжэгаш, 17 г.; Кацярана, жонка Пятра, 53 г.; Барбара, жонка Якуба, 29 г.; Тэадора, дачка Пятра,15 г.; Барбара, дачка Якуба, 2 г.

2. Ян Шулейка, 49 г.; Базыль, сын Яна, 9 г.; Антон Шляхтун, 13 г.; Мікалай, сын Яна, г.; Павел Шляхтун, 23 г.; Аксенія, жонка Яна, 43 г.; Аксенія, дачка Яна, 15 г.; Хэлена, маці Яна, 63 г.; Мар'яна, дачка Яна, 7 г.

3. Гжэгаш Рымка, 48 г.; Ян Рымка, 43 г.; сыны Яна: Тэадор, 16 г.; Данель, 9 г. і Лукаш, 6 г.; Анна, жонка Яна, 39 г.; Тэадора, дачка Гжэгаша, 16 г.; Анна, дачка Гжэгаша, 12 г.; Хэлена, дачка Яна, 10 г.; Алеся, дачка Яна, 1 г.; Еўдоцця Сарока, 43 г.

4. Сымон Трахімовіч, 52 г.; унукі яго: Базыль, 14 г.; Гжэгаш, 10 г.; Мікалай, 8 г.; Павел Трахімовіч, 69 г.; Мікалай Трахімовіч, 23 г.; Анна Трахімовіч, 34 г.; Юльяна, яе дачка, 4 г.; Анна, жонка Мікалая, 25 г.; Настася, дачка Мікалая, 1 г.

5. Тамаш Трахімовіч, 41 г.; яго сыны: Павел, 24 г.; Сымон, 17 г.; Леан, 2 г.; Ігнат, сын Паўла, 1 г.; Агата, жонка Тамаша, 39 г.; Анна, дачка Тамаша, 8 г.; Кацярына, жонка Паўла, 26 г.; Магдалена, дачка Паўла, 2 г.

6. Пракоп Кавалеўскі, 39 г.; яго браты: Марка, 32 г. і Міхал, 28 г.; Сымон, сын Пракопа, 9 г.; Базыль, сын Пракопа, 8 г.; Мар'яна, жонка Пракопа, 33 г.; Мар'яна, 1 г.

7. Гжэгаш Рымка, 20 г.; яго браты: Базыль, 16 г.; Ян, 15 г.; Казімір, 10 г.; Якуб Рымка, 39 г.; яго сыны: Міхал, 6 г. і Бенядзікт, 1 г.; Альжбета, жонка Якуба, 30 г.; дачка Анастасія, 9 г.; Еўдоцця Рымка, 22 г.; Францішка Рымка, 13 г.

8. Лаўрук Кавалеўскі, 53 г.; яго сыны: Максім, 14 г. і Ян, 10 г.; дочкі Лаўрука: Анна, 19 г. і Мар'яна, 16 г.

9. Ян Рымка, 42 г.; Сцяпан, сын Яна, 4 г.; Павел Кавалеўскі, 2 г.; Пракседа, жонка Яна, 26 г.; Анастасія, дачка Яна, 9 г.; Маруся Кавалеўская, 9 г.; Анастасія Кавалеўская, 79 г.

10. Мікалай Лазавік, 37 г.; Ануфры, сын Мікалая, 14 г.; Сцяпан Лазавік, 33 г.; Ігнат Лазавік, 28 г.; сыны Сцяпана: Сымон, 7 г. і Габрук, 1 г.; Гжэгаш, сын Мікалая, 2 г.; Тэадора, дачка Мікалая, 10 г.; Анна, жонка Сцяпана, 25 г.

**Вёска Раманавічы** васпанства Гаеўскага і Юргілевіча.

1. Данель Тарас, 39 г.; яго сыны: Міхал, 15 г.; Яўхім, 10 г.; Гжэгаш, 4 г.; Анна, жонка Данеля, 33 г.; дачка Марцэля, 12 г.; Брыгіда Івашчук, 24 г.

2. Верамей Іванчук, 52 г.; яго сыны: Ян, 25 г.; Давід, 20 г.; Казімір, 13 г. і Сымон, 10 г.; Тэадора, жонка Верамея, 48 г.; дочкі: Апалонія, 19 г. і Мар'яна, 8 г.

3. Дзям'ян Тарас, 63 г.; яго сыны: Юзаф, 32 г.; Мікалай, 27 г. і Антон, 25 г.; Анна, жонка Юзэфа, 27 г.; дочкі: Анастасія, 5 г. і Мар'яна, 1 г.

4. Сымон Іванчук, 53 г.; яго сыны: Міхал, 25 г. і Ян, 10 г.; Тэадор Іванчук, 16 г.; Юзэфа, жонка Сымона, 43 г.; Юльяна, дачка Сымона, 14 г.; Агата, жонка Міхала, 23 г.

5. Базыль Іванчук, 64 г.; яго сын Тамаш, 27 г.; Тэадор Іванчук, 43 г.; Магдалена, жонка Базыля, 48 г.; дочкі: Анна, 14 г.; Тарэза, 10 г.; Барбара, 6 г.; Мар'яна, жонка Тамаша. 29 г.;

**Вёска Тарасы** васпанства Гаеўскана і Юргілевіча.

1. Мікалай Тарас, 45 г.; яго сын Антон, 14 г.; Міхал Тарас, 32 г.; Базыль Тарас, 31 г.; Ян, сын Міхала, 2 г.; Павел Іванчук, 18 г.; Леан Намейка, 28 г.; Клара, жонка Мікалая, 36 г.; дачка Апалоня, 14 г.; Агата Тарас, 57 г.; Анастасія, яе дачка, 22 г.; Марцэля, жонка Міхала, 29 г.; дачка Анна, 2 г.

2. Даніла Міскевіч, 42 г.; яго сыны: Юзаф, 8 г. і Стэфан, 2 г.; Тэадор Іванчук, 22 г.; Пракседа, жонка Данілы, 33 г.; дачка Таццяна, 10 г.;

3. Юзаф Тарас, 63 г.; яго сыны: Сымон, 27 г. і Мікалай, 25 г.; Якуб Тарас, 36 г.; Ян Тарас, 27 г.; Каэтан Тарас, 20 г.; Аксеня, жонка Юзафа, 52 г.; дочкі: Канстанцыя, 20 г.; Барбара, 15 г. і Гапуся, 10 г.; Анна, жонка Якуба, 29 г.; Пракседа Тарас, 67 г.; Настасся, жонка Яна, 23 г.; Марцэля, дочка Яна, 1 г.

4. Пётр Тарас, 69 г.; яго сыны: Базыль, 37 г.; Якуб, 30 г. і Бенядзікт, 29 г.; сыны Базыля: Ян, 8 г. і Андрэй, 4 г.; сыны Бенядзікта: Ян, 5 г. і Антон, 1 г.; Францішка, жонка Пятра, 59 г.; Мар'яна, жонка Базыля, 33 г.; Анна, жонка Якуба, 27 г.; Ева, дачка Базыля, 12 г.; Мар'яна, дачка Бенядзікта, 9 г.; Анна, дачка Пятра, 13 г.

5. Аніська Тарас, 42 г.; яго сыны: Лукаш, 24 г.; Тамаш, 22 г.; Ян, 17 г.; Францішак, 14 г. і Леан, 10 г.; Павел Тарас, 14 г.; Гжэгаш Тарас, 9 г.; Баніфацый, сын Еўдоці, 4 г.; Магдалена, жонка Лукаша, 23 г.; Еўдоцця Тарас, 55 г.; Апалонія, дачка Лукаша, 1 г.

6. Ян Тарас, 70 г.; яго сын Дамінік, 17 г.; Павел Мацевіч, 10 г.; Матэвуш Мацевіч, 9 г.; Кандрат Тарас, 33 г.; Францішка, жонка Яна, 62 г.; дочкі: Юзэфа, 12 г. і Мар'яна, 9 г.; Хэлена Мацевіч, 5 г.; Анна, жонка Кандрата, 25 г.

**Вёска Чэрахі** Яснавяльможных паноў Макрэцкіх.

1. Якуб Карповіч, 33 г.; Алексы Карповіч, 29 г.; Антон Карповіч, 9 г.; сын Аляксея Базыль, 6 г.; сын Якуба Ігнат, 5 г.; Аксіня, жонка Аляксея, 29 г.; Агата Карповіч, 59 г.; Ваня, дачка Якуба, 15 г.

2. Марцін Горны, 53 г.; Ігнат Драгун, 33 г.; яго сыны: Антон, 10 г. і Гжэгаш, 8 г.; Мар'яна, жонка Марціна, 43 г.; Анна, жонка Ігната, 29 г.; дачка Таццяна, 5 г.; Настася Дуткоўская, 23 г.; Настася Лясіцына, 43 г.

3. Ігнат Горны, 33 г.; Аляксей Горны, 23 г.; Агата, жонка Ігната, 33 г.; Анна Станкевіч, 19 г.

4. Міхал Карповіч, 53 г.; яго сыны Сымон, 24 г.; Марцін, 15 г.; Ян, 14 г.; Ігнат, 7 г.; Агата, жонка Міхала, 48 г.; дочкі: Анна, 19 г. і Гапуся, 10 г.

**Вёска Крупава** васпана Закрэўскага.

1. Мікалай Манікула, 45 г.; Ян Манікула, 32 г.; яго сыны Андрэй, 11 г. і Стэфан, 6 г.; Кастуся, жонка Мікалая, 43 г.; дочкі: Ева, 17 г. і Мар'яна, 10 г.; Марцэля, жонка Яна, 31 г.; дачка Тэкля, 9 г.; Тэкля Манікула, 28 г.; Настуля, дачка Мікалая, 5 г.; Пракседа, дачка Яна, 1 г.

2. Ян Русак, 53 г.; Андрэй Русак, 42 г.; яго сыны: Стэфан, 10 г. і Сымон, 9 г.; Кацярына, жонка Андрэя, 39 г.; дачка Парася, 2 г.; дочкі Яна: Анна, 17 г.; Тэадора, 10 г. і Мар'яна, 8 г.

3. Баўтрук Галавач, 81 г.; Базыль Галавач, 52 г.; яго сын Гжэгаш, 27 г.; Ян Яцкевіч, 18 г.; Давід Асцюкевіч, 43 г.; Мікалай, сын Гжэгаша, 2 г.; Тацціяна, жонка Базыля, 42 г.; Альжбета Галавач, 39 г.; Мар'яна, жонка Гжэгаша, 29 г.; Кацярына, дачка Гжэгаша, 6 г.

4. Цімох Галавач, 49 г.; яго сын Гжэгаш, 24 г.; Кацярына, жонка Цімоха, 42 г.; дочкі Агата, 16 г. і Анна, 11 г.; Юльяна, жонка Гжэгаша, 25 г.; дочкі: Маруля, 2 г. і Марцеля, 1 г.

5. Міхал Манікула, 42 г.; яго сыны: Міхал, 14 г. і Ян, 8 г.; Адам, сын Тадэвуша Бяндзея, 1 г.; Маланя, жонка Міхала, 23 г.; дочкі: Люцыя, 4 г. і Ева, 1 г.; Ануся, жонка Тадэвуша, 33 г.; Анастасія, дачка Тадэвуша, 8 г.

6. Мікалай Галавач, 62 г.; яго сыны: Юзаф, 21 г. і Леан, 17 г.; Юзаф Дудкоўскі, 34 г.; Анастасія, жонка Мікалая, 52 г.; Марцэля, жонка Юзафа, 29 г.; Мар'яна, дачка Юзафа, 1 г.

**Вёска Русакі** васпана Закрэўскага.

1. Ануфры Галавач, 42 г.; Ян Галавач, 32 г.; яго сыны: Стэфан, 7 г. і Эльяш, 2 г.; Станіслаў Галавач, 21 г.; Мар'яна, жонка Ануфрыя, 37 г.; Дамініка, жонка Яна, 29 г.

2. Дамінік Філіповіч, 62 г.; Ежы Шанчук, 34 г.; яго сын Франусь, 10 г.; Алеся, жонка Даміника, 39 г.; Кацярына, жонка Ежы, 31 г.; Тэадора Філіповіч, 24 г.; Анна Філіповіч, 20 г.

3. Ян Галавач, 68 г.; яго сын Ян, 30 г.; Лукаш, сын Яна, 6 г.; Эльяш, сын Яна, 1 г.; Юстына, жонка Яна, 40 г.; дачка Францішка, 21 г.; дачка Антаніна, 5 г.

4. Самуэль Галавач, 45 г.; яго сыны: Леан, 16 г.; Мікалай, 13 г. і Ян, 10 г.; Анеля, дачка Самуэля, 22 г.

**Вёска Бабічы** Яснавяльможнага пана Марачэўскага.

1. Каспер Мыцько, 72 г.; яго ўнукі: Мацей, 13 г. і Гжэгаш, 9 г.; Базыль Кокаль, 29 г.; Мар'яна, жонка Каспера, 43 г.; Анна, жонка Базыля, 39 г.; Тэкля, дачка Лаўрука, 9 г.; Тэадора, жонка Яна, 33 г.; Мар'яна, дачка Лаўрука, 7 г.; Аксюта, дачка Тэадоры, 6 г.; Канстанцыя, дачка Базыля, 2 г.

2. Ян Ступакевіч, 42 г.; яго сын Сымон, 10 г.; Ян Заянчкоўскі, 19 г.; Лаўрэнт Ступакевіч, 38 г.; Марцэля Заянчкоўская, 24 г.; Анна, дачка Яна, 12 г.

3. Антон Дзяміда, 25 г.; Мацей Дзяміда, 17 г.; Кастусь Дзяміда, 9 г.; Ян Дзяміда, 8 г.; Ясюк Дзяміда, 7 г.; Крысціна, дачка Паўла, Тарэза, жонка Лукаша, 32 г.; Марцэля, жонка Юзафа, 23 г.; Анна, дачка Лукаша, 1 г.

4. Базыль Ступакевіч, 27 г.; Тадэвуш Ступакевіч, 21 г.; Сымон Ступакевіч, 14 г.; Кацярына, жонка Базыля, 29 г.; Анастасся, дачка Базыля, 10 г.; Анеля, Ступакевіч, 19 г.; Еўдоцця, дачка Базыля, 2 г.

**Вёска Чарнякі** Яснавяльможнага пана Марачэўскага і васпана Янгайлы.

1. Леан Кокаль, 73 г.; яго сыны: Ян, 25 г. і Кандрат, 22 г.; Дамінік, сын Пятра, 10 г.; Сымон Кокаль, 43 г.; Ян, сын Яна Кокаля, 1 г.; Анастасія, дачка Пятра, 10 г.; Тацціяна, жонка Яна, 23 г.; Барбара, жонка Пятра, 23 г.; Тацціяна, дачка Пятра, 5 г.; Анна, дачка Пятра, 1 г.; Анна, жонка Кандрата, 23 г.

2. Якуб Гарасімчук, 49 г.; яго сын Юзаф, 30 г.; сын Юзафа, Юзаф, 7 г.; Пётр Чарняк, 21 г.; жанчыны рымскага абраду.

3. Мікалай Чарняк, 24 г.; Міхал Чарняк, 17 г.; Аксення, жонка Яна, 35 г.; Анна, жонка Мікалая, 29 г.; дачка Мар'яна, 2 г.

4. Мужчыны лацінскага абраду; Анна, жонка Гжэгаша, 54 г.; Тэадора, жонка Юзафа, 33 г.; Настасся, дачка Юзафа, 5 г.; Агата Чарняк, 29 г.; Анна, дачка Яна, 14 г.

5. Лаўрэн Карпянчук, 48 г.; яго сын Юзаф, 27 г.; сын Юзафа Якуб, 1 г.; Юльяна, жонка Лаўрэна, 52 г.; дачка Мар'яна, 14 г.; Анна Карпянчук, 17 г.; Мар'яна, жонка Юзафа, 24 г.

**Вёска Варанішкі** Яснавяльможнага пана Закрэўскага.

1. Сымон Шанчук, 43 г.; Ісідор Шанчук, 25 г.; Базыль, сын Сымона, 10 г.; Тамаш, сын Сымона, 7 г.; Ян, сын Сымона, 1 г.; Сцяпан, сын Ісідора, 2 г.; Тэадора, жонка Ісідора, 33 г.; дочкі: Канстанцыя, 5 г. і Маруся, 1 г.; Агата, дачка Сымона, 17 г.

2. Юзаф Шанчук, 42 г.; яго сын Юзаф, 17 г.; 2-гі сын Кандрат, 14 г.; 3-ці сын Мікалай, 5 г.; Леан Ліляк, 22 г.; Анна, жонка Юзафа, 41 г.; Кацярына, дачка Юзафа, 9 г.; Юльяна Марчанова, 29 г.;

3. Гжэгаш Ліляк, 42 г.; яго сыны: Юзаф, 14 г. і Ян, 7 г.; Апалонія, жонка Гжэгаша, 41 г.; дачка Маруся, 1 г.;

4. Казімір Ліляк, 62 г.; яго сыны: Яўхім, 28 г. і Ян, 1 г.; дочкі Казіміра: Кацярына, 26 г. і Анна, 14 г.; Мар'яна, жонка Яўхіма, 26 г.; дачка Маруся, 6 г.

**Вёска Новікі** Яснавяльможнага пана Марачэўскага.

1. Сцяпан Вялічка, 53 г.; яго сыны: Гжэгаш, 19 г. і Якуб, 10 г.; жанчыны лацінскага абраду.

2. Казімір Вялічка, 42 г.; яго сыны: Базыль, 10 г.; Тэадор, 7 г.; Мацей, 2 г.; Ян Вялічка, 7 г.; жанчыны лацінскага абраду.

3. Лукаша Сакалоўскі, 31 г.; Пётр Сакалоўскі, 22 г.; Ян Сакалоўскі, 17 г.; Тадэвуш Сакалоўскі, 15 г.; Мікалай, сын Лукаша, 6 г.; Сцяпан, сын Лукаша, 5 г.; Агата, жонка Міхала Грома, 28 г.; Канстанцыя, жонка Пятра, 23 г.; Настасся Бакун, 43 г.;

4. Мужчыны рымскага абраду; Мар'яна, жонка Андрэя Бакуна, 53 г.; дочкі: Тарэза, 19 г.; Ружа, 15 г.

**Вёска Перакоп** Яснавяльможнага пана Марачэўскага.

1. Марцін Клімовіч, 59 г.; яго сын Ян, 19 г.; Антон, 16 г.; Пётр, 6 г.; Пракседа, жонка Марціна, 49 г.; дочкі: Анна, 13 г.; Тэкля, 9 г. і Маруся, 5 г.

2. Антон Бабіч, 27 г.; Юзаф, яго сын, 2 г.; Кацярына, жонка Антона, 25 г.; Мар'яна Куневіч, 57 г.; Кацярына, жонка Юзафа, 23 г.; Анна Максімовіч, 63 г.

3. Ян Чарняк, 30 г.; Юзаф Чарняк, 25 г.; Міхал Чарняк, 22 г.; Сымон Чарняк, 16 г.; Стэфан Чарняк, 13 г.; Анна, жонка Яна, 26 г.; Анастасія Чарняк, 8 г.; Аксеня Чарняк, 65 г.; Магдалена, жонка Юзафа, 25 г.; Настуся, дачка Яна, 6 г.

4. Мікалай Асавік, 69 г.; яго сыны, Міхал, 15 г.; Павел, 6 г.; Адам Чарняк, 17 г.; Мар'яна, жонка Мікалая, 54 г.; Мар'яна Чарняк, 22 г.

5. Міхал Кратовіч, 54 г.; яго сыны, Юзаф, 13 г.; Андрэй, 10 г.; Антон Кратовіч, 25 г.; Анеля, жонка Міхала, 45 г.; дочкі: Анна, 8 г. і Магдалена, 5 г.

**Вёска Здановічы** васпана суддзі Сангайлы.

1. Аўгусцін Гарасімчук, 67 г.; яго сын Базыль, 36 г.; Пётр Чарняк, 24 г.; Марцін, сын Базыля, 1 г.; Анна, жонка Базыля, 37 г.; дочкі: Ева, 10 г.; Анна, 8 г.; Пятруся, 4 г.; Анна, дачка Васіля Чарняка, 29 г.

2. Лукаш Гарасімчук, 72 г.; яго сыны: Сымон, 43 г. і Станіслаў, 39 г.; сын Станіслава Мацей, 10 г.; Еўдакія, жонка Сымона, 33 г.; астатнія жанчыны лацінскага абраду.

3. Мужчыны рымскага абраду; Альжбета Міцкевіч, 63 г.; Аксеня Міцкевіч, 31 г.; Анна, дачка Юзафа Міцкевіча, 21 г.; Агата Міцкевіч, 43 г.

**Вёска Карпейчыкі** васпана суддзі Сангайлы.

1. Тадэвуш Карпейчык, 72 г.; Пётр Карпейчык, 62 г.; Міхал, сын Тадэвуша, 19 г.; Ян, сын Пятра, 30 г.; Паланея, жонка Яна, 23 г.; Агата, дачка Яна, 14 г.; Тарэза, дачка Яна, 5

г.

2. Базыль Чарняк, 62 г.; Ян Гарасімчук, 15 г.; Анна, дачка Базыля, 20 г.

3. Павел Чарняк, 62 г.; яго сыны: Ян, 34 г.; Якуб, 30 г.; Юзаф, 27 г.; сыны Яна: Міхал, 13 г. і Ян, 4 г.; сын Юзафа Ян, 12 г.; Разалія, жонка Якуба, 23 г.; Разалія, дачка Якуба, 2 г.

4. Мікалай Салыга, 23 г.; Казімір Карпейчык, 49 г.; Агата Карпейчык, 40 г.; Агата, жонка Мікалая, 23 г.; дочкі Казіміра: Анна, 19 г.; Антося, 14 г.; Настуся, 6 г.; Марыся, 1 г.

**Вёска Балічы** васпана Шымкоўскага.

1. Міхал Шматко, 43 г.; яго сыны: Міхал, 22 г.; Вінцэнт, 6 г.; жанчыны па-рымскі.

2. Пётр Шматко, 43 г.; яго сыны: Пётр, 19 г.; Юзаф, 15 г.; Якуб, 2 г.; Агата, жонка Юззфа, 33 г.; дочкі: Крыстына, 17 г.; Мар'яна, 14 г. і Тэкля, 5 г.

3. Міхал Малышык, 41 г.; Юзаф Малышык, 30 г.; Адам, сын Юзафа, 9 г.; Зоф'я, жонка Міхала, 37 г.; дочкі: Анна, 10 г. і Агата, 2 г.

4. Ежы Маспанчук, 5 г.; Пракседа, жонка Юзафа Маспанчука, 39 г.; дочкі Петранеля,10 г.; Марыся, 6 г.; Агата, 7 г.

5. Антон Тарасевіч, 42 г.; яго сыны: Адам, 20 г. і Міхал, 14 г.; Казімір, сын Адама, 8 г.; Якуб Каранчук, 16 г.; Вінцэнт, сын Антона, 2 г.; Ян, сын Антона, 1 г.; Кацярына, жонка Антона, 39 г.; Анна, дачка Антона, 10 г.; Анна Каранчук, 41 г.

6. Геранім Нацэвіч, 47 г.; Тамаш, сын Гераніма, 8 г.; Юзаф, сын Гераніма, 4 г.; зяць Ігнат Шымко, 25 г.

7. Андрэй Мацяс, 32 г.; яго браты Вінцэнт, 26 г. і Мікалай, 6 г.; жанчыны рымскага абраду.

8. Ежы Бандзей, 52 г.; яго сын Ян, 10 г.; Анастасія, жонка Ежы, 45 г.; дочкі: Анна, 15 г. і Ева, 14 г.

9. Ежы Гарасімчук, 45 г.; яго сыны: Ян, 18 г.; Стэфан, 10 г.; Андрэй, 8 г.; сын Сымона Ян, 10 г.; сын Ежы Гжэгаш, 5 г.; Мар'яна, жонка Ежы, 36 г.; Анна, дачка Ежы, 19 г.; Агата, дачка Сымона, 8 г.

**Вёска Курылкі** васпана Шымкоўскага.

1. Міхал Малышка, 58 г.; Вінцэнт, сын Міхала, 27 г.; Ян, сын Міхала, 24 г.; Міхал, сын Міхала, 21 г.; Пётр, сын Вінцэнта, 1 г.; Тэрэза, жонка Міхала, 48 г.; Анна, дачка Міхала, 19 г.

2. Якуба Кур'ян, 16 г.; Анна, маці Якуба, 39 г.

3. Мужчыны па-рымскі, Анна, жонка Адама Дудкоўскага, 42 г.; Пракседа, дачка Адама, 15 г.; Кастуся, жонка Юзафа Дудкоўскага, 20 г.

4. Мікалай Шматко, 52 г.; яго сын Адам, 22 г. Юзаф, 19 г. і Пётр, 24 г.; жанчыны па-рымскі.

5. Адам Клышэвіч, 48 г.; Пётр, сын Адама, 19 г.; Юзаф Адамчык, 43 г.; Міхал, сын Адама, 13 г.; сыны Юзафа: Станіслаў, 5 г.; Дамінік, 10 г.; Вінцэнт, 7 г.; Анна, жонка Адама, 48 г.

**Вёска Забор'е** Яснавяльможнага пана графа Паца.

1. Міхал Карпейчык, 34 г.; яго сыны: Міхал, 6 г. і Васіль, 5 г.; Мікалай Карпейчык, 24 г.; Адам Карпейчык, 22 г.; Адам Карпейчык, 72 г.; Анна, жонка Міхала, 31 г.; дочкі: Анастасія, 12 г. і Агата, 9 г.; Антося, жонка Мікалая, 25 г.; Анна, дачка Мікалая, 2 г.

2. Ян Байгот, 49 г.; яго сыны: Сымон, 22 г.; Юзаф, 19 г.; Казімір, 15 г. і Пётр, 9 г.; жанчыны па-рымскі.

3. Казімір Ціхно, 69 г.; Ян, сын Казіміра, 23 г.; жанчыны па-рымскі.

4. Юрко Зенчык, 65 г.; Казімір Зенчык, 19 г.; Ян Зенчык, 13 г.; Канстанты Зенчык, 6 г.; Анна Зенчык, 42 г.; яе дочкі: Анна, 12 г. і Тарэза, 9 г.

5. Міхал Рымка, 34 г.; яго брат Ян, 31 г.; яго сыны: Юзаф, 9 г. і Ян, 5 г.; Тэкля, жонка Яна, 28 г.; дачка Разалія, 6 г.; 2-я дачка Анна, 2 г.

6. Гжэгаш Лазавік, 49 г.; яго сыны: Міхал, 19 г. і Стэфан, 17 г.; Мар'яна, дачка Гжэгаша, 25 г.

7. Антон Байгот, 56 г.; яго сыны: Тамаш, 24 г. і Міхал, 15 г.; Якуб Байгот, 47 г.; яго сын Ян, 22 г.; Ян, сын Яна, 1 г.; жанчыны па-рымскі.

**Вёска Якуцэвічы** Мастоўскай плябаніі.

1. Юзаф Бугарын, 62 г.; яго сын Сымон, 10 г.; жанчыны па-рымскі.

2. Міхал Бугарын, 39 г.; яго сыны: Ян, 21 г. і Мацей, 7 г.; Клара Палубятка, 37 г.

3. Юзаф Палубятка, 27 г.; Стэфан Палубятка, 15 г.; Філіп Палубятка, 10 г.; сыны Юзафа: Антон, 8 г. і Леан, 2 г.; Ева, жонка Юзафа, 28 г.; дачка Мар'яна, 6 г.; Анна Юракава Палубятка, 29 г.

4. Мацей Баўтрукевіч, 73 г.; яго сыны: Марцін, 42 г.; Ежы, 36 г.; Ян, 23 г.; Міхал, 21 г.; сыны Марціна: Адам, 18 г. і Мацей, 10 г.; сыны Ежы: Пётр, 15 г. і Юзаф, 13 г.; жанчыны па-рымскі.

**Вёска Дашкаўцы** Мастоўскай плябаніі.

1. Юзаф Палубятка, 72 г.; яго сыны: Стэфан, 23 г.; Станіслаў, 19 г.; Станіслаў, 17 г.; Юзаф Палубятка, 11 г.; жанчыны па-рымскі.

2. Міхал Маскевіч, 32 г.; яго сын Базыль, 9 г.; 2-гі сын Ян, 2 г.; Мікалай Палубятка, 6 г.; Кацярына, жонка Міхала, 30 г.; дочкі Міхала: Альжбета, 14 г. і Мар'яна, 10 г.

3. Ян Шчараніца, 42 г.; яго сын: Юзаф, 10 г.; браты Яна: Лаўрук, 25 г.; Міхал, 20 г. і Юзаф, 11 г.; Станіслаў, сын Лаўрука, 1 г.; жанчыны па-рымскі.

| Вёскі | Дымы | Да камуніі | | Не да камуніі | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | мужчын | жанчын | мужчын | жанчын |
| Турэйск | 7 | 14 | 22 | 11 | 7 |
| Белагорцы | 7 | 24 | 8 | 14 | 6 |
| Сарокі | 12 | 33 | 34 | 13 | 16 |
| Рымкі | 10 | 32 | 23 | 19 | 13 |
| Раманавічы | 5 | 16 | 12 | 4 | 5 |
| Тарасы | 6 | 27 | 22 | 12 | 8 |
| Чэрахі | 4 | 10 | 11 | 6 | 2 |
| Крупава | 6 | 17 | 17 | 7 | 15 |
| Русакі | 5 | 12 | 12 | 7 | 2 |
| Бабічы | 4 | 11 | 10 | 5 | 8 |
| Чарнякі | 5 | 11 | 13 | 4 | 5 |
| Варанішкі | 4 | 8 | 6 | 3 | 3 |
| Новікі | 4 | 7 | 6 | 7 | - |
| Перакоп | 5 | 15 | 12 | 4 | 6 |
| Здановічы | 3 | 6 | 7 | 2 | 3 |
| Карпейчыкі | 4 | 14 | 9 | 1 | 4 |
| Балічы | 9 | 18 | 14 | 15 | 8 |
| Курылкі | 5 | 13 | 7 | 4 | - |
| Забор'е | 7 | 23 | 7 | 7 | 5 |
| Якуцэвічы | 4 | 13 | 3 | 5 | 1 |
| Дашкаўцы | 3 | 10 | 2 | 5 | 1 |
| **Разам** | 116 | 334 | 267 | 155 | 118 |

Гэты інвентар парафіян Турэйскай царквы ... склаў 24 жніўня 1829 г. А. Юстын, пробашч Турэйскі.

Валеры Сліўкін

# Лідская сінагога 1893 года

У перакладзе з грэцкай мовы сінагога - гэта збор. Функцыі сінагогі вельмі шырокія. Сінагога не з'яўляецца храмам, а толькі памяшканнем для грамадскай малітвы. У школах пры сінагогах дзеці вывучаюць Тору, па выхадных днях для дарослых праводзяцца лекцыі, могуць праводзіцца як калектыўныя, так і асабістыя гулянні для чальцоў грамады. У сінагозе засядае равінскі суд. Абавязкова маецца бібліятэка, дзе сабраны розныя кнігі рэлігійнай скіраванасці: Пяцікніжжа з каментарамі, Мішну, Талмуд, сотні, а часам і тысячы іншых кніг. Іх можна чытаць як у самім храме, так і браць на хату. Раней пры храмах таксама былі пакоі для гасцей, дзе маглі спыняцца вандроўныя габрэі.

Любая група вернікаў можа арганізаваць уласную сінагогу. Для кіравання сінагогай вернікі выбіраюць кіраўнікоў. Фінансавымі сродкамі распараджаецца кіраванне сінагогі. Сінагогі будаваліся на самым высокім месцы ў горадзе. Звычайна мелі прастакутную форму, для мужчын і жанчын існавалі паасобныя памяшканні.

У 1867 годзе ў Лідзе дзейнічалі чатыры сінагогі. 6-7 кастрычніка 1891 г. адбыўся грандыёзны пажар. Згарэлі 444 жылыя дамы і 283 пабудовы на суму 679408 руб., у тым ліку ўсе сінагогі. Лідскія габрэі звярнуліся да ўсіх габрэяў Заходняга краю з просьбай пра фінансавую дапамогу. Дапамога была аказана.

30 сакавіка 1892 г. упаўнаважаныя малітоўнай грамады Лідскай габрэйскай сінагогі галосны гарадской думы і чалец гарадской управы Зелік Іцкавіч Пупко (унук Носеля Пупко - заснавальніка лідскага піўзавода) і Берка Нахманавіч Камянецкі падалі ў Віленскае губернскае кіраванне прашэнне, у якім паведамілі, што *"жадаюць аднавіць згарэлую ў г. Лідзе на Школьным двары мураваную малітоўную габрэйскую сінагогу, і, прадстаўляючы праект, просяць дазволіць ім аднаўленне ўказанай сінагогі"*.

Назаўтра ад імя Будаўнічага аддзялення Віленскага губернскага кіравання Лідскаму павятоваму спраўніку і ў Лідскую гарадскую ўправу былі адпраўлены запыты, ці не маюць спраўнік і Гарадская рада якіх-небудзь перашкод да аднаўлення сінагогі. Лідская гарадская ўправа 18 красавіка і Лідскі павятовы спраўнік 20 красавіка адказалі, што *"ў аднаўленні мураванай малітоўнай габрэйскай сінагогі, знішчанай пажарам, які адбыўся ў г. Лідзе 7 кастрычніка 1891 г., перашкод з іх боку не сустракаецца"*.

30 траўня 1892 г. Будаўнічае аддзяленне Віленскага губернскага кіравання на сваім паседжанні прызнала, што *"праект складзены ў тэхнічных адносінах здавальняльна"*. Праект, дарэчы, склаў галоўны губернскі архітэктар Аляксей Уладзіміравіч Полазаў.



У сваёй пастанове Будаўнічае аддзяленне запатрабавала, каб будаўніцтва габрэйскай сінагогі ў г. Лідзе на Школьным двары ажыццяўлялася пад наглядам тэхніка, які мае права на вытворчасць будаўнічых работ. А па заканчэнні работ *"упаўнаважаныя праз тэхніка Будаўнічага аддзялення паставілі ў вядомасць Губернскае кіраванне на прадмет агляду, пра што зрабіць на праекце ўстаноўлены надпіс і разам з пратаколам прадставіць на зацвярджэнне губернатару, пасля чаго копіі з прыкладаннем гэтага пратакола прадставіць ва 2-е аддзяленне гэтага кіравання"*. У той жа дзень губернскі інжынер М.В. Айвазаў ад імя Будаўнічага аддзялення адправіў копіі праекту і пратакола ды перапіску з гэтай нагоды ў Другое




**Фасад**



**Выгляд па боку а-б**



**План мужчынскага аддзялення**

аддзяленне Губернскага кіравання.

23 ліпеня Віленскае губернскае кіраванне дазволіла лідскім габрэям аднавіць сінагогу. Амаль 4 месяцы сышло на ўзгадненні вельмі простага па форме і ўладкаванні будынка, без каналізацыі, электрычнасці і цеплазабеспячэння. Будынак меў наступныя памеры: даўжыня 21,3 м, шырыня 10,7 м, вышыня 5 м, аб'ём 1035 $м^3$ з высокай залай плошчай у 140 $м^2$ і двухпавярховай прыбудовай з трыма ўваходамі. Падмуркі мураваныя, глыбінёй 1,7 м, дзве паўкалоны на ўваходзе, 24 акны - 12 з якіх асвятлялі залу, чатырохсхільны дах.

Па праекце мужчынскае аддзяленне плошчай 210 $м^2$ размяшчалася на першым паверсе, мела два ўваходы, апальвалася трыма печамі. У цэнтры залы меркавалася ўладкаванне каўчэга са скруткам.

Жаночае аддзяленне плошчай к. 70 $м^2$ было запраектавана на 2 паверсе, з асобным увaходам і вонкавымі ўсходамі, прыкрытымі падстрэшкам.

Праз 16 месяцаў упаўнаважаныя малітоўнай грамады З.І. Пупко і Б.Н. Камянецкі падалі ў Віленскае губернскае кіраванне заяву: *"Гэтым маем гонар заявіць Губернскаму кіраванню, што мураванай габрэйскай сінагогі ў г. Лідзе, дазволенай да пабудовы Указам Губернскага кіравання ад 23 ліпеня 1892 г. за № 2400, паводле плану, зацверджанаму Будаўнічым аддзяленнем па пратаколе ад 30 траўня 1892 года за № 59, будаўніцтва закончана.*

*Таму маем гонар прасіць Губернскае кіраванне пра агляд будынка сінагогі тэхнікам Будаўнічага аддзялення.*

*Г. Ліда, лістапада 23 дня, 1893 г.*

*Упаўнаважаныя Зелік Пупко і Берка Камянецкі".*

17 снежня 1893 г. у Ліду прыехаў Віленскі губернскі інжынер Міхаіл Васільевіч Айвазаў і сумесна з павятовым спраўнікам Сцяпанам Мацвеевічам Ляўданскім агледзеў сінагогу. Пасля агляду быў складзены акт: *"Работы па аднаўленні праведзены паводле праекту, зацверджанаму пратаколам Будаўнічага аддзялення 30 траўня 1892 г. за № 59, за выключэннем размяшчэння некаторых аконных праёмаў і формы даху, які замест чатырохсхільнага, зроблены двухсхільным з мураванымі франтонамі. Прымаючы да ўвагі, што адступленні ад зацверджанага праекту не парушаюць грамадскай бяспекі і грамадскага добраўпарадкавання і што ў астатніх частках будынак перабудаваны з*





*належнай дакладнасцю і трываласцю, мы са свайго боку не сустракаем перашкод на адкрыццё ў ім набажэнства. Пра што пастанавілі: напісаць гэты акт і па зацвярджэнні яго сваімі подпісамі, прадставіць праз губернскага інжынера ў распараджэнне Віленскага губернскага кіравання.*

*Віленскі губернскі інжынер М. Айвазаў.*

*Павятовы спраўнік С. Ляўданскі".*

20 снежня 1893 г. Віленскае губернскае кіраванне прыняло рашэнне: *"Абвясціць упаўнаважаным малітоўнай грамады Лідскай габрэйскай сінагогі Зеліку Пупко і Берку Камянецкаму, што для адкрыцця ў згаданай сінагозе набажэнства перашкод не сустракаецца, пра што паведаміць у 2-е аддзяленне Губернскага кіравання і справу па гэтым прадмеце лічыць скончанай.*

*Губернскі інжынер М. Айвазаў*

*За віца-губернатара старэйшы дарадца*

*в.с. губернатара, віцагубернатар".*



***Сінагога 1893 года на пярэднім плане, ззаду Галоўная сінагога. Здымак пачатку XX стагоддзя.***

29 снежня Лідскае паліцэйскае кіраванне атрымала адпаведнае прадпісанне Губернскага кіравання, але навагоднія святы і праваслаўныя Каляды некалькі прытрымалі актыўнасць паліцыі, і толькі 9 студзеня 1894 г. паліцэйскі наглядчык г. Ліды С.П. Цімафееў уручыў мяшчанам Зеліку Пупко і Берку Камянецкаму дазвол на набажэнства ў сінагозе.

За гады, мінулыя з 1893 г., зроблена невялікая перабудова: зачынены фасадны ўваход, замест падстрэшка з усходамі ў жаночую палову зроблена прыбудова, перанесена печ.

**Першакрыніцы:**

Памятная книжка Виленской губернии. 1893 г.

LVIA. Ф.382 оп.1 д.1450. Дело о разрешении построить каменную синагогу в Лиде.

***Паводле lida.info.***

***Леанід Лаўрэш***

# Новае пра лідскую чыгунку

Не так даўно мне ў рукі патрапіў альбом будаўніцтва чыгункі Полацк - Сядлец[1] (у версіі PDF) што значна пашырыла нашы веды пра Лідскую чыгунку. У гэтым артыкуле, а пастараюся выкласці новая факты, знойдзеныя за апошнія гады.



***Першае лідскае дэпо, від з поўдню***

Пад будаўніцтва станцыі Ліда адышло 6 дзесяцін зямлі (6,83 га). Лідская станцыя будавалася паміж горадам і вёскай Дварцовая Слабада. Пасля будаўніцтва чыгункі горад пачаў пашырацца ў бок вакзала, а Дварцовая Слабада стала месцам жыхарства чыгуначнікаў і паступова ўлілася ў Ліду[2].

З пачаткам эксплуатацыі чыгунак з'яўляюцца і першыя будынкі для абслугоўвання лакаматываў і вагонаў - дэпо (фран-



***Дэпо, аднатыпнае лідскаму, на станцыі Мінеральныя Воды***

[1] Гл: Полоцк-Седлецкая железная дорога. Альбом типовых и исполнительных чертежей сооружений железнодорожной линии Полоцк-Седлец и ветви Гродно-Мосты, 1902-1906 гг. Санкт-Петербург: Техническая автолитография Георгия де Кельш, 1907.

[2] Abramowicz W. Slobodka - przedmiescie Lidy // Ziemia Lidzka. 2002. № 6 (53).

цузскае слова depot - літаральна "склад", "сховішча"). Яны будавалася на буйных станцыях, там, дзе фармаваліся і адпраўляліся ў дарогу грузавыя і пасажырскія цягнікі. У дэпо абавязкова меліся кузня і станочны парк. Такарны, фрэзерны, стругальны, свідравальны і наждачны - усе гэтыя станкі мелі пасавы прывад ад паравой машыны. Станкі тады былі даволі прымітыўнымі, і таму вялікую ролю адыгрывала ўменне майстроў працаваць з металам. Каб заліваць падшыпнікі слізгання, у кожным дэпо меўся адмысловы заливальны ўчастак. На тэрыторыі дэпо размяшчаліся воданапорная вежа (будынак знаходзіўся паміж старым дэпо і сучаснай вуліцай Труханава) і паліўны склад. Для лакаматываў патрабаваўся пясок для прадухілення буксавання, таму меліся пескасушылка, склад сухога пяску і прылады для экіпіроўкі пяском лакаматываў. Звычайна каля дэпо ўтвараўся цэлы пасёлак, у якім жылі некалькі тэхнічных кіраўнікоў, рамонтнікі і паравозныя брыгады.



***Новае дэпо і воданапорная вежа ў Лідзе, пасля 1907 г.***

Вядома шмат варыянтаў планіроўкі, але першае лідскае дэпо было прамавугольнага тыпу. З праекту пашырэння лідскага чыгуначнага вузла, зацверджанага ў 1903 годзе, можна ўявіць, з чаго складалася першая лідская станцыя Палескай чыгункі (зараз гэта ўсходні бок чыгуначнага вузла). Першае паравознае 3-хстойлавае дэпо добра бачна на схеме лідскай станцыі 1903 года[3]. Гэтае паравознае каменна-цаглянае дэпо на тры паравозы серыі "Чн"[4] (ці, як кажуць чыгуначнікі, - на тры стойлы) было пабудавана восенню 1884 года.

Будынак першага лідскага дэпо мае па тры паравозныя брамы з паўночнага і паўдзённага тарцоў. Гэта значыць, што рэйкі праходзілі праз дэпо і заканчваліся трохі на поўдзень ад яго. Будынак з чэсанага каменю раней меў двухсхільны дах, зараз мае надбудаваны другі паверх.

Першае лідскае дэпо захавалася, у ім з 1916 года знаходзілася чыгуначная электроўня, а потым электрычны размеркавальны пункт. Гэты будынак, якому ўжо амаль што 140 гадоў, - цікавейшы ўзор тэхнічнага дойлідства XIX стагоддзя. Пасля рэстаўрацыі тут мог бы адкрыцца цудоўны чыгуначны музей.

У наступным, 1885 годзе ў Лідзе будуецца першы вакзал - драўляны. Большасць вакзалаў[5] Палескай чыгункі XIX стагоддзя была з дрэва, яны будаваліся па тыпавых праектах і адрозніваліся адзін ад аднаго ў асноўным памерамі.

Маленькі артыкул ў газеце "Лідскае Слова" ўказвае нам месца, дзе стаяў першы лідскі вакзал: *"Па дарозе, якая вядзе да старога вакзала, каля вокнаў казённага віннага склада[6] растуць тры дрэвы-клёны. У Лідскую паліцэйскую ўправу паступіла ... прашэнне ад загадчыка канторы віннага склада, у якім ён просіць ссекчы дрэвы, спасылаючыся на тое, што яны сваім ценем перашкаджаюць выконваць работы па разліве пітва і працаваць у канторы, а таксама вільгацію псуюць дах"*[7]. Да старога вакзала вяла вуліца, якой зараз няма; вакзал стаяў прыкладна там, дзе зараз у былых чыгуначных пакгаўзах знаходзіцца мэблевая крама. Да 1915 года на картах Ліды абазначаны два вакзалы - новы, пабудаваны ў 1906-м (ёсць і цяпер), і стары, які існаваў з 1885 года, з часу пабудовы першай Палескай чыгункі. На схеме Лідскага чыгуначнага вузла перад старым вакзалам пазначана вялікая клумба.

Акрамя драўлянага вакзала першая станцыя мела: 60 сажняў пасажырскіх платформаў, 10 пагонных сажняў крытых і 20 закрытых таварных платформаў (пасажырскія платформы былі зроблены з друзу і бітай

---

[3] Полоцк-Седлецкая железная дорога. Альбом типовых и исполнительных чертежей сооружений железнодорожной линии Полоцк-Седлец и ветви Гродно-Мосты, 1902-1906 гг. С. 89.

[4] Лідскі летапісец. 2004. № 27-28. С. 8.

[5] Слова "вакзал" (першапачаткова "фоксал") паходзіць ад "Воксхолл" (англ. Vauxhall) - назвы парку і забаўляльнай установы ў прыгарадзе Лондана (цяпер у межах горада), які належаў у XVIII стагоддзі Джэйн Вокс (Jane Vaux).

[6] Трэці казённы вінны склад - месца захоўвання і разліву моцных спіртовых напояў. Лідскі казённы вінны склад № 3 пачаў працаваць у сакавіку 1897 г. - Гл: Памятная книжка Виленской губернии на 1899 г. Вильна, 1899. С. 251. Гмахі гарэлачнай манаполіі былі пабудаваныя да 1897 г. і захаваліся да нашага часу на тэрыторыі сучаснай дрэваапрацоўчай фабрыкі. З канца 1930-х гг. у іх месцілася другая лідская турма.

[7] Лидское Слово № 5, 14 декабря 1912.

ПАССАЖИРСКОЕ ЗДАНІЕ III РАЗРЯДА ДЛЯ УЗЛО

*Проектъ утвержденъ по журнальному постановленію Комитета Управленія по сооруженію желѣзныхъ дорогъ отъ 5 февраля 1904 г. за № 120.*

ПРОДОЛ



ПРОДОЛЬ












***Праект Лідскага вакзала, пабуд***

ВОЙ СТАНЦИИ ЛИДА, ПЛОЩ. 232,57 КВ. САЖ.

ЛЬНЫЙ ФАСАДЪ.
















*Начальникъ работъ,*
*Инженеръ В. Тимоѳеевъ-Рясовскій.*

*Начальникъ Техническаго Отдѣла,*
*Инженеръ А. Мурзо.*

*Старшій Инженеръ В. Мытакъ.*

***аванага разам з чыгункай Полацк - Сядлец***



***Фрагменты выяў з альбома "Полоцк-Седлецкая железная дорога. Альбом типовых и исполнительных чертежей сооружений железнодорожной линии Полоцк-Седлец и ветви Гродно-Мосты, 1902-1906 гг."***

цэглы, залітых вапнавым растворам), водапрыёмны (на рацэ Лідзейцы) і водапад'ёмны будынкі, жылыя дамы.

З'яўленне чыгункі змяніла спрадвечны лад жыцця на Лідчыне. Стала магчымым з Ліды ехаць на поўдзень, ва Украіну і далей. Ці, даехаўшы да суседняй Вільні, простым шляхам праз Гародню-Варшаву наведаць Еўропу або, наадварот, ехаць на ўсход, у Пецярбург ці Маскву, і рабіць усё гэта з неверагоднай па тым часе хуткасцю.

Страціў сваё значэнне і стаў мясцовай дарогай старажытны Лідскі гасцінец, які ішоў з Вільні праз Ліду і далей на поўдзень. Пасля пабудовы чыгункі тракт апусцеў, зніклі корчмы, па былым гасцінцы рухаліся толькі сялянскія вазы ці басаногія пастухі пераганялі гурты кароў. Стары тракт застаўся як сведка памяці стагоддзяў і адрадзіўся толькі тады, калі па яго трасе была пабудавана сучасная аўтадарога[8]. Цалкам, як інстытуцыя, знік стары паштова-пасажырскі тракт Вільня-Ліда з шэрагам паштовых станцый[9]. З пачаткам працы чыгункі змяняліся маршруты і закрываліся конныя паштовыя тракты, а на чыгуначных станцыях адкрываліся пункты ліставой пошты[10].

Чарговы план будаўніцтва чыгунак быў зацверджаны Указам цара Мікалая II ад 1 верасня 1901 года. На пачатку 1901 года, пасля перамоў на ўзроўні кіраўнікоў дзяржаў, Расіі былі выдаткаваны французскія

[8] Sniezko Aleksander. Gosciniec Lidzki // Ziemia Lidzka. 1936. №2.

[9] Szymielewicz Michal. Angaria w Ziemi Lidzkiej // Ziemia Lidzka. 1938. №10.

[10] Гл: Szymielewicz Michal. Dawna poczta i telegraf w ziemi Lidzkiej // Ziemia Lidzka. 1939. №1.; 1939. № 2.

пазыкі на суму 200 мільёнаў рублёў для неадкладнага праектавання і будаўніцтва стратэгічных чыгунак. Участак будучай лініі ад Балагое да Полацка абышоўся ў 53 мільёны рублёў або 118 131 рубель на вярсту - гіганцкія грошы для таго часу.

Па ўсёй новай чыгунцы на вузлавых станцыях былі пабудаваны паравозныя дэпо веернага тыпу са столлю з бетонных пліт на жалезных бэльках. Дэпо мелі жалезныя вокны і брамы, керамічныя трубы вентыляцыі. Лідскае дэпо на 16 стойлаў для паравозаў было пабудавана ў 1906 годзе. Перад нашым дэпо меўся паваротны круг сістэмы Сэлерса дыяметрам 64 футы. На схеме Лідскага чыгуначнага вузла бачна, што каля новага дэпо планавалася пабудаваць яшчэ адно, на 24 стойлы. Першая сусветная вайна не дазволіла рэалізаваць гэты план[11].

У такім выглядзе дэпо праіснавала да Другой сусветнай вайны. Памятаю, мой тата, спасылаючыся на старых чыгуначнікаў, казаў: *"Царскае дэпо было значна большае за сучаснае, у яго хаваліся ўсе паравозы-авечкі[12]"*. Падчас Другой сусветнай вайны старое дэпо было моцна пашкоджана, і на тым жа месцы ўзноўлены значна меншы будынак сучаснага дэпо.

Трохі на поўнач ад паваротнага круга Сэлерса пабудавалі новую воданапорную вежу, якая, верагодна, працавала разам са старой водапад'ёмнай вежай каля старога дэпо па сучаснай вуліцы Труханава. Новая цагляная цыліндрычная двухпавярховая вежа мела два вадзяныя бакі, якія ўзімку падаграваліся. Вежа ўзарвана адыходзячымі рускімі войскамі ў 1915 годзе. Замест яе немцы часова ўладкавалі бакі для вады на зрубе, складзеным са шпалаў.

Новую воданапорную вежу каля дэпо адбудавалі ў 1920-х, але ў Другую сусветную яна была зноў парушана.

Для пашыранай чыгункі была пабудавана новая водапрыёмная станцыя на рацэ Лідзейцы (існуе да нашага часу). Уся сістэма водападрыхтоўкі магла забяспечыць 210 куб. сажняў адмыслова ачышчанай для паравозаў вады ў суткі[13].

Па ўсёй даўжыні новай чыгункі была наладжана тэлеграфная і тэлефонная сувязь. Тэлефоны мелі начальнікі вакзалаў, казармаў, дэпо і дыстанцый пуці. Акрамя гэтага была магчымасць у любой кропцы лініі падключыць да тэлефоннага дроту так званы "фонапор" (пераносны тэлефонны апарат) і размаўляць са станцыяй[14].

На Лідчыне з'явіліся новыя чыгуначныя станцыі з вакзаламі: Гаўя, Скрыбаўцы і Ражанка. Кожны вакзал меў наступныя асобныя памяшканні: крытыя сенцы для ўваходу з боку непасрэдна памяшкання вакзала і з боку плошчы, пошта, лямпавая, у якой захоўвалі і запраўлялі газай ліхтары, кантора начальніка станцыі, тэлеграф, каса, багажнае аддзяленне, памяшканне дзяжурнага вартаўніка. Вакзалы мелі дзве залы для чакання - прызначаныя для пасажыраў I-II і III класаў. Абаграваліся кафлянымі печамі. Для пасажыраў I і II класаў працавалі мужчынскі і жаночы ватэрклазеты з рукамыйнікамі.

Вакзалы (яны называліся пасажырскімі будынкамі), як і вагоны, таксама мелі клас: самыя вялікія - I, самыя маленькія - IV (мелі плошчу 75 і 50 кв. саж.). Найчасцей сустракаліся вакзалы III і IV класаў[15]. На лініі Балагое-Полацк-Сядлец, якая ішла ў Польшчу, цагляныя вакзалы II класа (Ліда, Маладзечна, Ваўкавыск і інш.) пабудаваны з элементамі мадэрну, цагляныя вакзалы III класа (Гаўя, Скрыбаўцы, Ражанка і інш.) мелі элементы готыкі, а драўляныя, з мезанінамі і шпілямі, выкананы ў дзівосна прыгожым стылі мадэрн[16]. Гісторык архітэктуры А. М. Кулагін паведаміў, што праекты Лідскага і іншых вакзалаў рэалізаваны маскоўскімі дойлідамі[17].

Вакзалы II класа ў Маладзечне і Ваўкавыску мелі плошчу 203 кв. саж., лідскі вакзал - 232 кв. саж. Усе яны былі аднапавярховыя, цагляныя, крытыя жалезам. Кожны быў абсталяваны водаправодам і ватэрклазетам. Вакзалы і платформы мелі не электрычнае, а газавае асвятленне па сістэме варшаўскага інжынера Кржамінскага (з выкарыстаннем распыленага бензіну). Чыгуначная электроўня ў Лідзе пачала працаваць ў будынку першага лідскага дэпо каля 1916 года.

Новы цагляны вакзал "астраўнога" тыпу ў Лідзе пабудаваны для сумеснага карыстання абедзвюх дарог. З паўднёвага боку лідскага вакзала размяшчаліся кухня і рэстаран (буфет). Падземная лядоўня круглай формы для захоўвання прадуктаў знаходзілася прыкладна за 50 метраў на поўдзень ад кухні, яшчэ далей на поўдзень размяшчаўся будынак для захавання

[11] Полоцк-Седлецкая железная дорога. Альбом типовых и исполнительных чертежей сооружений железнодорожной линии Полоцк - Седлец и ветви Гродна - Мосты, 1902-1906 гг. С. 2.; 48.; 83.; 89.

[12] Паравоз "Авечка" (па-руску "Овечка") - паравоз серыі "О".

[13] Полоцк-Седлецкая железная дорога. Альбом типовых и исполнительных чертежей сооружений железнодорожной линии Полоцк - Седлец и ветви Гродна - Мосты, 1902-1906 гг. С. 76.; 89.

[14] Там жа. С. 2.: 30.

[15] Класіфікацыя вакзалаў, па плошчы памяшканняў і разліковай ёмістасці вакзалы дзеляць на:

- пазакласныя - больш за 11 тыс. кв. метраў, больш за 1500 пасажыраў;
- I класа - ад 4,6 да 11 тыс. кв. метраў, 1200-1500 пасажыраў;
- II класа - ад 2,3 да 4,6 тыс. кв. метраў, 500-1200 пасажыраў;
- III класа - менш за 2,3 тыс. кв метраў, да 500 пасажыраў.

[16] Вульфов А. Б. Повседневная жизнь российских железных дорог. М., 2007. С. 339.

[17] Кулагін А. М. Эклектыка. Архітэктура Беларусі другой паловы XIX - пачатку XX стагоддзя. Мінск, 2000. С. 259.

бензіну для асвятлення.

Зала чакання для пасажыраў I і II класа займала паўднёвае крыло будынка вакзала (межавала з буфетам), а зала чакання для пасажыраў III класа - паўночнае. Усю сярэднюю частку будынка займала адміністрацыя. З праекту бачна, што вакзал меў толькі адну звычайную і адну багажную касу з прыёмам багажу (з боку залы чакання III класа). З паўночнага боку вакзала некалькі пакояў займалі ваенны камендант і яго канцылярыя[18].




***Спалены першы, драўляны вакзал, 1916 г.***

Пасажырскія платформы на вузлавых станцыях мелі даўжыню 75 і шырыню 2 сажні і часткова брукаваліся цэментнымі пліткамі, а часткова рабіліся з каменнага друзу або бітай цэглы, якую залівалі вапнавым растворам. Платформы былі абсыпаныя пяском і ўтрамбаваныя "да шчыльнасці добрай садовай дарожкі". Па краях і пасярэдзіне платформы ўкладваліся дарожкі з дошак. Каля кожнага вакзала ўладкоўваліся "садочкі", разбіваліся кветнікі. Плошчу і вуліцу каля вакзала масцілі каменем. Усе жылыя і службовыя памяшканні да адкрыцця дарогі былі *"цалкам мэбляваныя і забяспечаныя білетнымі скрынямі і штэмпелямі, вагавым абсталяваннем, брызентам, вогнетушыльнымі прыборамі, сігнальным інвентаром, інструментамі, качэргамі, венікамі..."* [19].

Пасажыры на невялікіх станцыях елі ў буфетах - яны называліся "буфетны стол", а на вялікіх станцыях, напрыклад, у Лідзе - у рэстаранах. Буфеты, як і вагоны, таксама былі розных класаў. Буфеты і рэстараны ўтрымліваліся прыватнымі асобамі па дамове з чыгункай і падпарадкоўваліся непасрэдна начальніку станцыі. Вагонаў-рэстаранаў у большасці цягнікоў не было, і таму да падыходу кур'ерскага або паштовага цягніка па тэлеграфе даведваліся пра лік пасажыраў і загадзя накрывалі сталы. Рэстаран на лідскім вакзале працаваў да пачатку 2000-х.

Узровень культуры пры абслугоўванні пасажыраў у буфетах і рэстаранах быў высокі. Пра гэта, напрыклад, можа сведчыць выпадак, апісаны ў газеце "Беларус": *"Бенякöні. На гэтай станцыі нейкі чалавек забыўся партманет з грашыма ў буфеце. Але служачы станцыі аддаў гэты партманет жандару, а той, праходзячы ўсе вагоны, дапытваў, хто згубіў партманет, але ніхто не прызнаваўся. І толькі на трэцяй станцыі той чалавек, які згубіў грошы, агледзеўся і вярнуўся да Беняконяў за стратай"* [20].

Усе малыя чыгуначныя будынкі - казармы, паўказармы, будкі вартаўнікоў, лінейныя будынкі былі драўляныя на каменных фундаментах, крытыя дахоўкай ці жалезам і прызначаліся для пражывання адміністрацыйнага персаналу сярэдняга і ніжняга звяна, рабочых, абходчыкаў і вартаўнікоў. У кватэрах старэйшых службоўцаў меліся ватэрклазеты і ванны, для начальства былі пабудаваны два чатырохкватэрныя дамы на сучаснай вуліцы Труханава. На станцыі Ліда для жаўнераў быў пабудаваны цёплы барак плошчай 100 кв. сажняў. Тут была ваенная замошчаная платформа даўжынёй 200 сажняў з адмысловымі шляхамі пагрузкі і выгрузкі войск. Была яшчэ і цагляная майстэрня сярэдняга рамонту, якая не захавалася[21].

Жылы фонд ствараўся надзейна і спраўна служыць аж да сёння, хоць прамінула з дня пабудовы больш за 110 гадоў.

У асноўным будаўніцтва чыгункі было закончана ўжо да канца 1905 года. Лідскі вакзал быў пабудаваны да 1906 года, бо менавіта ў гэтым годзе гісторык Міхал Шымялевіч напісаў: *"У г. Лідзе размешчаны злучаны вакзал Палескай і Балагое-Сядлецкай чыгунак"* [22]. Тады ж з'явіліся новыя, аднатыпныя лідскаму, вакзалы ў Маладзечне і Ваўкавыску.

[18] Полоцк-Седлецкая железная дорога. Альбом типовых и исполнительных чертежей сооружений железнодорожной линии Полоцк - Седлец и ветви Гродна - Мосты, 1902-1906 гг. С. 89.

[19] Вульфов А. Заповедная железная дорога // Наука и жизнь. 2001. № 12. С. 31.

[20] Bielarus, №18, 17 чэрвеня 1913.

[21] Полоцк-Седлецкая железная дорога. Альбом типовых и исполнительных чертежей сооружений железнодорожной линии Полоцк - Седлец и ветви Гродна - Мосты, 1902-1906 гг. С. 76.: 89.

[22] Шимелевич М. Виленский календарь. Вильно, 1906. С. 57.

# Пералік маёнткаў Лідскага павета з прозвішчамі і імёнамі іхніх уладальнікаў

| Назва маёнтка | Гміна / Павет | Уладальнік, 1939 |
|---|---|---|
| 1. Болценікі, Карэлічы-Людвікова, Працяневічы, Райца | Беняконі / Ліда | гр. Зофія Путкамер |
| 2. Ліпічна Ісавоўшчына ці Саворшчына | Жалудок, Орля / Ліда | на 1937 г. кн. Людвік Святаполк-Чацвярцінскі,<br>на 1939 г. кн. Ружа Святаполк-Чацвярцінская |
| 3. Дворышча | Жырмуны / Ліда | Аўгуст Амберг |
| 4. Вярсока І | Эйшышкі / Ліда | Яўгенія Станевіч |
| 5. Вярсока ІІ | Эйшышкі / Ліда | Яніна Сумарок |
| 6. Дзержанішкі | Эйшышкі / Ліда | Вітольд Шалевіч |
| 7. Мар'ямполь | Беняконі / Ліда | Ганна Абуховіч, 1928 г.<br>Мар'ян Рэшка |
| 8. Парадунь з фальф. Явар, Чыжуны і пусташ Мілевічы | Жырмуны / Ліда | Марыя Шчасная - Беразоўская |
| 9. Шалева | Вавёрка / Ліда | Марыя Яўгенія Шалевіч,<br>Эмілія Меер |
| 10. Забалаць ІІ "А", ІІ "В" | Забалаць / Ліда | Марыя Вадкевіч,<br>Яніна Бурнос,<br>Ірэна Станевіч |
| 11. Казляны | Жалудок / Ліда | Уладзімір, Міхал, Аляксандр, Леанід, Павел Савічы |
| 12. Караліна Аляксандрава | Жырмуны / Ліда | Аляксандр Міхневіч |
| 13. Гайкаўцы ці Гайкаўшчына | Сабакінцы / Ліда / Шчучын | Леан Пратасевіч |
| 14. Фальварак Дзітва - Шамятоўская "А" | Тарнова /Ліда | Міхал і Мікалай Ягадоўскія |
| 15. Калонія Ліпічна "А" | Орля / Ліда | Уладзіслаў Талпыга |
| 16. Савы ці Гаўе - Пяскі | Надлясніцтва Ліда | |
| 17 Гойдзі | Эйшышкі / Ліда | Ян Валіцкі |
| 18. Падбярэзіна | Забалаць / Ліда | Канстанцін Міхневіч |
| 19. Курмірны ці Быкоўшчына | Жырмуны / Ліда | Плацыда Стацэвіч |
| 20. Калонія Люблянцы | Радунь / Ліда | Ян Гатоўт |
| 21. Калонія Устроні | Ліда / Ліда | Юзаф Марац |

| | | |
|---|---|---|
| 22. Дзітрыкі, дз. № 1, 3 | Тарнова /Ліда | Ірэна Макрэцкая,<br>Юстын Макрэцкі |
| 23. Варанкоўшчына | Астрына / Ліда | Станіслаў Ераміновіч |
| 24. Пеляса - Старая | Забалаць / Ліда | Эдвард Пілецкі |
| 25. Руканцы ці Забярэззе | Радунь, Эйшышкі / Ліда | Зыгмунт Тыскі |
| 26. Юршышкі | Эйшышкі / Ліда | Юзаф і Вінцэнт Ясовічы |
| 27. Зубішкі ці Зублішкі Малыя | Эйшышкі / Ліда | Ежы Кунцэвіч |
| 28. Касперава | Мыто /Ліда | Ян і Каміля Запаснік |
| 29. Аўсядава ці Яд’янава | Жырмуны / Ліда | Станіслаў Аскерка |
| 30. Крывічы | Беліца / Ліда | Аляксандр Дораш |
| 31. Грачышнае | Беліца / Ліда | Казімір Ратомскі, спадчыннікі |
| 32. Антонава | Воранава / Ліда | Юліян і Баляслаў Гусеўскія<br>(Гансеўскія) |
| 33. Забалотнае | Забалаць / Ліда | Адам і Вінцэнт Семакі |
| 34. Жырмуны | Жырмуны / Ліда | Уладзіслаў і Яніна Ельскія |
| 35. Сапуньцы I | Радунь / Ліда | Канстанцін Мангайла |
| 36. Казімірава - Пасольцы | Беняконі / Ліда | Казімір Стацкевіч |
| 37. Каськоўшчына | Аляксандрава / Ліда | Юзаф, Леан, Ежы і Ян Венцусі |
| 38. Зайчыцы | Дакудава / Ліда | Марыя Юндзіл, Зыгмунт Рушчыц |
| 39. Наталінак | Эйшышкі / Ліда | Стэфан і Міхал Загорскія |
| 40. Братамір | Эйшышкі / Ліда | Спадчыннікі Юзафа Мангайлы,<br>Вераніка Мангайла |
| 41. Зайкі | Ліда / Ліда | Сабіна і Багуслаў Пажарскія |
| 42. Станатэнты - Станалупцы | Радунь / Ліда | Юзаф, Вінцэнт і Аляксандр<br>Плацякі |
| 43. Сапуньцы з урочышчам<br>Вяціні | Радунь / Ліда | Аляксандр і Вітольд Запаснікі |
| 44. Жамойцішкі ці Каятанава | Воранава / Ліда | Часлава, Эдвард, Густаў<br>Пятроўскія |
| 45. Лазоўка | Ваверка / Ліда | Юзаф Скавінскі,<br>Антаніна Юцэвіч |
| 46. Таруцкі Бор | Суботнікі / Ліда | Казімір Гулецкі |
| 47. Пагаўе | Суботнікі / Ліда | Ванда і Аліна Люцуна Табенскія |
| 48. Дакудава з урочышчамі<br>Пажарын і Галін | Дакудава / Ліда | Спадчыннікі Стэфана Лабко |

| | | |
|---|---|---|
| 49. Казімірава | Ліпнішкі / Ліда | Павел, Станіслаў, Юзаф, Эльжбета Сарокавы |
| 50. Буцішкі | Эйшышкі / Ліда | Каятан Пятроўскі, Зофія Хлусевіч, Юзэфа Пекш, Браніслава Макевіч |
| 51. Салтанішкі - Саболюнцы | Забалаць / Ліда | Ян Ніжыцкі |
| 52. Капланаўшчына | Дакудава / Ліда | Казімір, Валяр'ян, Вітольд, Зыгмунт Скавінскія |
| 53. Янчуны | Аляксандрава / Ліда | Марцін Бобін, Тамаш Варанецкі |
| 54. Паройсці | Аляксандрава / Ліда | Адам Шпак |
| 55. Галімшчына | Суботнікі / Ліда | Гелена Селюжыцкая |
| 56. Залатая Рэчка ці Беліца | Беліца / Ліда | Адам і Ганна Каўлюкевічы |
| 57. Ходарава | Беліца / Ліда | Пётр і Сільвестр Кветкі, Герасім Тэлеша |
| 58. Пудзіна | Дакудава / Ліда | Марыя Захарэўская, Вітольд Захарэўскі |
| 59. Магялішкі | Эйшышкі / Ліда | Зофія Ячунская |
| 60. Чэхаўцы | Ліда / Ліда | Ян Петрусевіч ці Станіслаў Петрусевіч |
| 61. Фальварак Навіянка | Воранава / Ліда | Эдвард Варанковіч ці Варанкаевіч - 1/2, Гелена Асоўская, дзеці Гелена і Крыстына Асоўскія - 1/2 |
| 62. | Мыто / Ліда | Амелія Баршчэўская |
| 63. Чаплёўшчына ці Чаплеўшчына | Шчучын / Ліда | Кароль Радзееўскі - Калупайла |
| 64. Сакаленшчына | Беняконі / Ліда | Кароль Вагнер |
| 65. Кейстунішкі | Беняконі / Ліда | Юліян Віктар Якубоўскі, Мікалай Даргель |
| 66. Мацкішкі | Эйшышкі / Ліда | Ігнацы Вайцяховіч |
| 67. Сядзеймы | Ліда / Ліда | Спадчыннікі Францішка Эйсманта, Элеанора Эйсмант |
| 68. Бярозаўка | Жалудок / Шчучын / Ліда | Спадчыннікі Эміля Буткевіча |
| 69. Сумарокаўшчына | Эйшышкі / Ліда | Баніфацы Тумялевіч |
| 70. Праважа | Забалаць / Ліда | Францішак Стычынскі, Геракнім Адамскі |

| | | |
|---|---|---|
| 71. Борці | Воранава / Ліда | Яніна, Баляслаў, Браніслаў, Ірэна Булгараўскія |
| 72. Макрэц | Ражанка / Ліда, Шчучын | Іва Марачэўскі |
| 73. Седлішча ці Селішча | Ражанка / Ліда | Дамінік Маскевіч,<br>Кіхал Казлоўскі |
| 74. Заёнчыца - Устронь - Боркі | Ганчары / Ліда | Юзаф Ленскі |
| 75. Вялікі Ольжаў з урочышчам Пушча | Тарнова, Белагруда / Ліда | гр. Эльжбета Красіцкая - 1/7,<br>Цэцылія Эльжбета Красіцкая -6/7 |
| 76. Высокае | Эйшышкі / Ліда | Пётр і Мацей Галабурды,<br>Францішак Амбражэвіч |
| 77. Зельвідоры | Беняконі / Ліда | Вікторыя Казакевіч |
| 78. Сабалеўшчына | Беняконі / Ліда | Спадчыннікі Станіслава Страбейкі,<br>Антоні Страбейка |
| 79. Валэйшы | Забалаць / Ліда | Станіслаў Баэр |
| 80. Місевічы | Мыто / Вавёрка / Ліда | Адольф і Вінцэнт Залескія |
| 81. Трокі | Беняконі / Ліда | Браніслаў Стафановіч |
| 82. Васьковічы ці Вашкевічы | Ганчары / Ліда | Адольф Чылек |
| 83. Стамяроўшчына | Канява / Ліда | Уладзіслаў Яцунскі |
| 84. Калонія Блажаны II | Воранава / Ліда | Антоні Стэфановіч |
| 85. Вярсочка | Эйшышкі / Ліда | Вінцэнт Міхно,<br>Вінцэнт Сянкевіч |
| 86. Бурнейкі | Эйшышкі / Ліда | - |
| 87. Пакулішы ці Пакулішкі | Канява / Ліда | - |
| 88. Дзержанішкі з земскіх добраў Вярсока | Эйшышкі / Ліда | Яніна Сумарок - 1/3<br>Вітольд Сумарок - 2/3 |
| 89. Вярсока | Эйшышкі / Ліда | Вярсока, рэшта маёнтка |
| 90. Вінкаўцы з фальваркам Казімірава і ўрочышчам | Ліда / Ліда | Рамана Каміла Станкевіч,<br>Ежы Макрэцкі |
| 91. Балькуны ці Балькуны - Канстанцінава | Беняконі / Ліда | Вітольд Стацкевіч |
| 92. Быкоўшчына ці Курміны | Жырмуны / Ліда | Плацыда Стацэвіч |
| 93. Геранёны | Ліпнішкі / Ліда | Марыя Антаніна Мяйштовіч |
| 94. Сукурчы II “Б” | Ліда / Ліда | Яўген Пілецкі |
| 95. Малюжын ці Пецюлёўцы | Ліда / Ліда | Казімір Радомскі,<br>Рафаэля Здановіч |

| | | |
|---|---|---|
| 96. Гарадзенка “А” | Жырмуны / Ліда | Люцыян Кабылінскі |
| 97. Белапятры | Эйшышкі / Ліда | Зянон Кунцэвіч |
| 98. Пяткоўшчына | Жырмуны / Ліда | Юліян Лясковіч - 6/7, Уладзіслава Лясковіч - 1/7 |
| 99. Навіны II Сліvоўшчына | Шчучын / Шчучын / Ліда | Юліян Лясковіч, Уладзіслава Лясковіч |
| 100. Фальваркі Пажыжма і Марцінаў | Воранава / Ліда | Леан Раманоўскі |
| 101. Вострава ці Востраў і фальварак Востраў | Ліда / Ліда | Мечыслаў Міхалоўскі |
| 102. Зубішкі Вялікія | Эйшышкі / Ліда | Яніна Седлікоўская |
| 103. Ляшчанка | Шчучын / Ліда, Наваградак | Мікалайі Грабоўскі |
| 104. Кульбачын | Астрына / Ліда, Шчучын | Баляслаў Скавінскі |
| 105. Фальварак Кажамякі | Новы Двор / Ліда, Шчучын | Юліян Прыбытка |
| 106. Малы Мажэйкаў | Вялікая Лебяда / Ліда, Шчучын | Андрэй Брахоцкі |
| 107. Дзікушкі | Жалудок / Ліда, Шчучын | Марыя Мінейка |
| 108. Зданоўцы | Ражанка / Ліда, Шчучын | Юліян Шчука |
| 109. Андрушоўцы | Шчучын / Ліда, Шчучын | Вітольд і Багдан Марачэўскія |
| 110. Раманаўцы | Вялікая Лебяда / Ліда, Шчучын | Аляксандра Ванькович |
| 111. Лябёдка | Васілішкі / Ліда, Шчучын | Гелена Іваноўская - Скіндар |
| 112. Лацк Высокі і Шчучынак | Шчучын / Ліда, Шчучын | Баляслаў Лісоўскі |
| 113. Аляшэвічы | Каменка / Ліда, Шчучын | Ірэна Ронікер |
| 114. Хільчыцы | Ражанка / Ліда, Шчучын | Ежы і Яўстах Шчукі, Гелена Марачэўская, Вольга Ваўкавіцкая |
| 115. Фальварак Беразнякі | Беняконі / Ліда | Дарота і Юзаф Банель |
| 116. Дзержанішкі | Эйшышкі / Ліда | Яўгенія Станевіч, Яніна Сумарок |
| 117. Раўняны | Ліда | Плацыда Стацэвіч |
| 118. Фальварак Ракуцінішкі | Канява / Ліда | Багдан Міцкевіч |
| 119. Лябёдка | Васілішкі / Ліда, Шчучын | Станіслаў Іваноўскі |
| 120. Ліповічна | Орля / Жалудок / Ліда | кн. Людвік Святаполк-Мірскі |
| 121. Лышчыкоўшчына | Беняконі / Ліда | Вацлаў Адамовіч на 1928 г. |

***Крыніца: centrum.jaroslawrokicki.pl.***

*Год малой радзімы*

# Гісторыя і тапаніміка вёскі Гасцілаўцы з наваколлем

Разам з помнікамі старадаўняга дойлідства, руінамі гарадзішчаў і замчышчаў мы атрымалі ў спадчыну ад мінулых пакаленняў і ўласныя геаграфічныя назвы - своеасаблівы летапіс нашай зямлі. Нямецкі філолаг Вільгельм Грым пісаў: *"Ёсць больш жывыя сведчанні пра народы, чым косці, дамавіны і зброя, - гэта іх мова"* [3, с. 135]. Тапонімы з'яўляюцца важнай часткай нашай гістарычна-культурнай спадчыны і гэтак жа вартыя ашчаднага стаўлення і аховы, як і іншыя творы чалавечага духу і чалавечых рук [8, с. 5].

У Беларусі кажуць: "Не плюй у калодзеж, спатрэбіцца вады напіцца". Так і нам не трэба забывацца пра мінулае нашай краіны, яе традыцыі, людзей. Сёння старыя людзі, нашы бабулі і дзядулі, з'яўляюцца для нас невычэрпным калодзежам, крыніцай каштоўных ведаў пра нашу гісторыю, Радзіму і пра саміх нас.

Кожнае лета я адпачываю ў бабулі ў вёсцы Гасцілаўцы Лідскага раёна Гарадзенскай вобласці [19]. Мяне зацікавіла, чаму называецца так наша вёска і мясціны вакол яе. Я спытала аб гэтым маю бабулю Нядзведскую Марыю Мікалаеўну. І з гэтага моманту пачалася мая даследчая работа аб паходжанні назвы вескі Гасцілаўцы і пра абрад, якім вёска адметная.

З прадмета "Гісторыя Беларусі" мы ведаем, што легенды, паданні, а таксама абрады - гэта вялікае багацце, якое перадавалася ад дзядоў да ўнукаў, захавалася да нашага часу і дазваляе глыбей вывучаць мінулае краю. Мы ведаем, што не ўсе нашы равеснікі цікавяцца абрадамі ці легендамі і паданнямі, таму наша праца будзе актуальнай. Ёсць праблема ў тым, што легенды, якія нідзе не запісаны, забываюцца, што абрады не ўжываюцца, і памяць пра іх памірае. Мы вельмі хочам, каб легенды аб назвах жылі, што і з'явілася мэтай гэтай працы. Задачамі даследавання сталі: запіс легендаў і апісанне абраду валачобніцтва, садзейнічанне таму, каб пра іх даведаліся іншыя, раскрыццё паходжання назваў вёсак і мясцін.

Аб'ект даследвання - тапанімічныя паданні (аповеды аб паходжанні назваў населеных пунктаў, вёсак і г. д., якія можна аднесці і да гістарычных) аб назве вёскі Гасцілаўцы і мясцін вакол яе. Прадмет даследавання - духоўная спадчына. Метады даследавання: метад вуснай гісторыі, апытанне, гісторыка-сістэмны аналіз розных крыніц, праблемна-культуралагічны. Гіпотэза: існуе вялікае духоўнае багацце (зафіксаванае ў легендах і паданнях), якое аб'ядноўвала і будзе аб'ядноўваць людзей у іх духоўным жыцці. Яно павінна стаць адным з тых мосцікаў, па якіх адбываецца пераемнасць паміж пакаленнямі і эпохамі.

У гэтым артыкуле будзе раскрыта назва вёскі Гасцілаўцы, акрамя таго ўпершыню пісьмова зафіксаваны назвы тых мясцовасцей, якія знаходзяцца каля гэтай вёскі і якімі карыстаюцца толькі мясцовыя жыхары. Гэта назвы: ***Старыя могілкі, Вольга Рыжая, Загаркавых, Ханькавых, Валодзікаў кут, Маскоўскія горы.*** Легенду пра Гасцілаўцы амаль ніхто не ведае. Я лічу, што такая прыгожая легенда павінна жыць, таксама, як да сённяшняга дня жыве абрад валачобніцтва. У многіх мясцінах ён назаўсёды страчаны, а ў Гасцілаўцах жыве!

У часе даследавання былі прааналізаваны працы П. Шпілеўскага, А. Смоліча, І. Гапоненкі [11,10,8]. На жаль, афіцыйнага тлумачэння назваў вёскі і гэтых мясцовасцей няма. Магчыма, гэта таму, што яны ўзнікалі стыхійна, іх прыдумвалі самі жыхары, і гэта не было нідзе зафіксавана.

Прадстаўленая работа - гэта толькі аснова для працягу больш шырокіх і глыбокіх даследаванняў у гэтым накірунку. Яна можа быць цікавая не толькі вучням і педагогам, работнікам установаў культуры, але і ўсім тым, хто цікавіцца духоўнай спадчынай нашай Радзімы.

## ГІСТОРЫЯ ВЁСКІ ГАСЦІЛАЎЦЫ

Пра час і гісторыю ўзнікнення вёскі мы знайшлі мала матэрыялу. Але калі ўважліва разгледзець фрагменты карты Лідскага раёна ад 1865 года, то можна зразумець, што вёска большая за іншыя вёскі. Магчыма, яна ўзнікла намнога раней, чым быў заснаваны маёнтак Малое Мажэйкава. А ён упершыню згадваецца пад 1511 г. у прывілеі вялікага князя літоўскага Жыгімонта І Старога аб падараванні маёнтка Шымку Мацкавічу. Далей ён належаў Яну Шымкавічу (сыну Ш. Мацкавіча), Палубенскім і іншым. Да маёнтка належалі вёскі: Скрыбаўцы, Шпількі, Гасцілаўцы, Бешанкі. Агульная плошча маёнтка складала 3 500 га, але да 1914 г. зменшылася да 1 500 га, а пасля Першай сусветнай вайны агульная плошча зменшылася зноў. Да 1868 г. М. Мажэйкава належала Румэрам. Эмілія Румэр выйшла замуж за Рамуальда Кастравіцкага, атрымаўшы М. Мажэйкава ў пасаг. Іх дачка Казіміра прынесла гэты маёнтак як пасаг свайму мужу Аляксандру Брахоцкаму гербу Праўдзіц [20]. Апошнім гаспадаром сядзібы быў унук Аляксандра - Андрэй Брахоцкі. Ён нарадзіўся ў 1895 г. у М. Мажэйкаве [6].

Вёска Гасцілаўцы на карце 1865 года пазначана толькі адной вуліцай, але тут ёсць цэнтральная вуліца і паралельныя ёй дзве меншыя вуліцы [14]. Усе яны знаходзяцца адна ад адной на адлегласці паўкіламетра. Калісьці вёска налічвала больш, чым семдзесят хат. Сёння некаторыя з іх разбураныя. У лесе вакол вёскі захавалася шмат месцаў, дзе таксама некалі былі хаты. Людзі кажуць: "Пойдзем пад **Вольгу Рыжую**, пад **Загаркавых**, пад **Ханькавых**, у **Валодзікаў кут**" і гэтак далей…[13]. Чаму гэтыя мясціны так называюцца,

лёгка патлумачыць. Там жыла Вольга-красуня, у якой былі рыжыя валасы. Там жыў Ханька і яго сям'я, жыў не Уладзімір, а Валодзька (магчыма, быў добры чалавек, што так ласкава клікалі) [4].

А вось пра Загаркавых другая гісторыя. Няма такога імя " Загарак", але легенда тлумачыць: *"У адной сям'і, што жыла ў лесе, нарадзіўся хлопчык. І быў ён і паслухмяны, і старанны. Любілі яго бацькі і бабка, што жыла з імі. А ён уставаў раненька, каб усё парабіць каля хаты і пайсці ў лес па суніцы. Бабка ўсім пра яго казала: "А мой "Загарачак"*(на польскай мове гадзіннік) *ужо суніц прынёс"*. Так і застаўся ён у памяці людской Загарачкам, а дзеці, унукі і праўнукі Загаркавымі [4].

Увесь навакольны свет нашым прашчурам ўяўляўся населеным рознымі добрымі і злымі істотамі, жывымі лічыліся камяні, дрэвы і травы, крыніцы і азёры. Вось чаму ўсё мела вялікі сэнс і часта насіла сакральны характар. Узяць хаця б расліны, дрэвы. Як сведчаць спецыялісты, назвы населеных пунктаў ад іх пайшлі не проста так. Дуб - свяшчэннае дрэва. У язычніцкія часы ў свяшчэнныя дубровы і заходзіць было забаронена. Так, ля вёскі Гасцілаўцы была некалі мясцовасць, што мела назву **Дубенка** ці **Дубянка** [15]. Сёння там поле, на якім расце збожжа. А раней там быў фальварак і была дуброва. Сённяшнія старажылы ўспамінаюць дакалгасны час і дубы з вялікімі дуплами, абсмаленымі маланкамі. Кажуць, што некалі там былі самыя лепшыя сенажаці [5, с. 1].

Легенды і паданні тлумачаць паходжанне шматлікіх узгоркаў, рэчак, святых крынічак, урочышчаў, каменных крыжоў і камянёў. Сярод лесу, дзесьці за два кіламетры ад вёскі, ёсць мясціна, якую жыхары называюць **Маскоўскія горы** [16]. Людская памяць данесла, што некалі на гэтых пагорках размясцілася маскоўскае войска. Не знойдзены пакуль дакументы, якія назавуць дакладны час. Магчыма, гэта было ў сярэдзіне 17 стагоддзя, калі царом быў Аляксей Міхайлавіч Раманаў, і вайна з Рэччу Паспалітай цягнулася з 1654 па 1667 год ды была вельмі жорсткай. Тым не менш, назва трывала захавалася да нашых дзён і актыўна ўжываецца мясцовымі жыхарамі для ўдакладнення месца.

З розных картаў, што паказаны ніжэй у дадатках, бачна, якая цікавая і кучаравая была некалі рэчка Лебяда, уздоўж якой і выраслі Гасцілаўцы. Але ўжо з 1975 года яна выраўнена пад час меліярацыйных работ [17].

40 год мінула, і рэчка паступова пачынае вяртацца ў старое русла, таму што няма каму абкошваць яе берагі. Сёння ў вёсцы Гасцілаўцы мы налічылі толькі 45 жыхароў, якія жывуць там пастаянна. Але на вялікія святы і летам вёсачка ажывае: прыязджаюць дзеці і родзічы. Асабліва шмат людзей у Гасцілаўцах летам. Адкуль толькі не едуць сюды: з Германіі, з Італіі, з Ізраіля, з усіх куточкаў Беларусі і Расіі! Кожны лічыць сваім абавязкам наведацца на малую радзіму і ўшанаваць памяць сваіх продкаў!

У 1974 годзе на ўскраіне вёскі Гасцілаўцы, каб увекавечыць памяць 47 землякоў, якія загінулі на фронце ў гады Вялікай Айчыннай вайны, быў усталяваны помнік-курган. Вянчае яго постаць ваяра, а на плітах напісаны імёны тых, хто аддаў жыццё ў імя Перамогі [18].

Сюды прыходзяць жыхары ўсіх бліжэйшых вёсак, прыязджаюць госці Лідчыны і ўдзельнікі аўта-і мотапрабегаў памяці. Усё лета на клумбе каля помніка квітнеюць кветкі, шумяць дрэвы, нагадваючы нам, хто жыве цяпер, аб міры і спакоі, за якія былі аддадзены жыцці мільёнаў людзей [1].

### АДКУЛЬ ПАЙШЛА НАЗВА ГАСЦІЛАЎЦЫ

Некалі даўно на правым беразе ракі Лебяда, што цячэ цераз Лідскі раён, вырашыў пабудаваць сабе хату чалавек. Мясціны былі тут прыгожыя: і лес, і рака побач. Рыбы ў рацэ была процьма, хоць рукамі лаві. Звяроў таксама хапала. Вясной рака разлівалася нібы возера. Зямля была ўрадлівая, бо глею пасля веснавой паводкі хапала [2, с.5].

Для мясцовых жыхароў гэты чалавек быў чужы, таму назвалі яго Госць, ці Гасціла. Знайшоў ён сабе жонку, і пачалі яны пацыху жыць. У іх нарадзілася трое сыноў. Выраслі сыны, ажаніліся ды пачалі будавацца ля бацькоўскай хаты, бо лесу вакол селішча было шмат [2, с. 5].

У ладзе жыў стары Гасціла са сваімі сынамі ды з людзьмі навокал. У яго нараджаліся ўнукі. Да гэтай прыгожай мясціны цягнуліся людзі і сяліліся побач. Так утварылася вёсачка, якую пачалі называць Гасцілаўцы [2, с.5]. Адбылося гэта дзесьці на мяжы XV-XVI стагоддзяў.

Аднойчы ранняю вясною памёр Гасціла. Пахавалі сыны яго на сухім узгорку сярод лесу, на месцы, якое выбраў некалі сам Гасціла. Назаўтра, толькі пачало шарэць, пачуўся крык: "Гасціла!" Усе высыпалі з хацін. Каля адной з хат ляжаў мёртвы Гасціла. Асцярожна наблізіліся да яго і ўбачылі на падталым снезе сляды вялізнага мядзведзя. Калі зусім развіднела, пайшлі па слядах і дайшлі да магілы Гасцілы. Вяскоўцы зразумелі, што гэта мядзведзь разгроб магілу і прынёс старога Гасцілу ў вёску. Чаму ён так зрабіў - невядома.

Гасцілу вырашылі пахаваць на ўзгорку з жоўтага пяску, які знаходзіўся пасярод вёскі. Але з таго часу лясок, дзе спачатку пахавалі Гасцілу, пачаў называцца **Старыя могілкі** [2, с. 5]. І цяпер, калі хто ідзе па грыбы і ягады, то кажа: "Пайду на Старыя могілкі".

### АБРАД ВАЛАЧОБНІЦТВА

У вёсцы Гасцілаўцы есць адзін абрад: **валачобніцтва**. Такога звычаю няма больш ў наваколлі.

Валачобніцтва - святочны абыход двароў, што здзяйсняецца на Вялікдзень. Як і на Каляды, удзельнікі абыходу спяваюць адмысловыя песні гаспадару хаты, гаспадыні, іх дзецям, што пакуль не маюць уласных сем'яў. Пасля гэтага гаспадары дзякавалі ім і давалі падарункі - т.зв. "валачобнае" (яйкі, сыр, каўбасы). У мінулым лічылі, што валачобны абрад спрыяе ўра-

джаю, дабрабыту сям'і, засцерагае ад розных нягод. [9, с. 2].

У Гасцілаўцах валачобнікаў называюць **"глыканікі"**. Бабуля патлумачыла, што гэта таму, што некалі ім давалі сырыя яйкі, і яны іх глыкалі. Калісьці даўно ў глыканікі ішлі толькі старыя мужчыны, іх было ад 10 да 20 чалавек. Цяпер старых мужчын амаль не засталося, і ходзяць у глыканікі нават і жанчыны, каб гэты абрад не знік. Яны ідуць ад хаты да хаты і спяваюць песню "Вялік святы нам дзень настаў - Хрыстос із гроба вассіяў..." Усе падхопліваюць трохразова прыпеў: "Хрыстос Васкрос!" [ 5].

Бабуля расказвае : *"Ні адзін Вялікдзень у вёсцы не абыходзіўся без глыканікаў. Спачатку, у ноч з суботы на нядзелю, ішлі на ўсяночную службу ў царкву ў в. Лебяда. А ў нядзелю апоўдня на вясковай вуліцы з'яўляліся глыканікі. Бралі гармонікі, кошыкі, у якія гаспадары складвалі для іх пачастункі. Стукаліся ў кожную хату. Віталіся, зычылі дабрабыту, спявалі. Акрамя "Вялік святы нам дзень настаў..." спявалі яшчэ "Панянэчку", калі ў хаце жыла незамужняя дзяўчына ці нават зусім дзяўчынка. "Панянэчкай" зычылі дзяўчыне добрага мужа. Акрамя песень казалі прымаўкі ці забаўкі"* [4].

Калі глыканікі заходзілі ў хату, гэта лічылася добрай прыкметай, давала надзею на спраўджанне ўсіх пажаданняў. Заходзілі ў тыя хаты, дзе былі хворыя. Але часцей за ўсё глыканікі станавіліся пад расчыненым гаспадыняй акном і спявалі. Так і хадзілі ад хаты да хаты, пакуль не абыдуць усю вёску, а вярталіся амаль пад раніцу - пеўні ўжо пачыналі спяваць. Садзіліся пад якой бярозай і пачыналі дзяліць пачастункі. Каму яйкі фарбаваныя, каму сырыя [4].

* * *

Тапонімы - гэта бясцэнная крыніца ведаў па розных галінах: гісторыі і культуры мясцовасці, прыродзе, рэльефу, побыце. Гасцілаўскія тапонімы таму яркае пацверджанне. Для таго, каб атрымаць гэтую інфармацыю, неабходна было вылучыць асноўныя групы тэматычна блізкіх тапонімаў, што і было зроблена. Даследуючы тапонімы, можна зрабіць выснову, што тапонімы - гэта мост паміж мінулым і сучаснасцю. Як шмат, аказваецца, могуць распавесці тапонімы пра жыццё нашых продкаў. Тапаніміка дазваляе ствараць малюнак мінулага.

Пры выкананні даследчай працы мы прыйшлі да высновы аб тым, што наша духоўная спадчына вельмі багатая, разнастайная, цікавая. Гэта спадчына з'яўляецца важным сродкам далучэння жыхароў Беларусі да нацыяльна-культурных каштоўнасцяў, дапамагае адрадзіць духоўныя традыцыі, перадаць самае лепшае, што стварылі нашы продкі, нашчадкам.

Нельга дапусціць, каб зніклі гэтыя назвы. Таму трэба захаваць тапонімы, паколькі яны ўтрымліваюць у сабе звесткі пра жыццё нашых продкаў. А каб захаваць тапонімы, трэба спачатку іх даследаваць.

У ходзе дадзенай працы ўстаноўлены сэнс шэрагу тапонімаў вёскі Гасцілаўцы, сабраны паданні, звязаныя з некаторымі з іх.

Атрыманы наступныя высновы:

1) Тапонімы вёскі Гасцілаўцы нясуць у сабе багатую інфармацыю з розных галін навукі і расказваюць аб побыце нашых продкаў.

2) Тапонімы вёскі ўтвораны рознымі спосабамі, але часцей за ўсё ад імён асабовых.

Па выніках працы створаны "Слоўнік назваў і геаграфічныя каардынаты мясцін ля вёскі Гасцілаўцы" (Дадатак 2). Увесь даследчы матэрыял афармлены ў выглядзе дакладу і камп'ютарнага варыянту на CD для перадачы ў школьны музей і краязнаўчы аддзел раённай бібліятэкі ў вёсцы Малое Мажэйкава.

Не менш важна, што ёсць магчымасць зацікавіць гэтым вялікім духоўным скарбам людзей розных пакаленняў. Таму мы лічым, што наша праца будзе карысная вучням школ, настаўнікам, работнікам культуры, а таксама ўсім, хто цікавіцца гісторыяй і культурай нашага краю.

## СПІС ВЫКАРЫСТАНЫХ КРЫНІЦ І ЛІТАРАТУРЫ:


1. Анісімава, А. Помнік / А. Анісімава //Лідская газета.- 2017.- 27 красавіка. - С.6.

2. Банцэвіч Н. Легенда аб Гасцілаўцах / Н. Банцэвіч // Вечерний Гродно. №57, - 11. 04. 2011. - С.11.

3. Гринблат, М.Л. Белорусы. Очерки происхождения и этнической истории / М.Л. Гринблат. - Мн.: "Наука и техника", 1968. - 288 с.

4. Воспоминания жительницы д. Гостиловцы Недведцкой Марии Николаевны, записанные Банцевич В. Архив музея ГУО "Гимназия № 10 г. Гродно".

5. Воспоминания жительницы д. Гостиловцы Макаревич Наталии Михайловны, записанные Банцевич В. Архив музея ГУО "Гимназия №10 г. Гродно".

6. Вялікае і Малое Мажэйкава. [Электронный ресурс] Режим доступа: http://pawet.net/library/history/city_district/towns/mazhejkawa/Вялікае_і_Малое_Мажэйкава.html. - Дата доступа: 20.08.2017.

7. Кабашнікаў, К.П. Казкі і легенды роднага краю / К.П. Кабашнікаў.-Мн., 1960.- 160 с.

8. Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь: Гродзен. вобл.: Нармат. давед. / І.А. Гапоненка, В.П. Лемцюгова, Л.Л. Янушкевіч і інш.; Пад рэд.В.П. Лемцюговай.-Мн.:Тэхналогія, 2004. -471 с.

9. Святы і абрады беларусаў. [Электронный ресурс] Режим доступа: http://www.jivebelarus.net/our-heritage/belarusian-holiday-and-ceremony.html?page=3. - Дата доступа: 25.02.2017.

10. Смоліч, А. Географія Беларусі. - 4-е выданне/ А.Смоліч. - Мн.: Беларусь, 1993. - 382с.: іл.

11. Шпилевский, П.М. Путешествие по Полесью и белорусскому краю / П.М. Шпилевский. - Мн.: Полымя, 1992. - 251 с.: ил.

12. Slownik geograficzny Krolestwa Polskiego i innych krajow slowianskich.[Электронный ресурс] Режим доступа: http://www. http://dir.icm.edu.pl/Slownik_geograficzny/Tom_XV_cz.1/150. Дата доступу: 10.01.2018.

**ДАДАТКІ**

***Дадатак 1.***



***Мал.1. Карта 1865 года***




***Мал.2. Карта 1915 года***




***Мал.3. Карта 1929 года***




***Мал.4. Карта пасля 1975 года***




***Мал.5. Сучасная карта***

***Дадатак 2.***

**Слоўнік назваў мясцін ля Гасцілаўцаў і іх геаграфічныя каардынаты:**

**Валодзікаў кут** - куточак сярод лесу Старыя могілкі, на захад ад Загаркавых за 1 кіламетр. Каардынаты: 53.734386, 24.954295.

**Вольга Рыжая** - куточак сярод лесу Старыя могілкі. Каардынаты: 53.735710, 24.959874.

**Дубенка** - фальварак паміж вёскамі Шпількі і Кіралі (за 2 кіламетры ад Гасцілаўцаў). Каардынаты: 53.710970, 24.961848.

**Загаркавых** - куточак сярод лесу Старыя могілкі, на захад за Вольгай Рыжай за 500 метраў. Каардынаты 53.734488, 24.960647.

**Маскоўскія горы** - пагоркі сярод лесу за 3 кіламетры ад вёскі Гасцілаўцы на захад. Каардынаты: 53.738966, 24.936271.

**Старыя могілкі** - месца на захад ад вёскі Гасцілаўцы сярод лесу. Каардынаты: 53.734692, 24.947772.

**Ханькавых** - куточак сярод лесу Старыя могілкі, на поўдзень ад Загаркавых за 1 кіламетар. Каардынаты: 53.733674, 24.961419.

*Аўтар: **Банцэвіч Вераніка**,*
*навучэнка 7 "В" класа,*
*Кіраўнік: Банцэвіч Н.Г.,*
*настаўнік гісторыі і грамадазнаўства*
*вышэйшай катэгорыі.*
*Дзяржаўная ўстанова адукацыі*
*"Гімназія №10 г. Гародні" .*

*Алесь Хітрун*

# Жыў на Лідчыне народны музыка

Дзякуючы беларускаму краязнаўцу, даследчыку беларускай культуры Адаму Мальдзісу мы ведаем пра беларускую паэтку Адэлю з Устроні, якая пражывала менавіта на нашай Лідчыне. Гэтае імя цяпер неаднаразова згадваюць літаратуразнаўцы ў вучэбнай праграме па беларускай літаратуры. А дзякуючы намаганням лідскага даследчыка гістарычнага мінулага Валерыя Сліўкіна нам вядома пра Веру Навіцкую - дырэктара прыватнай жаночай гімназіі г. Ліды, дзіцячую пісьменніцу. Былы лідскі журналіст Аляксандр Жалкоўскі раскрыў для лідзян польскага фалькларыста Земавіта Фядэцкага. Спіс можна працягваць.






***Кніга ўраджэнца Ліды Юзафа Кардаша "Lida prawdziwa" ("Ліда праўдзівая"), 1997 года, з дарчым надпісам для Яніны Сняжко***

І вось аднойчы рэдактар "Лідскага летапісца" Станіслаў Суднік на паседжанні літаратурнага аб'яднання "Суквецце" згадаў, што на Лідчыне мала вядомая яшчэ адна творчая асоба - Міхал (Міхаіл) Белавокі. І зазначыў, што пра яго, на жаль, звестак амаль няма, толькі невялікая інфармацыя падаецца ў польскамоўнай кнізе ўраджэнца Ліды Юзафа Кардаша "Lida prawdiwa". (Калі рыхтаваў матэрыял да друку, стала вядома, што 13 кастрычніка 2015 года, на 91-м годзе жыцця, Ю. Кардаш памёр, а пахаваны ў Польшчы, у горадзе Флёрчакі.) Не затаю: гэтае выданне якраз было ў мяне на руках, перададзенае для карыстання добра знаёмай мне жанчынай з аграгарадка Крупава Янінай Пятроўнай Сняжко. Яна, між іншым, мела нядрэнныя стасункі з аўтарам гэтай кнігі і ў свой час нават вяла з ім перапіску, дасылаючы лісты ў польскі горад Ольштын.

На гэты раз прыйшлося зноў патурбаваць сталую жанчыну. І тут яна мне прызнаецца:

- Міхал Белавокі - гэта мой айчым, другі бацька!

Для мяне гэта было сапраўднае адкрыццё.

Пра роднага бацьку Яніны Сняжко, Пятра Кажэніка, аўтар гэтых радкоў пісаў у матэрыяле "Дапамажыце знайсці магілу майго бацькі…" у № 50 (12458) "Лідскай газеты" за 6 траўня 2014 года. А цяпер, як бачым, лёс паклікаў па звесткі пра… яе айчыма.

- Мой айчым, якога мы, дзеці, ласкава называлі дзядунькам, а ў вёсцы - Міхал, нарадзіўся ў 1916 годзе ў вёсцы Вялікае Сяло Гервянікскага сельсавета Лідскага раёна, - апавядае мне Яніна Пятроўна Сняжко. - Як мне вядома, бацькі яго былі звычайнымі сялянамі, небагатымі. У сям'і гадаваліся трое: брат Іван, сястра Марыя і ён, малодшы, Міхаіл. Набыць адукацыю і навучыцца грамаце ў Міхаіла не атрымалася, бо бацькі не мелі сродкаў на навучанне. Ды пры гэтым і сам Міхаіл замарудзіў з маўленнем: вельмі позна пачаў гаварыць, нават аднагодкі яго празывалі "германам", што азначала "немец". Але неўзабаве аб гэтым недахопе пачалі забываць, бо Міхаіл змяніўся на вачах у вяс-



***Белавокі Міхал і яго жонка Кажэнік Марыя - маці Сняжко Я. П.***



***У цэнтры - Белавокі Міхал і яго жонка Кажэнік Марыя***

коўцаў. Падчас пасьбы кароў хлопец зацікавіўся народнай музыкай, нават змайстраваў дудачку і падбіраў на ёй пэўнае гучанне. І што цікава, напяваў песні, якія потым праігрываў на самаробным музычным інструменце.

Як адзначыла суразмоўца, у дзяцінстве Міхаіл, музыка-самародак, меў падабенства з Сымонам-музыкам, а вось яго спеў быў настолькі прыгожы і чысты, што цяпер можна было б параўнаць з выкананнем сучаснага расійскага артыста Піліпа Кіркорава. Ужо потым Міхал асвоіў больш прафесійны інструмент - кларнет. Пачаў складаць песні, вершы. Звесткі пра народнага музыку пачалі распаўсюджвацца па ваколіцах. Яго творы паступова набывалі фальклорную жывучасць, народ перадаваў іх з вуснаў у вусны.

- Напрыклад, па заканчэнні жніва астатнюю частку жыта трэба было жаць па крузе, - расказвае пра абрад суразмоўца. - У самым канцы жнеі пакідалі 15-20 каласкоў для мышкі. Для гэтага на зімоўку рабілі ёй "гумно". Пры гэтым трэба было чысценька апалоць жыта, якое пакінулі. У гэтым рытуале дазвалялася ўдзельнічаць і дзецям. Жыта вакол абкладвалі невялікімі камянямі. А тыя каласкі, якія былі спецыяльна пакінутыя, бралі ў руку і роўна круцілі аж да зямлі



***Злева направа: сябар сям'і Яўген, дачка Яніна Сняжко, айчым Міхал Белавокі, маці Марыя Кажэнік (фота 1960 года)***





***Іграе на кларнеце Міхал Белавокі***

так, каб яны не раскруціліся. Калі "гумно" было зроблена, гаспадыня гаварыла: "Мышка, мышка! Табе на полі, а нам - у гумне!"

Пасля рабілі "гаспадара": бралі сноп жыта, ачышчалі яго ад травы і ўпрыгожвалі кветкамі. "Гаспадар" атрымліваўся вельмі прыгожы, у адных кветках. Пры гэтым дзяўчаты і маладыя кабеты вілі для сябе вянок з каласкоў жыта. Калі справа завяршалася, дзве першыя жняі бралі "гаспадара" ў рукі і, спяваючы, ішлі ў дом гаспадара, у якога была выканана праца. Песні прысвячаліся дажынкам. "Гаспадара" жанчыны ставілі ў покуце хаты, а сапраўднага віншавалі і спявалі яму



*Міхал Белавокі (сядзіць злева) - сват на вяселлі*

песні. Пасля чаго ён запрашаў жней на вячэру. Так адбывалася ў кожнай хаце той мясцовасці, дзе пражывала сям'я Кажэнік. Між іншым, песні, якія выконваліся жнеямі, былі складзены іхнім аднавяскоўцам Міхалам Белавокім.

- А якія ў той час былі вяселлі! Якая музыка была! - урачыста прамаўляе Яніна Сняжко і дзеліцца ўспамінамі: - У нашай вёсцы была каманда музыкаў, якіх запрашалі на вяселлі. Як ведаю, на акардэоне іграў Кашко Юльян, на бубне адбіваў мелодыю Марцінкевіч Віктар, а на кларнеце - мой айчым, Белавокі Міхал. Іхняе гранне распаўсюджвалася на ўсю ваколіцу, нават лямпы газавыя тухлі ад гэтага выдатнага выканання! Мой дзядунька быў здольным вядоўцам на вяселлях, цяпер такіх называюць тамадамі. Акрамя чыстага голасу ў яго яшчэ была здольнасць экспромтам скласці верш, звычайна жартоўнага характару.

Былі такія выпадкі, калі музыкі стамляліся на вяселлі, і Белавокі, каб захаваць святочны настрой у людзей, станавіўся на табурэтку пасярод хаты і чытаў газету. Але як ён чытаў, тым больш ніводнага класа не скончыўшы?! Ён тую газету трымаў дагары нагамі і быццам "чытаў" яе перад публікай. А на самой справе ён на хаду прыдумваў тэкст пра таго ці іншага прысутнага чалавека, папярэдне кінуўшы на яго зрок. А на заканчэнні "зачытанага" пытаўся ў гасцей: "Ці праўда?" - і тут жа перакульваў газету першай старонкай да прысутных. Яму ў адказ тады ўсе гучна гукалі: "Праўда!" Справа ў тым, што тая газета называлася "Праўда", назву яе і чыталі вясельнікі. Акрамя гэтага, ён прыдумваў і іншыя жарты, ад якіх смеху не было канца.

- У нашай хаце звычайна прыпыняліся вясковыя музыкі, абмяркоўвалі некаторыя пытанні, - прызнаецца суразмоўца. - Мама на той час ужо 13 гадоў была ўдавой (з 1939 па 1953 год), з тае пары як наш бацька выехаў на фронт і не вярнуўся. Але на яе руках заставаліся мы: я і мая сястра. І аднойчы, падчас такой "збюркі", Міхал Белавокі пазнаёміўся з мамай. Яму было на той час 36 гадоў. Як толькі я з сястрой паступілі ў Лідскае педвучылішча, то адразу яны згулялі вяселле, нягледзячы на тое, што мама была на два гады старэйшая за яго. Паходзіў ён з беднай сям'і, як у той час казалі, малазямельнай. А ў маці, Марыі Кажэнік, зямлі хапала (мой бацька Пётр меў сад на 120 дрэў, але палова яго ў 1940 годзе вымерзла). Паколькі Міхал быў халасцяк і сваіх дзяцей не меў, то мы для яго лічыліся роднымі. Нас ён вельмі добра даглядаў, адным словам, не крыўдзіў, заўсёды дастаўляў нам у інтэрнат (што па вул. Кірава - насупраць СШ №1) малако, сыр, масла. А мы за гэта яму куплялі хлеб і перадавалі дахаты, бо ў вёсцы было праблематычна яго набыць.

У памяці Яніны Пятроўны захаваўся ўспамін, калі яна ў 1961 годзе, паехаўшы ў Гародню на курсы павышэння кваліфікацыі, купіла для айчыма новенькі кларнет. Радасці ад такой нечаканай пакупкі ў музыкі не было межаў, паколькі стары музычны інструмент прыходзіў у нягоднасць. Сваім чароўным іграннем ён прыцягваў у іхнюю хату нават мясцовых кіраўнікоў, бо паважалі Белавокага за культурнасць і гасціннасць. Памятае суразмоўца, што ў гасцях былі рэдактар газеты "Уперад" Арон Лейбавіч Гарэлік, старшыня гудскага калгаса "Радзіма" Валянцін Аляксеевіч Дзямідаў і іншыя кіраўнікі.

Жыццё Міхаіла Іванавіча Белавокага спынілася на 70-м годзе. Магіла народнага музыкі размяшчаецца на Жырмунскіх могілках.

- Але ж аб ім помняць людзі, - кажа Яніна Сняжко, - бо некаторыя вершы засталіся ў народзе. Нават дзякуючы Юзафу Кардашу, які занатаваў у сваёй кнізе ўспаміны, любы ахвотны можа знайсці сярод іх і верш майго айчыма, які нібыта і сёння звяртаецца да народа і прываблівае чытача сваёй загадкавасцю:



***Ля магілы айчыма ў Жырмунах пасля пахавання маці (фота 1994 года)***

**Вершы Міхала Белавокага з кнігі "Lida prawdiwa"**

Яшчэ не бачыў свет шырокі,
што вам скажа Белавокі.
І пра вас, і пра нас, і пра гудаўскі калгас.

На пясках ляжаць Сарокі*, кругом вёскі - ядлаўцы.
Жыве ў вёсцы Белавокі, у ядлаўцах жывуць зайцы.
Дым курыць у мяне з хаты, бо вару я самагонку,
Па закону - не жанаты.
Маньку - удаву дзяржу за жонку.
Манькі дзеці забаўляю. Маньцы жыта малачу.
Сеяць збожжа памагаю.
З Манькай жыву, як хачу (…)

Заўжды ў дзень галасавання
граў людзям я на кларнеце.
Людзі слухалі, глядзелі, як танцуюць вучні-дзеці.
Строік у маім кларнеце зусім зграўся пад зубамі.
Украў другі я школьным дзецям,
ну аж мне сорамна часамі.
Смяяўся ў душы сам дырэктар,
што на кражу я пайшоў.
Мой кларнет быў велькі, B-эйны,
строік з Es-нага не ішоў.

** Сарокі - вёска ў Лідскім раёне, якая размяшчаецца паміж Вялікім Сялом і Гудамі.*

* * *

Быў суседам Бронюсь Кеса,
што з удавой ён ажаніўся,
Была ў яе дачка Тарэса,
Бронюсь дзяцей не дарабіўся.
Бронюсь лоўкім быў, не скажаш,
чытаць, пісаць, ані чуць-чуць,
Але як папаў у горад, начальніка ўмеў абмануць.
Вэрця ўдава была ў вёсцы, па нябожчыку Кудошу.
Малыя ў яе былі хлопцы,
таму патрэбныя былі грошы.
Вэрця была ну так прыгожа,
прама аж не наглядзецца,
Садзіў ёй Бронюсь усе грошы,
але і сам меў у што адзецца.
Рабіў ёй Бронюсь гаспадарку: касіў, араў, баранаваў.
Пасля работы выпіў чарку. Не адну ноч з ёй праспаў.

Пададзеныя вершы змяшчаюцца поўнасцю (у "Лідскай газеце" быў толькі ўрывак). Ніжэй таксама друкуюцца вершы Міхала Белавокага па ўспамінах-занатоўках Яніны Пятроўны Сняжко. Як у папярэдніх, так і ў ніжэй змешчаных яны падаюцца ў арыгіналах (з кнігі "Ліда праўдзіва" і па ўзгадванні Я.П. Сняжко) з русізмамі, на простай мясцовай мове, не захоўваючы правілы вершаскладання - рытму і рыфмы.

* * *

Каб была ты мой друг,
Ты пагрэла бы для мяне брух.
Я ніколі не хварэў бы
І пацеху з цябе меў бы.

* * *

Ну што за жыццё?
Адкажы ты мне.
Можа трэба ўжо жаніцца
І на векі з табой, Маня, парадніцца.

* * *

Я іду табе насустрач
Росымі лугамі.
Радасць падае на плечы
Пры нашай сустрэчы.

* * *

Я іду табе насустрач
Па траве зеляняшчай.
Падару табе я вечар
Самы настаяшчы.

* * *

Каб зоркі ў небе свяціліся
І вочы нашы іскрыліся,
Каб мы з табою думалі,
А думкі нашы збыліся.

* * *

Я іду табе насустрач
Па лясной сцяжынцы,
Каб скарэй спаткацца
Нам мілая з табою.

* * *

Пры нашай сустрэчы
Будзем цалавацца
І радавацца жыццю так,
Як малыя дзеці.

* * *

А ты, хлопча, не журыся,
Хоць з удавою ажаніся.
Хоць доўга любіць яна спаць,
Твае дзеці шчыра будзе гадаваць.

Калгасы, між іншым, весяліліся такімі "прыпеўкамі":

* * *

А корова громко плачет, слёзы капают на нос.
Отрубите хвост по ж...у, не пойду я в ваш колхоз.

* * *

Прыйдзі, Сталін, падзівіся, як калхозы разжыліся.
Хата - ракам, пуня - бокам і кабыла з адным вокам.

А мне застаецца задаць пытанне чытачам: можа, і ў вашых вёсках жылі ці, яшчэ лепш, жывуць такія народныя самародкі?

У матэрыяле выкарыстаны фотаздымкі з сямейнага альбома Яніны Пятроўны Сняжко.

*(Першы варыянт артыкула быў змешчана ў "Лідскай газеце" у № 17 (12674) за 2 сакавіка 2016 года.)*

Янка Жамойцін

# З перажытага

*(Працяг. Пачатак у пяпярэдніх нумарах.)*

**На новым этапе**

Перад святам кіраўніцтва бюро запрасіла ўсіх жыхароў барака на ўрачысты абед у першы дзень Каляд, арганізаваны элітай Пшэворска. Мерапрыемства фінансавала найбагацейшая купчыха мястэчка пані Рольска, але арганізацыйны бок належаў да грамадскіх дзеячаў мясцовай інтэлігенцыі. У меру прадаўжэння спажывання, у тым ліку і трункаў, множыліся прапановы і тосты, між іншымі кіраваныя ў адрас моладзі, якая мусіць пераносіць наступствы вайны і г.д. Паколькі мае сябры-вугальшчыкі, занятыя спажываннем божых дароў, не здраджвалі зацікаўлення тымі выступленнямі, я чамусьці пачуўся забавязаны выступіць ад імя моладзі і падзякаваць за праяўленую турботу за маладых і за запрашэнне на святочны абед. Эмацыянальны настрой, дамінуючы на спатканні, падсвядома ўздзейнічаў і на мае думкі, якія вызваліліся ў змесце майго выступлення ды мімаволі разбудзілі рэфлексіі аб ахвярах, ускладзеных моладдзю на алтар вайны ў кожнай ваюючай краіне, аб наступствах вайны, якія прыходзіцца людзям пераносіць і г.д. На заканчэнне прыйшла ў галаву цытата з Адама Асныка:

Trzeba z zywymi naprzod isc,
po zycie siegac nowe,
a nie w uwiedlych laurow lisc
z uporem chowac glowa.

(Трэба з жывымі наперад ісці,
За лёс змагацца, за новы,
А не ў павялым лаўровым лісці
Ўпарта хаваць галовы.

*Перакл. С. Судніка.)*

У часе маёй прамовы заўважылася выразнае зацікаўленне прысутных ды хваляванне жанчын, што пасля спаўнення тосту акружылі мяне, засыпаючы рознымі, у тым ліку і клапатлівымі для мяне, пытаннямі. Пані Рольска запрасіла мяне на абед дамоў. На наступны дзень прыехала па мяне, зарганізавала дома спатканне між іншым з намеснікам дырэктара цукровага завода і абавязала яго даць мне занятак у часе цукровай кампаніі. Дырэктар, вядома, споўніў просьбу купчыхі. Тым часам вызвалілася месца працы ў бюро ПУР, і я быў назначаны рэферэнтам транспартнага аддзела. Абавязкам маім было арганізаваць транспарт сем'ям з дабыткам, накіраваным у заходнія рэгіёны і праводзіць інспекцыю кожнага транспарту з перасяленцамі з СССР у цягніках, якія затрымоўваліся пры таварнай рампе перад нашым баракам. Паколькі праца вымагала кругласутачнай прысутнасці, я атрымаў асобны пакоік у бараку, а тым самым і адносную бытавую незалежнасць.

Эшалоны з перасяленцамі надыходзілі безупынна: 3-4 у суткі. Сяляне падарожнічалі ў вагонах са сваёю жывёлаю і гаспадарчымі прыладамі. Гараджане дзеля забеспячэння больш вартасных прадметаў, згодна з інструкцыяй, давяралі іх кіраўніку транспарту, які падарожнічаў у адмысловым вагоне. У эшалонах рэпатрыянты карысталіся рознымі мовамі: польскаю - пераважна дыялектамі з тэрыторыі заходняй Украіны, украінскаю, яўрэйскаю, рускаю, а калінікалі і мовамі каўказскіх народаў. Кіраўнікі эшалонаў былі пераважна п'яныя, не ўспявалі працверазіцца ад "афармлення" справы з савецкімі пагранічнікамі, ад якіх залежаў кантроль дакументаў, маёмасці і час затрымкі цягніка на граніцы.

Варты ўспаміну адзін інцыдэнт перасяленкі з кіраўніком эшалона, якому яна даверыла торбу з маёмасцю. Жанчына, устрывожаная водгукамі п'янства ў вагоне начальства, раніцай, падчас стаянкі цягніка на станцыі, прыбегла праверыць свой багаж. Калі аказалася, што ў торбе не хапіла бохана хлеба, нарабіла лямanту, што яе абакралі з залатнікоў, засакрэчаных у хлебе дамашняга выпеку. Пан кіраўнік, што не паспеў яшчэ ачуняць ад бяседы з афіцэрамі пагранічнікамі, не быў у стане выясніць справы. На шчасце паўбохана хлеба засталося на стале, які выглядам прыпамінаў асаблівае "поле бою". У шклянцы з недапітай самагонкай, на дне, ляжаў залаты чырвонец. Ліхаманкавыя пошукі скончыліся знаходкай пад сталом, на падлозе вагона, яшчэ некалькіх залатых дзесяцірублёвых манет, якіх субяседнікі "выключылі", праўдападобна, з закусачнага меню.

Дзякуючы помачы УНРРА бытавыя ўмовы ў бараку ПУР палепшаліся з дня на дзень. Жыхары яго атрымалі на час прабывання пасцель, палявыя ложкі, неабходную вопратку. Прадукты харчавання дастаўляліся рэгулярна. Жыццё навакольных людзей было аднак насычана непакоем, выкліканым украінскім і варожым яму польскім падполлем, падтрымоўваным мясцовым насельніцтвам. У гутарках акалічных жыхароў УПА і наогул украінцы паказваліся як смяротныя ворагі, мэтай якіх было вынішчэнне спакойнага польскага насельніцтва і ўсяго, што польскае. Створаны такім чынам стэрэатып украінцаў выклікаў нянавісць да іх, узмацняную затоеным пачуццём страху. Ніхто з гаворачых пра гэта не ўспамінаў пра супрацоўніцтва ўкраінскаму варожаму руху. Адзін толькі спамянуты Пятроўскі ў сваёй прастаце выхваляўся сваімі расправамі над украінскімі сем'ямі на Валыні па загадзе падпольнага кіраўніцтва, дадзеным яму і яго сябрам. Жыццё маладога чалавека без даку-

ментаў ды яшчэ, можа, вядомага з прозвішча органам бяспекі як уцекача з іх рук, нельга было ў тых умовах лічыць спакойным. Тым больш цяжка было шукаць магчымасці наладзіць кантакт з кім-колечы спагадлівым ды прадаўжаць вучобу. Вясною 1946 года ў часе службовай камандзіроўкі ў Уроцлаў здарылася мне прысутнічаць на літургіі ў праваслаўнай царкве, дзе нечакана сустрэўся з Міколам Рулінскім - спамянутым раней былым звязовым СБМ у Наваградку, а пасля афіцэрам БКА (Беларускай краёвай абароны). Лёс прывёў яго з некалькімі іншымі сябрамі ў Вроцлаў, дзе ўдалося ім паступіць у Вышэйшую гандлёвую школу і атрымаць працу ў пажарнай камандзе. Кемлівасць і зычлівасць сябра абнадзеілі мяне, і мы пастанавілі ўтрымоўваць сувязь. У ліпені таго ж года Мікола з’явіўся нечпадзявана ў мяне ў Пшэворску, змушаны шукаць прыпынку. Цэлую яго кампанію здэканспіравала дзяржбяспека, але хлопцам удалося нейк разбегчыся. Такім чынам у наш барак ПУР прыбыў яшчэ адзін "рэпатрыянт" на 3 ці 4 месяцы. Апынуліся мы тады абодва ў даволі клапатлівай сітуацыі, што не дазваляла разгуляцца па краіне. Дзякуючы пасведчанню Міколам факту атрымання мною атэстата сталасці, мяне прынялі ў Інстытут адміністрацыі ў Жэшаве - у трохгадовую вышэйшую прафесіянальную ўстанову, якая падрыхтоўвала кваліфікаваных працаўнікоў адміністрацыі альбо давала магчымасць прадоўжыць вучобу на чацвёртым курсе ва ўніверсітэце. (Дыплом гэтай установы ад 1949 года пасля 15-гадовага перапынку паслужыць асновай для паступлення на трэці курс юрыдычна-адміністрацыйнага інстытута Варшаўскага ўніверсітэта.)

Мікола тым часам аднавіў кантакт з земляком Мазурам (імя не памятаю), які быў дырэктарам дзяржаўнага сельскага гаспадарства ў рэгіёнах панямецкіх зямель на захадзе Польшчы, а я аформіў яму ў нашым аддзеле ПУР накіраванне туды на пасяленне.

Трывожным аказаўся 1947 год. На прадвесні распаўсюдзіліся чуткі аб узмацненні змагання ўнутраных войск з паўстанцамі УПА на Падкарпацці, якіх інакш не называлі, як толькі бандамі. Вясною рух войска, у тым ліку і кадравай арміі, узмацняўся што раз больш. У рэшце рэшт у нашым бараку ПУР і навакольных дамах пасяліліся ўстановы дзяржаўнай бяспекі і войска.

Паступіў загад падрыхтавацца да эвакуацыі перасяленцаў чыгуначным транспартам. І неўзабаве пачалі над'язджаць вайсковыя самаходы, загружаныя людзьмі і іх маёмасцю, якую ўдалося ім захапіць у часе паспешнай акцыі высялення. Усіх і ўсё выгружалі пад адкрытым небам на падмоклым поплаве вакол нашага барака і пры чыгуначнай рампе да часу падрыхтавання эшалона.

Лямант жанчын па адлучаных ад сем'яў мужыках, крык і плач дзяцей, малітвы і набожныя спевы старых, водгукі допытаў затрыманых ды арыштаваных маладых мужчын - усё разам выклікала жудаснае ўражанне і спачуванне рэпрэсаваным. Так пачалася, гістарычная ўжо сёння, акцыя "Вісла", мэтай якой было знішчэнне фарміраванняў УПА, у тым ліку і прымусовае перасяленне насельніцтва ўкраінскай нацыянальнасці і этнічных лэмкаў з польскага Падкарпацця ды Нізкага Бэскіду дзеля знішчэння базы ўтрымання паўстанцаў.

Нельга прамаўчаць факт, што навакольнае польскае насельніцтва, абсалютная большасць якога была крытычна настаўлена да існуючага прасавецкага ладу, а тым самым і да пануючай улады, апынулася на баку пакрыўджаных ды забыўшыся пра нядаўні гнеў, калі не сказаць - нянавісць.

Медыцынская і гаспадарчая служба нашага аддзела ПУР безупынна турбавалася аб санітарным, медыцынскім і харчовым абслугоўванні. Чыгуначнікі стараліся неадкладна збіраць вольны транспарт, скараціць як мага чаканне людзей у неспрыяльных умовах ды адпраўляць іх па прызначэнні ў Прусію ці на Шлёнск у ваколіцы Уроцлава. Арганізаванне транспарту па меры магчымасцей згодна з пажаданнямі перасяленцаў: каго з кім, куды і г.д., узгадненне з уладамі і чыгуначнікамі вымагала безупыннага напружання і вялікай ахвярнасці ў існых умовах. Да таго безупынна непакоілі нас сваімі вымаганнямі вайскоўцы, якіх нельга было адрозніць ад працаўнікоў бяспекі. Не абышлося і без сустрэчы з наваградчанінам - паручнікам Караткевічам - сваяком маёй сяброўкі з матуральнага курса Тані Караткевіч. Хлопец, які адрозніваўся ад рэшты саслужыўцаў сціпласцю і выразнай спагадлівасцю выгнанцам ды нашай прымусовай працы, калісь у кароткай гутарцы даў мне зразумець, што мы знаёмыя, але не павінны з гэтым здрадзіцца перад іншымі і кантактавацца з сабою.

**Наваселле**

У 1948 годзе скарыстаў я прапанову працы ў аддзеле павятовага самаўрада ў Пшэворску, які быў пад наглядам старасты. Абавязкам маім было апрацоўванне эканамічных планаў, якія я і сам тады лічыў асноваю гаспадарчага дзеяння і ставіўся да свайго задання сур'ёзна. У сувязі з гэтым прыйшлося наладзіць супрацоўніцтва з рознымі адміністрацыйнымі і гаспадарчымі ўстановамі ў павеце, пазнаёміцца з сельскаю гаспадаркаю і самім сялом, што расчаравала мяне сваім занядбаннем і прымітывізмам. Мой праект пяцігадовага плана быў ацэнены павятовымі ўладамі станоўча, і гэта схіліла старасту запрапанаваць мне кватэру ў адным з будынкаў у парку Замойскіх, куды я і пе-абраўся на пачатку снежня 1949 г. Год той, як мне здавалася, канчаўся для мяне вельмі памысна.

Атрыманне дыплома Інстытута адміністрацыі дазволіла мне запісацца на чацвёрты год вучобы ў Лодзінскім універсітэце і адчыніла магчымасць уладзіцца наогул у Лодзі. Мой гаспадарчы план быў добра ацэнены і прыняты ваяводскай уладай. Здаў я яго 22 снежня 1949 г. і вяртаўся дадому поўны аптымізму, тым больш, што не было ўжо ніякіх прызнакаў пагрозы зняволення мяне. Я быў ужо жанаты з дзяўчынаю з Югаславіі. Мы дачакаліся сыночка і спадзяваліся выехаць у Югаславію пасля заканчэння мною вышэйшай асветы. Цітаўскі камунізм, вызвалены з-пад

уплываў Сталіна меў іншае (ад савецкага) аблічча. Мы былі перакананы, што там, у сонечнай Югаславіі, станем поўнасцю вольнымі ад пагрозы бальшавіцкага тэрору. У сувязі з нашымі планамі далі мы сыну адпаведна славянскае імя Леслаў, што абазначала чалавека лепшай (добрапрыгожай) славы.

**Зноў няволя**

Нечакана аказалася, што мая гульня ў хованкі зусім не закончылася, і мне не суджана было вярнуцца дамоў - на нашу кватэру, ды наогул пабачыцца з жонкаю і дзіцём. Даходзячы да хаты цераз паркавую цемру, з-пад кустоў выскачылі два ціхенькія хлопчыкі і тыцкаючы мне пад бокі пісталетамі, упэўніліся ў маёй тоеснасці ды загадалі пайсці з імі моўчкі. Папярэдзілі яшчэ мяне, што ў выпадку спробы майго адрачэння ад супольнага з імі падарожжа, маюць загад страляць без папярэджання. У павятовай управе бяспекі праседзеў я цэлую ноч у таварыстве адмысловай асабістай варты. Першыя спробы допытаў пачаліся ў ваяводскай "бяспецы" ў Жэшаве 23 снежня. З размовы з афіцэрам я зарыентаваўся, што ён абсалютна не ў курсе справы і на маё пытанне, ці яго гутарка са мною мае характар допыту, які знойдзе адлюстраванне ў пратаколе, замест адказу паклікаў вартаўніка і загадаў аддаць мяне пад ахову. Гэта мяне ўпэўніла ў меркаванні, што я затрыманы па загаду цэнтральных улад, да таго не абавязкова польскіх. У Міністэрстве публічнай бяспекі ў Варшаве пры вул. Кашыковай (на сутыкненні з Уяздоўскімі алеямі) апынуўся я каля поўдня 24 снежня, а "пасяленцы" падвальнай камеры таго ж шаноўнага міністэрства прывіталі мяне позним вечарам. Было іх васьмярых. Як толькі ляснуў замок зачыненых за мною дзвярэй, мужчыны выцягнулі дзесь з кутка імітацыю ёлачкі, упрыгожаную каляровымі абрэзкамі паперы і кінуліся вітаць прышэльца святочнымі каляднымі пажаданнямі. Пабачыўшы аднак маю поўную знямоганасць, так фізічную, як і псіхічную, пастанавілі адлажыць гутаркі на святочныя дні і задаволіліся папяросамі, прыдбанымі мною ў час падарожжа. Дзеля заспакаення маёй цікавасці толькі выясніў што падвал, у якім мы апынуліся, гэта засакрэчаны астрог, размешчаны пад цэлым будынкам Міністэрства дзяржаўнай бяспекі, прызначаны вязням, якімі зацікаўлена непасрэдна міністэрства або ўсходні саюзнік. Астрог жорстка адізаляваны ад вонкавага свету, без прагулак для вязняў і якіх-колечы кантактаў з людзьмі звонку. Паводле пануючага звычаю, навічок атрымоўваў месца найбліжэй дзвярэй або каля "кібля" (пасудзіны для спаражненняў). Мне прыйшоўся сеннік каля дзвярэй, дзякуючы прасторнай камеры. Сеннікі вязняў ляжалі на каменнай падлозе каля двух сцен, перпендыкулярна да іх.

Сцэнарый прывітання мяне вязнямі з іх калядным "дрэўцам", выгляд камеры і атмасфера пануючая ў ёй паказаліся мне звышрэальнымі з'явішчамі. На самай справе такія паводзіны людзей уражвалі, а пазбаўленне іх якога-колечы кантакту з вонкавым светам ці хаця б належных вязням прагулак, без доступу да інфармацыі звонку было своеасаблівым абмежаваннем іх свету камернымі сценамі. Ніхто нікога не дапытваўся прычын з’яўлення яго ў тым падвальным свеце. Гэтыя справы былі іншымі, зусім інтымнымі турботамі кожнага з іх. Па сутнасці, аднак, былі яны галоўнай прычынай тае камернае асаблівасці паставаў і паводзін сужыцеляў. Калі хто рашаўся падзяліцца з камернымі сябрамі тою сваёю інтымнасцю, якая прычынілася да зняволення, то толькі па ўласных меркаваннях. Фізічнае зняволенне чалавека - істоты грамадскай - не ідзе, як аказалася, упоруч з духовай ізаляцыяй. Наадварот, зняволенне ўзмагае пажаданне падзяліцца некаторымі думкамі, што ў сілах калі-нікалі перамагчы тую вымушаную інтымнасць вязня. Прага вызвалення ад тых думак змушае тады нешчаслівуца шукаць адрасата сваім сакрэтам, ці, як хто хоча - спавядальніка, ад якога спадзяецца спачування, парады, апраўдання ці магчымасці раскаяння, а ў крытычнай сітуацыі кіруецца надзеяй пераказу такім шляхам сваіх ідэалаў патомным.

Ведаюць пра гэта дасканала "архітэктары" зняволення, што рупяцца рассылаць па астрогах сваіх штатных "спавядальнікаў" (у вязніцкім жаргоне "саксотаў", у жаргоне польскіх вязняў - "капусяў"). Зарыентаваны ў гэтых справах дасканала і дасведчаныя вязні, і яны на такія гутаркі стараюцца накладаць "табу".

У камеры апынуўся я ў цікавай кампаніі - людзей асвечаных і дасведчаных жыццём. Тых, што памяць мая зберагла, гэта былі: галоўны сакратар партыі Stronnictwo Pracy (у тым часе ўжо развязанай), інжынер хімічнай фабрыкі з Мосціц, інжынер па прафесіі - былы вайсковы аташэ ў Балгарыі (сядзеў ужо два гады пад следствам і ані разу не быў дапытваны), былы капітан корпусу пагранічча, ляснічы з Бяшчадаў (праўдападобна ўкраінец па нацыянальнасці), доктар батанікі Фіялкоўскі (пазней вядомы фітатэрапеўт) і студэнт-падхарунжы ці мо паручнік Арміі Краёвай (АК) прозвішчам Каньчыкоўскі - вельмі сімпатычны хлопец, каларыгтная постаць. Асновай сужыцця ў камеры была традыцыйная для палітычных вязняў польскіх астрогаў салідарнасць. Вязні ў камеры складалі вельмі дружны калектыў, члены якога дзяліліся ўсім, што было магчымае да падзелу. Перад усім сябры неслі салідарную помач кожнаму так маральную, як і фізічную, напрыклад, хвораму ці патурбаванаму на допыце і т.п. Падзелу падлягалі і веды кожнага ў калектыве. У сувязі з тым кожны дзень адзін з сужыцеляў меў абавязак прадумаць тэму з абшару сваёй прафесіі ці зацікаўленняў, зрабіць даклад на гэтую тэму і правесці дыскусію. Найменшая праблема была з падзелам матэрыяльных прадметаў, бо, не маючы кантакту са светам, ніхто не меў іх у сваім уладанні, апрача папяроснага дыму, калі каму ўдалося вычараваць кувалак цыгарэты.

"Ідылію" сужыцця ў камеры крыху парушыў новы вязень Богдан Пясэцкі - чалавек у добра скроеным касцюме, сканцэнтраваны на сваім самалюбстве і пахвальбе, які ганарыўся сваімі кантактамі з Гамулкам і сваім самаходам, як кур'ёзам у тым цяжкім для людзей часе. Пан Пясэцкі зразу адвярнуў ад сябе сімпатыю

вязняў і заслужыў на "прывілею" апаражнення "кібля" і мыцця камеры.

У часе месячнага майго знаходжання ў падвалах міністэрства бяспекі я некалькі разоў быў трывожаны допытамі, якія мелі характар ідэнтыфікацыі мяне як вязня і пры нагодзе - фізічнага патурбавання. Увагі следчага, скіраваныя ў мой адрас, як напрыклад закід, што я дзейнічаў у надзеі прыезду Андэрса на белым коніку, сведчылі аб адсутнасці інфармацыі ў польскіх органах бяспекі на маю тэму. Абазначала гэта, што польскія ўлады дзейнічалі па загаду савецкіх таварышаў.

У часе аднаго з допытаў прывялі нечакана Міколу Рулінскага і паставілі вачыма да сцяны. Следчы загадаў не адзывацца. Мікола аднак адвярнуўся незаўважна ў мой бок і нязначна схіліўшы галовы мы прывіталіся лёгкай усмешкай. Неўзабаве сябра майго вывелі, а следчы, разгневаны паводзінамі сваіх "падапечных", упэўніўшыся ў нашым знаёмстве, загадаў мне прысядаць і падымацца аж да адмены загаду. Мне тая кара паказалася не так ужо і цяжкай. Выконваючы маю "гімнастыку" быў я пад уражаннем спаткання з прыяцелем. Мікола паказаўся ў дамашняй вопратцы, а на нагах меў абутак на драўляных падэшвах, ужываны, праўдападобна, дома пасля працы. Сведчыла гэта аб тым, што ён, так як і я, быў схоплены раптоўна і пазбаўлены магчымасці адпаведна адзецца.

У пэўным моманце маёй "спартыўнай практыкі" я не здолеў ужо падняцца. Мускулы і сухажылле ног перасталі дзейнічаць. Мой уладар праўдападобна чакаў на гэты момант, бо без слова прыклікаў жаўнераў, якія, узяўшы мяне пад рукі, зацягнулі пад сцяну і абапёршы плячыма на ёй паставілі на выпрастаных нагах. Пасля некалькіх хвілін, на загад выйсці, я дарма прабаваў адарвацца ад сцяны. Ногі не дзейнічалі, і жаўнеры зацягнулі мяне ў камеру. Апека сяброў, адпаведныя масажы, нягледзячы на вострыя боль, цераз некалькі дзён паставілі мяне на ногі, а тым самым і давялі да канца маё прабыванне ў тым астрозе.

**Пад апеку контрразведкі**

Раніцай студзеньскага дня 1950 г. пад канец месяца вывелі мяне з будынка міністэрства і перадалі пад апеку маёра ў польскай уніформе, які, паказваючы на вайсковы самаход, папулярны "Лазік", загадаў: "Полезай в машину!" У самаходзе сядзеў пад вартай хлопец у шынялі пажарніка, які назваў сябе пры спраўджанні тоеснасці Аксак Кавальскі і пра якога спамінаў Рулінскі, як пра аднаго з сяброў з Уроцлава. У часе падарожжа на варшаўскую Прагу маёр некалькі разоў незаўважным жэстам даваў знакі мужчынам у цывільнай вопратцы, якія стаялі на тратуары альбо праходжваліся. Фактаў гэтых нельга было адчытаць іначай, як забеспячэнне перад магчымымі ўцёкамі з умоўленага транспарту. Мэтай нашага падарожжа аказаўся будынак пры вуліцы Ягелонскай на варшаўскай Празе, што прылягаў да спартыўнай плошчы маёй гімназіі імя Уладыслава IV, у суседстве мітрапалітальнага праваслаўнага сабора. Уехаўшы ў браму дома, выгрузілі нас у падвал пад апеку савецкай вайсковай часткі, як пасля аказалася "СМЕРШ -у". На калідоры падвала спаткаў нас дзяцюк ва ўніформе савецкай арміі з аграмадным нажом, якім, не адазваўшыся ні слоўцам, стаў абразаць усе гузікі ад паліто, адзення, пасля чаго загадаў аддаць раменны пояс, шнуркі з абутку, гадзіннік і, спраўдзіўшы, ці няма якога ланцужка на шыі, абмацаўшы ад галавы да ног, упіхнуў у прылягаючы да калідорчыка катух - тыповы пограб без падлогі, з нарамі збітымі з няструганых дошак, але без сеннікаў. Тут таксама не адбывалася ніякае следства, апрача праверкі тоеснасці.

Больш-менш пасярэдзіне калідорчыка стаяла печка з чыгуну ці мо з жалезнай бочкі. Заданнем яе было нагрэць увесь падвал. Не спраўлялася дабрадзейка, хоць безупынна рассылала ўсё выпрацаванае цяпло. Аднойчы жаўнер з аховы выклікаў мяне на калідор, дзе стаяў крыжак, ці як хто хоча "казёл" для пілавання дроў. Побач ляжала некалькі сасновых і бярозавых паленаў ды папярочная піла. Да мяне прывялі высокага худога як жэрдка "акулярніка". Я зразу пазнаў міравога суддзю Віктара Ярмалковіча, які ў часе нямецкай акупацыі пачаткова працаваў у Лідзе, а пасля быў пераведзены ў Шчучын. Ведаў я яго толькі з выгляду і чуў шмат чаго добрага, як пра шчырага спрыяльнага людзям беларуса. Заданнем нашым было папілаваць тыя круглякі на дровы ў печку. Пад шорах пілы стараўся я незаўважальна пераказаць якіясь сігналы майму напарніку ў працы ды наладзіць сувязь, той аднак не рэагаваў. Праўдападобна, лічыўся з магчымасцю правакацыі, аб чым я тады не падумаў.

Пад канец студзеня 1950 года раніцай усіх вязняў вывелі з падвала на калідор і перагналі ў падрыхтаваны да падарожжа грузавы самаход з брызентавай пакрышкай. Было нас 10-15 асоб, у тым ліку адна жанчына - Жэня Шляхтун са Шчучына, добрая сяб-роўка маёй сястры Людкі з Віленскай беларускай гім-назіі, якую пазнаў я з неаднойчы агляданай фатаграфіі і з расказаў Людмілы. (Пасля 25 гадоў ад таго здарэння здарылася магчымасць сустрэцца са спадарствам Жэняй і Віктарам Ярмалковічамі ў Біскупцы, у Польшчы, і даведацца, што ў часе перажытай супольна прыгоды ў студзені 1950 года былі яны ўжо сужонствам.)

Пагрузіўшы вязняў даселася і варта. Нехта ўкінуў у кузава тры рыдлёўкі. Зняволеныя, быццам па загадзе, пераглянуліся, патрывожаныя ў думках пытаннем, для каго і з якой мэтай забралі гэтыя рыдлёўкі ды куды нас вязуць. Позірк на гімназію і на сабор, з якімі былі звязаны гады майго ранняга юнацтва, выклікаў глыбокія рэфлексіі і сумненне ў тым, што ў жыцці яшчэ прыйдзецца вярнуцца сюды.

Даехаўшы на таварны вакзал Прага-Поўнач, шафёр, пачакаўшы разгрузкі вугалю, падагнаў самаход задам да дзвярэй таго ж таварнага вагона так, што з кузава "пасажыры" павыскоквалі проста ў вагон.

Чвэрць вагона была адгароджана ўнутры кратамі, за якімі стаяла ўзброеная варта. Рэшта плошчы заставалася ў распараджэнні нашай грамадкі і парашы (што польскія вязні называлі "кіблем"). Па загадзе салдата ўсе вязні моўчкі радочкам уселіся пад сцяною і не вялі між сабою ніякай гутаркі. Без дазволу "апеку-

на" нельга было ўстаць ані перамяшчацца. Кожнага грызла пытанне, куды нас вязуць? Адказ пачуў я звонку пасля поўначы ад чыгуначнікаў, якія выконвалі манёўры цягніка на якойсь станцыі. Адзін з іх запытаў сябра: "Co ten ciubaryk chcial od ciebie?" ("ciubaryk" - пагардлівая мянушка савецкага ваякі ў Польшчы ў тым часе). "Do Lignicy wiezie! "Zywe" - tak stoi na karcie przewozowej. Pewno wywozi nasze swinie na zakaska swoim Iwanom. Przyszedl, zobaczyl wagon", - прагучэў адказ, што мне выясніў больш чаго, чым сябру чыгуначніка. З наступленнем сонечнай раніцы хтось з падарожнікаў угледзеў цераз шчыліну вагона крытыя чарапіцаю ахайныя домікі, тыповыя для нямецкага вясковага будаўніцтва. Гэтае назіранне пацвердзіла кірунак нашага падарожжа на захад. Легніца была дастаткова вядомая ў тым часе, як асноўная савецкая база ў Польшчы: вайсковая, контрразведачная, дзяржаўнай бяспекі і да т.п. Стала ясна, што для нас гэта будзе канцэнтрацыйны пункт да адпраўкі ў СССР. Гэта быў фактычны савецкі энклаў, з яго ўласнымі нормамі і стылем. Да дзвярэй нашага таварнага вагона на легніцкай станцыі быў падагнаны задам арыштанцкі самаход (папулярна называны "чорны варанок", у тым часе нікому з нашай групы яшчэ невядомы). Цераз адсунутыя дзверы вагона быў непасрэдна адзін-адзіны выхад у тую арыштанцкую "кібітку", дзе кожны зняволены меў свой вельмі цесны "бокс" - цёмны, хоць вока выкалі. Везлі нас па якіхсь калдобінах, здавалася страшэнна доўга, у невядомае. На месцы, пасля праверкі тоеснасці, як на здзек, я даведаўся ад чыноўніка ў цывільнай вопратцы, што буду "рэпатрыіраваны", а пакуль што прыйдзецца пачакаць у лагеры (побач Легніцы) на транспарт. Лагер быў даволі прасторны, рупліва пільнаваны вайсковаю аховаю. Кантакту з былымі спадарожнікамі чамусьці наладзіць не ўдалося.

Лагер з дня на дзень папаўняўся новымі зняволенымі. Бытавыя ўмовы ў ім былі ніштаватыя, і каб не ахова вакол, можна было б паверыць, што гэта зборны пункт для рэпатрыянтаў - "на Родину". У лагеры былі людзі рознага паходжання, прафесіі, нацыянальнасці, з розных краін, асабліва з Польшчы, Чэхаславакіі, Нямеччыны, Аўстрыі; інтэлігенты, рабочыя, сяляне, вайсковыя і т.д. Час прабывання ў лагеры быў таксама розны, у сярэднім тры тыдні да аднаго месяца. Былі аднак і такія, што прыжыліся тут і на паўгода, чакаючы быццам на якіясь выясненні, пра іншых адміністрацыя забылася ў сваім чыноўніцкім хаосе. Тыя бывальцы ведалі найбольш. Ведалі пра сакрэтнае забеспячэнне лагера перад уцёкамі, арыентаваліся, каго вывозяць індывідуальна да самалёта ды ў Маскву, каго на цягнік у Менск, ці групамі ў перасыльную турму ў Берасце.

**На "Родину"**

У канцы лютага 1950 года мне давялося папасці ў вагон такі, як і той, што прывёз нас пад вартай з Варшавы, з той розніцай, што быў ён запоўнены сядзячымі на падлозе вагона людзьмі. Між растапыранымі нагамі кожнага "рэпатрыянта" сядзеў наступны. Такі быў заведзены парадак дзеля ашчаднасці плошчы ў вагоне. Цягнік фармаваўся такім чынам каля дзвюх гадзін, але ніхто з прысутных не ведаў, колькі вагонаў налічваў яго састаў. Усе ў нашым вагоне былі чымусьці пераканаты, што едзем у берасцейскую турму. У сувязі з гэтым я пільна пачаў шукаць кавалачка хімічнага алоўка, і неўзабаве хтось мне падсунуў тайком такі "агрызак". Паперкі ад папяросных муштукоў у мяне яшчэ не звяліся, апрача таго меў я насавую хустачку і кавалачак хлеба. Рэквізіты гэтыя паслужылі мне да сарганізавання карэспандэнцыйнай перадачы. На кавалачку паперы напісаў я кароткую інфармацыю аб сваім зняволенні ды аб адпараўцы праўдападобна ў берасцейскую ці магчыма ў менскую вязніцу. На намочанай хустачцы-насоўцы напісаў я адрас маёй сястры Людкі, якая жыла ў Любліне і кароткі зварот з просьбаю выслаць гэту інфармацыю па дадзеным адрасе. Заданнем завернутага ў хустку кавалачка хлеба было зберагчы пасылку ад падрыву ветрам у часе руху цягніка. Характэрны грукат колаў на якойсь станцыі ў паўднёва-ўсходнім раёне Польшчы сведчыў аб тым, што ўязджаем на якісь чыгуначны вузел і там удалося мне выпіхнуць той вузялок цераз шчыліну ў падлозе, адмыслова пашыраную вязнямі ў часе падарожжа. Я спадзяваўся, што зняволенне мяне прычыніць маім бацькам і сям'і нямала клопату, што іх будуць непакоіць, аб чым неабходна было іх паведаміць, каб даць ім магчымасць падрыхтавацца. Вузялок той знайшоў якісь чыгуначнік, выслаў яго на адрас сястры і такім чынам намераны мною план споўніўся.

Берасцейскі астрог, пабудаваны палякамі ў апошнія гады другой Рэчы Паспалітай, зрабіў уражанне суча-снага манументальнага аб'екта адасаблення. У даволі прасторнай камеры аказаўся я шостым пасяленцам. Усе пяць ранейшых сужыцеляў быццам бы не звярнулі нават увагі на навічка, які паздароваўся з імі называючы сваё прозвішча. Усе яны аказаліся маўклівымі аўтэнтычнымі палешукамі. Адзін з іх толькі, настаўнік, быў пісьменны, усе чатырох апошніх не забаўляліся ў грамацеяў. Найактыўнейшы з іх, былы савецкі партызан Мікола, так пакахаў партызаншчыну, што партызаніў без перапынку пасля ўстанаўлення савецкага ладу. Патрактаваў сваю партызаншчыну, як спосаб на "лёгкае" жыццё і зберажэнне сябе ад мабілізацыі ў савецкую армію ды высылкі на праўдзівую вайну. Усе іншыя пасяленцы камеры былі зняволены за ўяўныя кантакты з постсавецкімі партызанамі на Палессі, называнымі папулярна "бульбаўцамі". На самай справе ніхто з іх толкам не ведаў, хто яны - тыя партызаны. Напрыклад, самага старэйшага дзядзьку, які не расставаўся днём ні ноччу са сваім саматканым суконным бурносам, абвінавачвалі ў тым, што быццам бы партызаны зрабавалі з яго хлява авечак, а ён не паінфармаваў аб гэтым міліцыю. Іншы адведаў суседа, каб пазычыць бязмен і не заявіў, што ў таго суседа былі чужыя незнаёмыя мужчыны, што быццам бы аказаліся партызанамі. Усіх іх абвінавацілі "в измене Родине", і хлопцы былі ўжо пераканаты, што ў найлепшым выпадку, калі адназначна не дакажуць ім віны, то "особое совещание" ці інакай "тройка" ўлепіць ім завочна па

10 гадоў зняволення ў "исправительно-трудовых лагерях". Калі следчы пастараецца спрытна правесці "доследы" і напісаць пратаколы, якія яны падпісваюць, то суд немінуча пашле іх на 25 гадоў у "ітээл" (скарочанае вымаўленне назвы лагераў). Мяне ўважалі кандыдатам на "катушку" (г.зн. 25 гадоў зняволення плюс 5 гадоў пазбаўлення грамадзянскіх правоў), кіруючыся фактам, што шукалі і знайшлі мяне за граніцай, а гэта лічылі кур'ёзам.

Хлопцы сядзелі ўжо пару месяцаў і былі вельмі мізэрныя, згаладалыя. Цяжка сёння спамятаць, якое яно было тое харчаванне, але голад фактычна дапякаў безупынна. Памятаю толькі, што на вячэру кожны дзень дзялілі па адным апалоніку змолатай бульбы разбаўленай вадою да кансістэнцыі супу, што толькі ўзмацняла пачуццё голаду. Бяздзейнасць і галадоўка разбуджалі ў людзей фрустрацыю, і яны безупынна спрачаліся між сабою няведама, за што. Адзінай "атракцыяй" была прагулка звонку турмы ў прагулачных боксах між сценамі без даху. Каб развеяць нуду і прыглушыць пачуццё голаду, хлопцы ахвотна згадзіліся вывучваць песні, мае СБМ-аўскія і народныя: "Касіў Ясь канюшыну", "Ой ляцелі гусі" і іншыя. Мае кампанейцы аказаліся вельмі музыкальнымі і ахвотнымі да спеву. Нечаканасцю паказалася тое, што наогул не здраджваючыя вонкава ніякіх перажыванняў дзяцюкі, усе да аднаго, узрушыліся амаль да слёз песняй, якую ўпершыню пачулі: "Расцвіталі ў полі васілёчкі". Яна разбудзіла дрэмлючую ў іх падсвядомасці тугу па сельскім жыцці, повязі з натураю. Яны звычайна атаясамліваліся з персанажамі той песні - сялянскіх дзяўчыны і хлопца. Цераз нейкі час да нашай песні прылучаліся жанчыны з іншых прагулачных клетак, якім неабыякавы быў змест ды простая народная мелодыя. Рэакцыя вартаўнікоў на вышках на гэта спяванне была вельмі розная. Сваю апрабату адзін хлапец з вышкі, напрыклад, выказаў у такі спосаб, што запаленую папяросу завярнуў у газеты і кінуў спевакам, быццам недакурак; іншыя абураліся і дарма загадвалі: "Молчать". Аднойчы заўзяты службіст перапыніў нат прагулку на знак пакарання за непадпарадкаванне яго загаду. Не абышлося і тут без хвалюючага спаткання. Аднойчы, выходзячы з камеры на прагулку, пачулася маё імя, выкліканае дзяўчынай на калідоры за кратаю, што аддзяляла жаночы корпус ад мужчынскага. Аглянуўшыся, пабачыў я быццам з'яву, сяброўку з навагрудскай семінарыі - Людку Гацко, як і калісь, стройную, з яе касой, звісаючай па бушлаце да самага пояса. Спатканне абмежавалася толькі абменам прывітанняў і разбудзіла мешаныя пачуцці. З аднаго боку як жа прыемна было пабачыць кагось блізкага, зычлівага, з другога - выклікала яно горкую рэфлексію, тым больш, што гэта была спакойная, сціплая дзяўчына, няздольная па сваёй натуры да якога-колечы ліхадзейства. У другой дэкадзе сакавіка (хіба ў першы дзень каляндарнай вясны - 21 сакавіка 1950 г.) на досвітку выклікалі мяне "с вещами", што абазначала вывазку (у турэмнай і лагернай наменклатуры - этап). На падвальным калідоры турмы ўжо стаяла невялікая калона выхудзелых вязняў - гэта "контрыкі" (контррэвалюцыянеры). Зусім іншае ўражанне выклікала іншая, уфармаваная побач, калона загарэлых, яшчэ здаровых дзяўчат. Гэта "бытавікі", толькі што арыштаваныя за якіясь дробязі ў калгасе, хутка асуджаныя і адпраўленыя ў ІТЛ. Пабачыўшы нашы постаці, быццам цені, дзяўчаты ўзрушыліся і, нягледзячы на варту, пачалі развязваць свае клункі, з якіх выкідалі ў нашым кірунку прызапашаныя на чорную гадзіну жытнія сухары, якімі абдзялілася салідарна цэлая наша галодная калона.

Неўзабаве з’явіўся канвой з сабакамі, які забраў нас ад тых спагадлівых зямлячак. У Менск везлі нас у сталыпінскім вагоне. Гэта прыдуманыя дрэннай славы Сталыпіным вагоны пасажырскага характару, дастасаваныя ўнутры да перавозу зняволеных. У дарозе ўжо пачуліся наступствы неразважна хуткага спажыцця сухароў некаторымі вязнямі. Скурчаныя ў выніку турэмнай галадоўкі страўнікі не ў сілах былі справіцца з разбухшымі пад уплывам страўнікавых сокаў сухарамі. Енкі нецярплівых заморкаў за сценкамі клетак вагона не ўціхалі. Чым гэта кончылася, мне невядома.

У Менску на вакзале чакала нас некалькіх чырвонапагоначнікаў з двума сабакамі. Людзі абыходзілі наш "карагод", бачна прыглядаючыся, пераважна з выразнымі прызнакамі спачуцця, іншыя - з нянавісцю ці зусім абыякава, але ніхто не затрымоўваўся. Такі быў, відаць, заведзены парадак. Толькі і ўдалося пабачыць Менск, што на вакзале. "Чорны воран" праглынуў нас у сваё цёмнае, цеснае, смярдзючае потам нутро, але ненадоўга. Неўзабаве чутно было адпіранне брамы перад затрыманым самаходам, пасля - другой і мы апынуліся на невялікім дзядзінцы каля круглай у сваім кшталце будоўлі.

**"Амерыканка"**

"Амерыканка" - гэта вядомая ўжо з апавяданняў следчая турма для "врагов народа", ці, як хто хоча, "изменников Родины", ці найбольш папулярна - "контриков". Тэрмін “палітычныя вязні” не ўжываўся. Унутры вязніца выклікала ўражанне панурай таямнічасці. Пустую ад нізу да самага даху плошчу акружалі, быццам калідоры, тэрасы на трох ці чатырох паверхах. З аднаго боку прылягалі яны да сцяны з дзвярыма да камер, з другога забяспечаны з самага нізу да верху ад пустога круга кратаю, каб каму не прыйшло ў галаву саскочыць з якога паверха. Лесвіца між паверхамі празрыстая між ступенькамі. Цэлае нутро будынка знізу ўверх даступнае назіранню з аднаго пункта нагляду. Кожны паверх пустога круга, быццам калодзеж, забяспечаны сеткай з металу. На кожным паверсе, па тым калідоры-тэрасе ў невялікіх прамежках бадзяліся наглядальнікі, якія чаргова заглядалі ў камеры цераз "ваўчкі" (інакш - юдавы вочы) у дзвярах, адхіліўшы перш вонкавыя накрыўкі тых "вачэй". У якімсь пункце турма спалучалася калідорам з будынкам управы МДБ, дзе вялося следства. З камер не даносіўся ніякі гул, так што ў турме панавала абсалютная, злавесная ў адчуцці новапрыбыўшага, цішыня.

Напачатак, без асаблівых фармальнасцей, заперлі мяне ў пустую камеру. Рабіла яна ўражанне труны, вузкай пры дзвярах і паступова расшыранай

да вонкавай сцяны круга той будоўлі. У самым версе вонкавай сцяны - вакенца з кратаю і бляшанай заслонкай звонку, так, што стаўшы ў адпаведным пункце можна было пабачыць кавалачак неба. Цераз суткі ці двое быў я пераведзены ў большую быццам крыху камеру, дзе знаходзілася 5 ці 6 мужчын. Усе яны, апрача аднаго, былі мясцовыя. Кіруючыся дасведчаннем, хлопцы папярэдзілі мяне, што на пачатку адбудзецца "куртуазная" гутарка з начальнікам турмы і прызначаным да справы следчым. Неўзабаве вывелі мяне ў той прылеглы да астрога дом, дзе ў даволі прасторным пакоі ўжо чакалі падпалкоўнік (прозвішча не памятаю) - начальнік турмы, маёр Вінакураў - мой будучы следчы і пракурор. Гутарка на самай справе пачалася ветліва. Начальнік паведаміў, што ўсё пра мяне ведае і мае дастатковыя падставы для арышту. Пасля трох месяцаў зняволення паказалася мне гэта недарэчным, але раша ў не каментаваць тую "ведамасць". Тады пракурор уручыў ордэр на арышт для пацверджання мною подпісам і адышоў. Гутарка мела шаблонны характар і праводзілася з мэтай асвядоміць мяне ў цяжкім праступленні, у справядлівасці савецкага правасуддзя, неабходнасці сумленных паводзін у следстве ды прызнанні віны, што можа аблягчыць маю сітуацыю. Я выслухаў усё таксама ветліва і папрасіў (у сваёй наіўнасці), каб следства вялося на беларускай мове з прычыны толькі павярхоўнай знаёмасці з рускай. Зарэагаваў на гэта Вінакураў словамі: "Ничего, поймёшь". Я вычуў іранічную пагрозу ў яго рэакцыі і зразумеў, што наіўна шчырая мая просьба была неўпапад, аб чым следчы стараўся пераканаць мяне ў даволі хуткім часе.

Тым часам, згодна з папярэджаннем сужыцеляў камеры, дзяўчына прынесла чай і пачак папяросаў, ад якой, згодна з наказам сяброў па нядолі, я не адмовіўся.

**Следства**

Цераз дзень пачалося следства, якое адбывалася амаль выключна ноччу. Пасля сігналу на начны "адбой" прыблізна цераз 20 хвілін, калі ўжо вязні (асабліва ўтомленыя трываючым следствам) паспелі заснуць, звонку даходзіў грукат наўмысна голасна адчыняных "кармушак" (акенцаў у камерных дзвярах, цераз якія падаецца вязням страва). Па меры набліжання таго водгаласу да камеры, нарастае непакой вязняў, якія падсвядома вырываюцца са сну, чакаючы свайго прызначэння. Урэшце адчыняецца "кармушка", у якой паказваецца галава "вяртухая" (жаргонная назва вартаўніка, які водзіць зняволеных), з вуснаў якога даносіцца шэпт, напрыклад: "На букву Ж". Тады кожны вязень забавязаны вышаптаць сваё прозвішча, калі яно пачынаецца на тую літару, апрача таго імя і імя па бацьку. Трапіўшы на вызначаную асобу "вяртухай" зноў шэпча, але ўжо тонам загаду: "Собирайся!" Выкліканы такім чынам падрываецца з логава, дрыжучы, як правіла кожны, ад хвалявання, апранаецца, падганяны тым жа злавесным шэптам і выходзіць цераз ухіленыя дзверы, выканаўшы наступны загад: "Руки назад". Калі па дарозе хто пакажацца наперадзе, наступае наступны загад: "Лицом к стене" і так трымае, пакуль той іншы не счэзне з поля зроку. Калі прыйдзецца павярнуць з калідора ў іншы калідор у будынку МДБ, праваднік дае акрэслены сігнал, каб не сустрэцца з іншым вязнем. Тым часам вязні, што засталіся ў камеры, стараюцца як мага хутчэй заснуць, але ці надоўга? Працэдура такога буджэння паўтараецца некалькі разоў штоночы.

У кабінеце следчага, непадалёк яго пісьмовага стала, стаіць табурэт для вязня, на якім як жа цяжка прасядзець цэлую ноч. Сустрэча з арыштаваным перад допытам праходзіць па-рознаму, залежна перад усім ад асабістага настрою ці фанабэрыяў афіцэра. Раз пачынае іранічнымі заўвагамі ці пытаннямі, напрыклад, як самаадчуванне, ці падабаюцца бытавыя ўмовы і іншыя. Найчасцей, аднак, прыдумоўвае якоесь сенсацыйнае заяўленне ці інфармацыю, якая можа занепакоіць падапечнага, напр.: "Ну, о тебе поступили весьма неблагоприятные известия" ці штось падобнае. Пачатак следства - гэта ў асноўным збіранне асабовых даных ад часу дзеда, бабы і г.д. Тэма гэта цягнецца, паўтараецца без ліку ў розных варыянтах - адну, другую ноч, да знемажэння. Дасведчаны следчы ведае, што да асноўнага следства трэба арыштаванага ўтаміць, выбіць з сілы, аслабіць дух супраціўлення волі праціўніка. Дзеля паскарэння гэтага працэсу пасля поўначы вязень адсылаецца ў камеру, а калі ён ужо засне, тады зноў адчыняецца "кармушка" і чуецца шэпт: "На букву Ж". Ты называеш сябе, выконваеш ужо нашмат больш усхваляваны з прасоння загад адзецца і трапляеш зноў на свой табурэт. Спатыкаешся зноў са сваім "праследаваццелем", альбо з кім іншым, які пратрымае цябе на тым табурэце да раніцы, каб ты паспеў толькі вярнуцца ў камеру і заснуць перад сігналам "Подъём", што падыме кожнага, хоць бы паўжывога; а як не, то тым горш адпакутуеш у карцары за "злоумышленное нарушение тюремного режима".

Самая прыкрая бытавая аперацыя наступае пасля "Подъёма" са сну. Апаражніўшы "парашу" з адходаў у прыбіральні, трэба як мага хутчэй прамыць твар і назад у прыбіральню на "апраўку" (спаўненне фізіялагічных патрэбаў) па загаду ва ўмовах неверагоднага забруджання з прычыны недахопу месца і недастатковага адплыву нечыстотаў. Незалежна ад балючага пачуцця прыніжэння чалавечай годнасці (пакуль не прывыкнеш) цяжка вытрымаць моташнасць ад агіды, у аблічча якой ты бяссільны і мусіш вытрымаць, калі не хочаш быць знішчаны фізічна за непадпарадкаванне. Ды які мог бы быць іншы выхад?

Днём кожная камера падлягала безупыннаму назіранню цераз той зненавіджаны вязнямі "ваўчок", што ў дзвярах камеры. Мэтай таго наглядання было забеспячэнне выканання загаду забароны сну ці нават дрымоты да вячэрняга адбою. За нарушэнне гэтай забароны прадбачваліся кары ад стаяння ў камеры ў абсягу поля зроку праз ваўчок, цераз забароны прагулкі і іншыя, да пакарання карцэрам. Змаганне вязняў са сном у такіх умовах - гэта безупыннае мучэнне, што аслабляе так фізічныя, як і псіхічныя сілы нат найдужэйшых. Тое безупыннае змаганне са сном знішчала і магчымасць чытання, тым больш, што даступны былі толькі кнігі прапандысцкага характару. Калі пападзецца што-небудзь з беларускай белетрыстыкі, то абавяз-

кова на рускай мове. У такіх абставінах і гутарка не клеілася між асавелымі ад знямогі сужыцелямі камеры, што і не паспрыяла і запамятанню іх прозвішчаў. Самаю каларытнай постаццю ў камеры быў Бандарэнка (хіба Мікола) родам з-за Гомеля. Хлопец, пазбаўлены інстынкту самазахавання, свядомы беларус, энтузіяст змагання за незалежнасць спосабам, які яму толькі здараўся, без асаблівага аналізу сваіх пачынанняў. Трапіўшы ў канцэнтрацыйны лагер у Нямеччыне, добраахвотна пайшоў працаваць у крэматорыю, хоць ведаў, што пасля якогась часу працаўнікоў гэтага прадпрыемства таксама забіваюць. Ён нейк дачакаўся вызвалення амерыканцамі. Заўважаны якімсь, праўдападобна спецыялістам ад разведкі, прыняў ад яго прапанову ўдзелу ў падрыхтоўчым курсе для разведчыкаў у СССР. У сваім аповедзе найбольш захапляўся дакладнасцю, прадбачаных інструктажам на курсе, гутарак і пагрозаў з боку МДБ пасля вяртання "на Родину" з фальшывымі дакументамі і трапнасцю прадбачаных яму адказаў і выясненняў. Дзейнічаў ён пачаткова на Данбасе супольна з напарнікам, а як той неразважна здэканспіраваўся, Мікола перабраўся на Беларусь і да 1949 года ўключна выконваў заданні разведчыка. Аповед яго быў нашпігаваны драматычнымі, быццам узятымі з крымінальнай аповесці, сітуацыямі, якія хлопцу прыйшлося перажыць. Следства яго вёў якісь палкоўнік, які меў дазвол прымяняць у адносінах да вязня апрача бяссонніцы яшчэ і фізічныя пабоі і карцар.

На якісь час перад канцом нашага следства ў камеру прывялі вязня - быўшага афіцэра смаленскага МДБ, які перайшоў са сваімі саслужыўцамі да працы ў частках "СД" (SD - Sicherheitsdienst) - нямецкай палітычнай разведкі. Асуджаны на 25 гадоў, з лагера быў прывезены ў турму на дапаўненне следства. Прозвішча яго мне, на жаль, невядомае. Спатканы пазней мною ў 1951 годзе ў перасыльным лагеры ў Акмолінску той былы афіцэр дамагаўся абмену майго асенняга паліто, у якім мяне арыштавалі, на стары бушлат і кавалак хлеба, праўдападобна па даручэнні лагернай службы МДБ. У гутарцы ён мне прызнаўся, што высланы на "перапследства" выпаўняў у турме заданне сочкі вязняў у камеры і здаваў з гэтай дзейнасці справаздачу начальніку турмы. У тых "перагаворах" са мною ўжыў ён аргументу, што пра мяне даў быццам бы станоўчую ацэнку, што я адчытаў як пагрозу на будучае, калі з ім не згаджуся. Паведаміў прытым мяне, што М. Бандарэнка, асуджаны на смерць, адкінуў прапанову накіраваць просьбу аб памілаванні і напісаў дамаганне як найхутчэй расстраляць яго, што і было споўнена.

Іншых сужыцеляў камеры, у маім перакананні, можна ў асноўным разглядаць як кантынгент нявольніцкай працы ў ІТЛ - людзей без акрэсленых палітычных перакананняў і акрэсленай віны. Тэатральны акцёр (наколькі прыпамінаю - Чарняўскі) арыштаваны быў за працу ў тэатры імя Янкі Купалы ў Менску ў часе нямецкай акупацыі. Іншы дзядзька, гадоў 55, лішне "балтаў пад п'яную руку" і меў адно вытлумачэнне: "жизнь дала трещину". Асаблівасцю ў гэтай кампаніі быў старэча - яўрэйскі дзеяч Сацыялістычнай рабочай яўрэйскай партыі, якая перад рэвалюцыяй арганізавала між іншым першыя рабочыя забастоўкі ў Гародні. Бальшавікі пасля кастрычніцкай рэвалюцыі прызналі "Бунд" нацыяналістычнай арганізацыяй і, у залежнасці ад перыядаў насілення розных чыстак, вылаўлівалі ўдзельнікаў той партыі ў рамках праграмы гістарычнага разліку. Баптыст, мінчанін прозвішчам Вайткун, зняволены быў за баптысцкую прапаганду. Вельмі спакойны чалавек - прапаведнік ідэі "несупраціўляцца злу насіллем". Лёс сутыкнуў нас пасля ў Карлагу, і тады дзядзька Вайткун заявіў, што калі б дачакаўся магчымасці змагацца з праклятым бальшавізмам, з прыемнасцю паслужыўся б кулямётам.

Мінула некалькі дзён, і мяне зноў заперлі ў адзіночную камеру. Недасведчаны вязень не ведае, што гэта частка працэсу тактыкі "змякчання". Ты паспеў ужо пазнаёміцца з камернымі жахарамі, зжыўся з імі, а цяпер пасядзі зноў адзін, сам на сам са сваімі думкамі. Дык вось падумай, што магло быць прычынай тваёй ізаляцыі. Можа на цябе нехта лішняе набрахаў, ды цябе залічылі да асабліва небяспечных ворагаў савецкай дзяржавы? Ці мала розных кашмарных думак наплывае ў галаву чалавеку, запёртаму ў чатырох сценах, за якім пільна сочаць, каб прыпадкам не задрамаў, каб думаў, хочаш ці не, бо на гэта ж цябе і заперлі ў адзіночку. Калі хто і звернецца да цябе, то не інакш, як толькі загадам, падмацаваным тонам нянавісці ці пагарды, і ты, безабаронны, можаш зарэагаваць толькі безумоўным падпарадкаваннем. У кантактах са следчым нічога не мяняецца. Ён быццам і не ведае, што перамяніў твае бытавыя ўмовы ізаляцыяй, і ты прытвараешся, што быццам нічога не змянілася, ды стараешся пераносіць яго зняважгі, канцэнтруючыся на магчымасці абароны. Найцяжэйшым у такіх умовах аказваецца той перыяд дня, які ты мусіш перайтрываць у змаганні з атакую чым цябе сном, не маючы да каго звярнуцца словам, апрача самога сябе. З прыемнасцю вітаеш тады кожную праяву жыцця, напрыклад, у постаці мухі, калі заблудзіць у твае сцены. Чакаеш, быццам госця, той блашчыцы, якая ў адпаведным часе выпаўзе на сцяну, каб давандраваць да месца на столі, з якога кінецца на тваё логава з вядомай мэтай. Ты свядомы таго, што яна корміцца табою, але ацэньваеш гэта ў катэгорыях рэваншу за ўдзел у тваёй адзіноце.

Валадар твой ведае, што ў акрэсленым часе ты зжывешся з тою адзіночкай і гэтым самым затрачваецца сэнс трымаць цябе там, дык вяртае сваю ахвяру ў ранейшую камеру, каб звольніць месца іншаму кандыдату на "змякчанне" ў ізаляцыі. Ён упэўнены ў тым, што вяртанне ў камеру і так не пераменіць тваёй сітуацыі зацкаванага безабароннага звярка.

Першыя дні следства пацвердзілі заяву начальніка турмы, што ведае пра мяне шмат чаго, але гэта адносілася толькі да маёй дзейнасці ў СБМ на Бацькаўшчыне і ў Нямеччыне. Праца мая ў гэтай галіне была яўная, не засакрэчаная, а ад 1944 года да часу майго арышту шмат маіх сяброў апынулася ў зняволенні. Гэта аднак не задавальняла маіх турэмных уладароў. Яны паставілі сабе заданне абвінаваціць мяне ў чымсь асабліва шкодным, найлепш у дыверсіі ці шпіянажы, згодна з пануючаю ў тым часе шпіёнаманіяй. Найлепшым для гэтай мэты зыходным пунктам

магла быць Беларуская незалежная партыя (БНП). Я запамятаў добра перасцярогу следчага суддзі ў познаньскім астрозе ў 1945 годзе, што незалежніцкія імкненні БНП (у яго акрэсленні "сепаратыстычныя") у ацэнцы МДБ будуць разглядацца як замах на савецкую дзяржаву.

Паколькі ў пачатковай фазе следства не было пра гэта ніякага ўспаміну, я спадзяваўся, што маё дачыненне да БНП застаецца за абсягам допытаў. У выпадку ўспаміну з боку следчага, я пастанавіў не прызнавацца, што гэта арганізацыя мне вядомая. Неўзабаве, аднак, пераканаўся, наколькі маё пастанаўленне было наіўнае. Па-першае, дасведчанаму прафесіяналу, маёру Вінакураву няцяжка было зарыентавацца ў няшчырасці майго адрачэння ад БНП. Па-другое, у яго распараджэнні былі пратаколы з допытаў маіх, раней спомненых, сяброў Філі Давідчыка і Андрэя Вайтовіча, якія былі ўжо зняволены. Па-трэцяе, мае даволі блізкія кантакты з Барысам Рагулям мелі сваё значэнне. Незалежна ад таго следчы выяўляў такія веды пра БНП, што цяжка было сцяміць, што мела сувязь з фактамі, а што з'яўлялася хлуснёй з мэтай перабольшання праблемы.

У такой сітуацыі выяўленне мною сапраўднай дзейнасці, звязанай з ідэяй незалежнасці, сфармуляванай між іншым у бюлетэні, яго абсалютна не задавальняла, хоць праўдападобна быў перакананы, што гэта не разыходзілася з фактамі. Ён выразна паставіў сабе за мэту абвінаваціць мяне ў дыверсіі і шпіянажы. Я разумеў дастаткова, чым гэта пагражае і стараўся мабілізаваць усе сілы для абароны перад тою хлуснёй, тым больш, што гэтыя праблемы мяне ніколі і ў ніякай ступені не цікавілі. Хоць гэта магло здавацца мала праўдападобным, але я тады на самай справе не ведаў нават назваў нямецкай ані амерыканскай разведак і не быў свядомы існавання якойсь дыверсійнай школы ў Дальвіцы. Маёр Вінакураў праўдападобна таксама разумеў гэта, але для яго было найважнейшае паспяховае, згодна з пастаўленай мэтай, заканчэнне следства намераным абвінавачаннем. Пачалося з закіду, што БНП, інспіраваная нямецкай разведкай, супрацоўнічала з ёю, а пасля і амерыканскай разведкай і ўдзельнічала ў падрыхтоўцы дыверсантаў у Дальвіцы. Я чуў раней пра спробу нямецкай правакацыі ў БНП, але нічога не ведаў аб пастаўленым следчым закідзе ў супрацоўніцтве з разведкамі ані з дыверсійнаю школаю і не верыў у гэты закід. Я не памятаю падрабязна зместу прысягі, складанай перад Пагоняй у наваградскай школе, але добра запамятаў яе сэнс вернасці беларускаму народу, Бацькаўшчыне і змаганню за яе незалежнасць. Вінакураў сфармуляваў змест прысягі як быц-цам на вернасць БНП, з чым я не мог пагадзіцца, што і прыйшлося акупіць цяжкімі дасведчаннямі. Іншы са шматлікіх прыдуманых для следства эпізодаў, які мяне асабліва ўзбударажыў і запамятаўся мне, гэта адчытанне быццам пратакола з допыту майго сябры Філі Давідчыка, у якім гаварылася, што я сумесна з ім быў удзельнікам дыверсійных курсаў у Дальвіцы. Я ані праз хвіліну не сумняваўся ў хлусні следчага і не верыў у магчымасць такой выдумкі з боку сябра. Не менш і гэтае здарэнне абышлося мне даволі цяжкімі наступствамі. Кожнае маё супраціўленне беспадстаўным закідам следчага выклікала ў ім абурэнне, пагрозы, знявагі, а то тузанне за каўнер, а то пырсканне вадою ў твар і іншыя. Па меры прадаўжэння той валакіты, бяссонніцы і знявагаў наступала атупленне ўражлівасці, абыякавасць на намаганні праціўніка і яго пагрозы. Ён сваё, а ты сваё, але і на гэта знайшоўся спосаб.

**Карцар**

Калісь раніцай, пасля бяссоннай з-за следства ночы, нечакана ў "кармушцы" камерных дзвярэй пачуўся прывычны шэпт: "На букву Ж". У гэтым выпадку "вяртухай" (турэмны канваір), вырваўшы мяне з камеры, загадаў зусім іншы маршрут. Павёў мяне кудысь уніз, у падвальным памяшчэнні загадаў раздзецца да бялізны, зняць з ног шкарпэткі і басанож у камашах пагнаў яшчэ ўніз, няведама на які ўзровень таго падвала ды цераз цьмяна асветлены калідорчык, з якога ўпіхнуў мяне ў якісь катух. Гэта карцар - памяшканне велічынёй якісь 2,5 м х 1,5 м. Над дзвярамі карцара крата, цераз якую прабіваецца слабенькі свет з калідорчыка. У куце каморкі якаясь пасудзіна для спаражненняў, якая праўдападобна нікім не выносіцца, бо цераз праржавелае дно ўся адданая ўрына маментальна выцякае на бетонную падлогу, насычаючы паветра аманіякавым смуродам. Сцены, столь і падлога катуха насычаны сырасцю, у якой поўзаюць ледзь прыкметныя якіясь мініяцюрныя стварэнні, якія шэрым сваім колерам не адрозніваюцца ад сценаў, па якіх яны вандруюць і якія мінераламі ці мо і людскімі адходамі праўдападобна кормяцца. На шчасце, да чалавека адносяцца яны абыякава, не чапляюцца яго; хіба толькі выпадкова. Вязні называюць іх макрыцамі, але пацверджання гэтай назвы нідзе мне знайсці не ўдалося. У такіх умовах прысланіцца да сцяны немагчыма, а сесці таксама няма на чым, бо табурэт даюць вязню толькі на ноч. Холад з сырасцю пранікаюць маментальна праз бялізну, пранізваюць усё цела, выклікаючы нястрымліванае дрыжэнне. Гэта змушае нешчаслівца да безупыннага руху ажно да поўнага расходавання фізічнай сілы. Раніцай дастаўляюць у карцар па кубку ледзь цёплай вады, якую называюць кіпятком. Цераз дзень да вады дадаюць кавалачак хлеба. Сілы пакідаюць чалавека ў такіх абставінах вельмі хутка. Свядомасць безабароннасці перад так прыдуманым працэсам знішчэння чалавека і бязвыхаднасць становішча ў пэўным моманце выклікаюць назойлівую прагу смерці, як адзінай магчымасці вызвалення ад наносімых пакутаў, прыніжэння і бесперспектыўнай вегетацыі. Паяўляецца тады быццам апошняя надзея - думка малітвы. Спроба сканцэнтравацца аказваецца амаль немагчымай. У галаве паўстае замяшанне ад супярэчнасці думак, адчуццяў і адсутнасці веры ў магчымасць выхаду з таго кашмарнага тупіка, прычыненай аслабленнем сілы волі змагання.

На змену напружанасці думак і пачуццяў нечакана наступае вакуум і быццам раздваенне твайго "я". Абыякавай рэчаіснасцю становіцца той смярдзючы, мокры, з яго макрыцамі катух і пранізлівы хо-

лад, а ўсё іншае быццам адносіцца да часткі кагось другога. У рэшце рэшт, папаўшы ў кругаварот між свядомасцю рэчаіснасці і ілюзіяй, наступае перамена: то адпружанне, то страх перад стратай прытомнасці, выклікаючы рэшту сіл для абароны ўласнай тоеснасці.

**Следства канчаецца**

Вечарам чацвёртых сутак кары нечакана адчыніліся дзверы карцара, з-за якіх пачуўся загад: "Выходи". Атрымаўшы сваю вопратку, траіў я проста на знаёмы табурэт у следчага. Нагрэтае летнім сонцам паветра ў напоўненым яго свежасцю, цераз адчыненае акно, пакоі дзейнічала быццам бальзам пасля перанесеных карцарных пакутаў. Прыпушчаная следчым атака паказалася ў тым моманце чымсь другарадным, не так ужо і страшным. Наступствы знемажэння што раз больш адчувальна перашкаджалі завесці дыялог між праціўнікамі. Не памагалі пагрозы, штурханцы ані пырсканне ў твар вадою. Разгневаны маёр урэшце выклікаў варту і загадаў: "Уведите!" - "В камеру?" - запытаў вяртухай. "А куда же ещё?" - зарэагаваў афіцэр таксама пытаннем. Такім чынам атрымаў я бадай першую спакойную ноч у камеры, заданнем якой была рэгенерацыя неабходных для прадаўжэння следства сіл. Ад наступнай ночы пацякло ўсё зноў сваім ручаём. Паўтараныя пытанні, на якія не магло быць адказу, тыпу: "Кто и с какой целью направил тебя в Польшу?" і іншыя недарэчнасці, пагрозы, знявагі, бяссонніца ажно да заканчэння следства. У вольныя ад працы суткі Вінакурава заступаў іншы следчы, пераважна старшы лейтэнант Кутузаў. Адносна малады чалавек, гадоў 35-36, лічыў сябе прагрэсіўным і на самай справе адрозніваўся ад сваіх старэйшых тупагаловых таварышаў. Нядрэнна ён арыентаваўся ў справах беларускага нацыянальнага руху, між іншым у часе акупацыі. Не бачыў яго, як Вінакураў, выключна ў чорных колерах, абмяжоўваючы ацэнкі да паняцця калабарацыянізму. Кутузаў не адмаўляў погляду аб вызваленчых імкненнях таго руху, хоць лічыў яго утапічным - нерэальным. Тлумачыў, што быў ён палітруком у партызанскіх групоўках Наваградчыны. Фактычна ведаў ён прозвішчы дзеячаў беларускіх арганізацый і не таіў, што знішчэнне кожнага не ўяўляла б ніякай праблемы, хто праявіўся б небяспечным калабарацыяністам. Не хаваў сваіх талерантных адносін між іншым да рагулеўскага эскадрона і СБМ. Замяшчэнні яго ў следстве мелі хутчэй характар непратакольных спрэчак, чым допыту. Заданнем іх было ператрыманне вязня на допыце, не дазваляючы заснуць. Абмаўляючы справы СБМ, Кутузаў паінфармаваў, што падследчымі яго з'яўляюцца Анеля і Вераніка Каткевічанкі. Анеля была перакладчыцай у гарадской управе Менска ў часе акупацыі, а пасля ў Нямеччыне супрацоўнічала з Верай у СБМ як настаўніца і апякунка беларускіх дзетак у нямецкіх працоўных лагерах. Вера была намеснікам д-ра Надзеі Абрамавай, галоўнай кіраўнічкі дзяўчат пры кіраўнічым штабе СБМ. Была яна з сынком Славікам, народжаным у турме.

Кутузаў абяцаў наладзіць нам сустрэчу, у якую я не верыў, маючы на ўвазе жорсткасць турэмнага рэжыму. Ад часу нашай разлукі ў лесе ў Нямеччыне, куды нас выгнала з дзецьмі з Дэсаў нямецкая жандармерыя ў 1945, лёс дзяўчат быў мне невядомы.

Следства маё кончылася ў першай дэкадзе верасня 1950 г. Аднойчы ў дзень завялі мяне да начальніка турмы. Той запытаў, ці ў следстве не прымянялі фізічную сілу і наогул ці маю якія заўвагі да следчага. Я быў вязнямі папярэджаны аб такой сустрэчы і згодна з радамі дасведчаных не заяўляў аб заўвагах, кіруючыся жаданнем як найхутчэйшага заканчэння следчых пакут. Цераз дзень ці два выклікаў мяне і пракурор, які правёў са мною даўжэйшую гутарку на тую ж тэму, што і начальнік. Апрача таго ён глыбей пранікаў у змест пратаколаў з допытаў і вельмі настойліва раіў перадумаць справу і выявіць, калі што затаіў я са сваёй дзейнасці супраць СССР. Папярэдзіў яшчэ, што калі нешта пазней выявіцца (то мяне вернуць у турму і асудзяць нашмат больш жорстка. Я спадзяваўся, што мяне ніжэй "нормы" (25 гадоў зняволення) і так не ацэняць, але не хацеў каментаваць спосаб ані вынікі следства і толькі стараўся пераканаць майго суразмоўцу, што не маю больш нічога дадаць да справы.

**Суд**

Калі прывялі мяне на пасяджэнне суда, у зале сядзелі ўжо сёстры Анеля і Вераніка з дзіцём. Склад суда прадстаўлялі два афіцэры і два сяржанты - праўдападобна засядацелі. З боку сядзелі нейкі іншы пракурор і ў цывільнай вопратцы - адвакат. На пытанне, ці маю заўвагі да складу суда, я адказаў адмоўна з агаворкай, што не скарыстаю з удзелу адваката, з якім я не меў нагоды паразумецца і паспрабую бараніцца сам. Гэта была, безумоўна, тактычная памылка, якая выклікала ад пачатку адмоўнае ўражанне ў суддзяў, а асабліва ў сябры адваката - пракурора, якія расцанілі маю заўвагу, як падрыў аўтарытэту сістэмы савецкага правасуддзя. Пракурор пасля ў сваёй мове аж надта выразна даў зразумець гэта. Судовы працэс, добра рэжысіраваны, прайшоў спраўна, па шаблону. Роля сясцёр Каткевічанак абмежавалася да пацвярджэння маёй тоеснасці. Пракурор у сваёй прамове акрэсліў мяне як ярага нацыяналіста, "неисправимого врага советского народа и государства" і патрабаваў вышэйшай меры пакарання - расстрэлу. Суд аб'явіў перапынак, на час якога пазачынялі нас - мяне і маіх сведкаў - у нейкіх жалезных шафах. Не памятаю, колькі трываў той перапынак, але паказаўся ён мне страшэнна доўгім і прыкрым з-за безабароннасці. Суд аднак прыгаварыў мяне да зняволення ў "особых исправительно-трудовых лагерях" срокам на 25 гадоў і на пяць гадоў пазбаўлення грамадзянскіх правоў. Гэта, аднак, не задавальняла садысцкіх намаганняў пракурора. Ён склаў пратэст і да часу вырашэння яго супраціву пратрымалі мяне дзён дзесяць у адзіночнай камеры ў падвале пад асаблівай вартай і на галодным пайку, пасля чаго перавезлі ў гарадскую турму пры вуліцы Валадарскага ў Менску.

**У турме на Валадарскага**

У турме публіка і атмасфера паказаліся зусім

іншымі. На пачатак зачынілі мяне ў пустой камеры, але неўзабаве прывялі чалавека з фіялетавым тварам, без адной нагі - на каштылі. Ён акрэсліў мяне з выгляду як "контрыка" (контррэвалюцыянера - у турэмным дыялекце), а сам зарэкамендаваўся "уркам" (злодзеям). Знаёмства і "сяброўства" завязалася вельмі кутка. Прышэлец акрэсліў сваю віну як "халатнасць". Пакінуты таварышчамі на варце падчас абкрадання імі кіёска з гарэлкаю і закускай, не згледзеў прыбыцця міліцэйскага патруля, за што і атрымаў 10 гадоў зняволення. Мой "срок" з упэўненасцю ацаніў "капуткай" (25 гадоў) і з прыемнасцю слухаў аповеды аб маіх маладзёжных гарцах. Камера хутка запоўнілася, пераважна калгаснікамі з мяшкамі, аж у канцы ўвагналі групу некалькіх 14-15-гадовых падлеткаў. Тыя зразу кінуліся да сялянскіх мяшкоў, выбіраючы з іх што ім падабалася. Ніхто з рабаваных не спрабаваў бараніцца, нават не адзываўся. Калі акружылі мяне, мой аднаногі сябра сваім шнапсбарытонам рашуча загадаў: "Этого не трожь!", і хлопчыкі паслушна адсунуліся. Ледзь падлеткі кончылі сваю гульню ў рабунак, іх зноў павялі кудысь цэлаю ватагай. Хутка камера запоўнілася і ўсіх нас вывелі мыцца. Сабраўшы ўсю вопратку для пражаркі, турэмная жаночая абслуга выканала кожнаму стрыжку ўсіх валасоў, дзе якія былі, пачынаючы ад прамежнасці і на галаве канчаючы. У аграмадную лазню сагналі больш за трыццаць чалавек. Пераважна былі гэта маладыя хлопцы, загарэлыя ад летніх праменняў сонца, некалькі дзён толькі зняволеныя і ўжо асуджаныя пераважна на 5-7 гадоў ІТЛ за "похищение государственного (або "общественного") имущества" г.зн. за крадзёж для сям'і мяшка калгаснага ці саўгаснага зерня або бульбы і да т.п. Ад тае групы некалькіх "изменников Родины", у тым ліку і мяне, пасля лазні аддзялілі і завялі ў адмысловы корпус.

Рэжым быў тут зусім іншы. Спаць можна было ўдоваль, на прагулках не толькі што гутарыць не забаронена, як у "амерыканцы", але і паспяваць можна; не надакучай толькі турэмнай ахове - і ўсё ў парадку. Спеў і сякія-такія кніжкі - гэта адзіныя супрацьяддзі на турэмныя хваробы: тугу па блізкіх і вольнасці, на безнадзейнасць і бездапаможнасць у абліччы жорсткага самаўладства прыгнятальнікаў.

Аднойчы на турэмным калідоры жаночага сектара, адгароджанага жалезнаю кратаю ад мужчынскага, удалося пабачыць Веру з дзіцём. Падалася мне вельмі ўзрадаванай гэтым спатканнем. Да лістапада 1950 г. турма на вул. Валадарскай запоўнілася па берагі. Прывезеныя з лагераў у турму вязні на перасуд ці ў характары сведкаў на чыіхсь судовых працэсах расказвалі аб сваіх вельмі драматычных прыгодах з падарожжа ў лагер у мінулым. Палітычных вязняў, наогул спакойных і несвядомых умоў таго нявольнічага свету людзей, вазілі абавязкова з крымінальнікамі, добра сарганізаванымі, пераважна пад кіраўніцтвам дасведчанага злачынца - узурпатара над імі. Няпісаным заданнем банды малойчыкаў было абрабаванне "контрыкаў". Кожнага, хто бараніўся, калечылі, а то і, сумесна з аховай, абвінавачвалі ў сабатажы. Зрабаванае дабро аддавалі свайму правадыру, а той распараджаўся згодна з крымінальнымі правіламі. Працэдура такая не абыходзілася без карысці для аховы, якая лічыла крымінальных зняволеных "сваімі людзьмі".

Няйначай было і ў лагерах, дзе правадыры арганізаваных бандаў крымінальных злачынцаў - "блатных" - трымалі ўладу над вязнямі ўнутры лагера. Банды "радавых" крымінальнікаў - пераважна дробных зладзеяў і разбойнікаў - называныя "шпаною", задавальняліся ўнутрылагерным разбоем. Нападаючы на "рабацяг", якіх пагардліва называлі "фраерамі", адбіралі атрыманыя вечарам пайкі запрацаванага хлеба - пазбаўлялі цэлыя працоўныя брыгады іх поўгалоднага харчавання.

Блатныя (крымінальныя злачынцы), якія кіравалі між іншым гаспадарчымі справамі ў лагеры - як сацыяльна блізкія ўладам ГУЛ-ага - абкрадалі вязняў з надзеленых лагеру прадуктаў харчавання. Яны давалі распіску на прадукты атрыманыя (для сябе) лагернай аховай і расходвалі быццам на лагерную кухню. З таго, што заставалася вязням, яшчэ абрывалі сваім злачынным хаўруснікам, якія іх зберагалі ад помсты рабацягаў. У лагерах панаваў голад, які прычыняў вялікую ступень смяротнасці. Кожная спроба супраціву такім парадкам кончылася ссылкай у штрафныя брыгады ці падраздзяленні. Прывезеныя на перасуд "зэкі" (заключоныя) расказвалі ў турме пра нялюдскі тэрор і голад у штрафных лагерах на Салаўках і ў "Севжелдорлаге", дзе распаўсюдзілася людаедства. Галодныя блатныя рэцыдывісты рэзалі безабаронных вязняў, варылі або пяклі на вогнішчы і жэрлі. У другой палове саракавых гадоў лагеры сталі інтэнсіўна запаўняцца пераважна маладымі людзьмі, асуджанымі за антысавецкую, у тым ліку мілітарную дзейнасць. Баевікі Украінскай паўстанчай арміі, змагары за незалежнасць прыбалтыйскіх краін, часткова і беларускія хлопцы вайсковых і іншых арганізацый пачалі яднацца ў абароне перад разбоем і рабункам "шпаны". Даходзіла да крывавых сутычак, пагражаючых лагернаму рэжыму. Чуткі пра лагерныя "парадкі" ў СССР пачалі распаўсюджвацца ў свеце. Падтрымала і пашырала іх маладая пасляваенная эміграцыя з заходніх краін СССР і Сярэдняй Еўропы на Захадзе. Праблема не мінула і Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Выяўленая ў вольным свеце статыстыка смяротнасці, наступствы голаду і драконскага рэжыму пачалі непакоіць і самога Сталіна, які так турбаваўся пра свой "імідж" быццам бы сапраўднага "бацькі народаў". У 1948 г. была праведзена часовая перабудова лагернай сістэмы дзеля паляпшэння парадку ўнутры лагераў, завастрэнне рэжыму перад усім сярод вязняў палітычнага характару і апанавання некантраляванай смяротнасці. Не абазначала гэта выразнага аблягчэння долі "зэкаў", але павелічэнне вымогаў у адносінах санітарных умоў, больш жорсткае прытрымліванне перыядычнасці і вынікаў "камісовак", кантроль за самаволяй лагернай адміністрацыі і аховы не абышліся без прызнакаў перамен. Стварэнне "особых исправительно-трудовых лагерей" дзеля ізаляцыі палітычных вязняў ад добра сарганізаванага свету "блатных" не аблягчыла умоў іх вегетацыі ў сэнсе хранічнага голаду і непасільнай працы, але прычынілася да паляпшэння бытавой бяспекі зняволеных.

*(Працяг у наступным нумары.)*

***Ежы Путрамант***

# ПАЎВЕКУ

## *Вайна**

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

**Партызанскі штаб**

Недзе ў канцы красавіка наша місія закончылася: мабілізацыя праведзена, армія падышла бліжэй, пачалі яе ўласна перакідваць пад Роўна і Луцк.

Але мы тым часам набраліся смаку незалежнасці і не вельмі спяшаліся вяртацца ў абцугі жаўнерскай дысцыпліны. Спадабалася нам быць у кантакце з партызанамі, у атмасферы першай лініі, у знаходжанні сярод людзей неперакананых і нават варожых. Таму прынялі прапанову ўступіць у вельмі асаблівую частку, якая якраз паўставала пад Роўнам.

Быў гэта польскі партызанскі штаб, інстытуцыя пакліканая да жыцця на падставе станоўчага досведу беларускай і ўкраінскай партызанкі. Люська прызначылі намеснікам начальніка штаба па аперацыйных справах, я стаў намеснікам палітычна-выхаваўчым.

Але не пра нас гаворка. Гаворка пра начальніка штаба. Ім стаў Сяргей Прытыцкі.

Была гэта незвычайна маляўнічая постаць. Недзе ў 1937 годзе, як член КПЗБ, па загаду партыі забіў у зале суда правакатара, які выдаваў бог ведая каторую па чарзе групу камуністаў. Калі выйшаў з судовай залы, кінуліся за ім паліцыянты. На вялікіх прыступках віленскага суда пачалі ў яго страляць. Зваліўся. Прывезлі яго ў шпіталь. Меў больш за дзясятак ран. Вылечылі яго і аддалі пад суд. Атрымаў смяртэльны прыгавор. Але быў няпоўнагадовы. Па Польшчы прайшла вялікая хваля пратэстаў. Замянілі яму ўрэшце вырак на пажыццёвае зняволенне.

Са здзіўленнем чыталі пра яго і яго чын. З вялікай нецярплівасцю чакалі, каб пазнаёміцца. Далейшая яго гісторыя пасля прыгавору: Святы Крыж, вайна, вязняў эвакуявалі, трапіў на сваю Беларусь. Там яго выбралі намеснікам старшыні ці не Беластока. У час вайны працаваў у беларускім партызанскім штабе, адтуль накіраванне да нас.

Наш штаб арганізоўвалі ў Шпанаве, радзівілаўскім маёнтку за пяць кіламетраў ад Роўна. Быў там прыгожы парк, някепскі палац. Прытыцкі аказаўся шчуплым, невысокім, яшчэ ўсё вельмі маладым.

Але тое, што зрабіў, не прайшло для яго без следу. Быў страшна нярвовы. Рашэнні прымаў бліскавічна, але часта яго заносіла. Здаецца мне, што меў тую ж самую слабасць, што і я, на дзялянцы арганізацыйнай.

Зрэшты, мы былі там усе пякельна нярвовыя. Мы з Люськам удваіх занялі пакойчык у доміку нейкага дваровага афіцыянта. Вельмі з ім пасябравалі. Але аднаго дня вяртаемся з праверкі аднаго з аддзелаў. На развітанне далі нам “хабар”: бутэльку самагонкі. Прыехалі, вылазім з машыны, дзесяць метраў ад дому.

- Вазьмі, - кажа мне Люсек і выцягвае бутэльку.

- А нясі яе сам, - кідаю.

- Бяры, кажу табе!

Той тон мяне толькі абурыў.

- Сам нясі, сказаў!

- Нясеш ці не, - верашчыць Люсек, крывавыя плямкі бегаюць яму па вачах.

- Сам нясі, - крычу.

Люсек хапае бутэльку і аб сцяну, а сам за рэвальвер і да мяне...

Праца ў штабе была яшчэ вельмі часовая. Уласна палягала на “інвентарызацыі” аддзелаў ужо існых і на іхняй базе ў пазнейшым акрэсе ў стварэнні частак, якія мелі ісці на фронт ужо з канкрэтнымі заданнямі.

Атрымалі трохі спецыялістаў: радыстаў. пеленгатарак. Былі гэта савецкія дзяўчаты, мілыя спакойныя, якія зусім не перажывалі за тое, што іх будуць скідаць з парашутам у чужы край для цяжкай, няўдзячнай барацьбы.

Мы ездзілі па ваколіцы. На пачатку была толькі “брыгада Грунвальд” на чале з Максам. Дабраў ужо яе сабе, меў нейкія клопаты, здаецца са сваім намеснікам па палітычна-выхаваўчых справах. Меў быць перакінутым за Віслу, на Келеччыну.

**Няхай жыве вялікі правадыр**

Потым знайшліся ў нашым абсягу два іншыя аддзелы. Адзін прывёў харунжы даўняй польскай арміі Клім, пажылы, спакойны чалавек.

Аддзел быў невялікі, прайшоў шмат, асабліва цяжкую меў дарогу непасрэдна да нас. Акружаны немцамі на паўднёвым Палессі нейкі час галадаў на балотах, страшна заўшыўлены, прарэджаны тыфам, а потым прадзіраўся праз акружэнне, ідучы цераз балота, якое сягала па грудзі і вышэй. Калі я адведаў аддзел, былі гэта людскія цені. Клім падаўся мне вельмі дарэчным. Сам факт, што такі аддзел змагаўся разам з Чырвонай Арміяй, а потым прыйшоў да нас, гаварыў

*Пераклад з польскай Станіслава Судніка паводле **Jerzy Putrament. “POL WIEKU. Wojna.”** (Том 2 тэтралогіі), Czytelnik, Warszawa, 1962.

выразна, што на гэтай тэрыторыі ТАП-аўцы, а пазней АК-аўцы не мелі манаполіі на людскія душы.

Я вельмі баяўся, што знойдуцца такія, якія прычэпяцца да перадваеннай біяграфіі Кліма. Стараўся яго як найсалідней умантаваць яго ў нашую рэчаіснасць. Аддзел яго змагаўся пазней на Любліншчыне. Сам ён быў у Войску Польскім, памёр некалькі гадоў назад у званні падпалкоўніка.

Другі аддзел - гэта не быў аддзел, гэта было цэлае злучэнне. Называлася яно “Яшчэ Польшча не згінула” і налічвала звыш дзясятка аддзелаў.

Гісторыя тых аддзелаў, якую ведаю вельмі фрагментальна, ёсць павучальная і вельмі маляўнічая. У лясах паўночнай Валыні ці паўднёвага Палесся працавала перад вайной маладая настаўніца, якая кантактавала з КСМ-ам (Камуністычны саюз моладзі), а можа і была яго чальцом. Была гэта сястра майго любімага Болька Дрожджы, які, забягаючы наперад, прыняў у Першай дывізіі жаночы батальён і якраз рыхтаваўся сюды прымаршыраваць.

У 41 годзе, паблізу той вёскі аказаўся бежанец з Лодзі, з інтэлегентнай сям’і, студэнт політэхнікі. Сатаноўскі. Ён меў у той час настроі хутчэй анархічныя. Але гітлераўская акупацыя зблізіла абоіх маладых людзей. Пачалі “нешта” рабіць. Праз пару гадоў у ваколіцы паўсталі ўласна гэтыя аддзелы.

Сатаноўцы ляталі самалётам у Маскву, дамаўляліся з уладамі СПП. Калі на вясну сцягнуліся пад Шпанаў, паслалі да іх мяне з Люськам. Меліся “ахапіць” злучэнне, далучыць яго афіцыйна да ўзбоеных сіл нашага лагера.

Была цудоўная валынская вясна. У сонечны дзень заехалі мы ў штаб злучэння. Сатаноўскі, які для карысці справы (г. зн. для дадання сабе належнага аўтарытэту) называў сябе палкоўнікам, бачачы, што гэтыя яго высокага звання фунцыі ідуць к канцу, пастанавіў зрабіць гучны фініш.

Быў гэта малады, невысокі чалавек са светлапопельнымі валасамі і вусамі, з доўгім, злёгку гарбатым носам, з вельмі добрымі манерамі, прыпамінаў, мабыць, Валейку з “Маладосці Шапэна”. А, можа, мне трохі так здаецца. Яго жонка і сукамандзірша была вышэйшая за яго, чорнавалосая, чарнавокая, гарачая, падобная знешне на Болька, непадобная па характары, бо зацятая, актыўная.

На нейкім прасторным дзядзінцы Сатаноўскі зрабіў збор сваіх афіцэраў. Сабралася некалькі дзясяткаў (можа, 50?) чалавек. Сатаноўскі ўзышоў на ганак, сказаў прамову. Вельмі лаяльна пахваліў СПП і Войска Польскае ў СССР за тое, што зрабілі. Але потым і перш за ўсё гаварыў пра “Яшчэ Польшча не згінула”. Тут быў вельмі аптымістычны. Гаварыў нядоўга, узнёсла, хутка.

Потым яго начальнік штаба зачытаў загад. Былі там прысваенні званняў. Такому і такому - капітана. Такому - паручніка. Нават, здаецца, былі званні сяржанцкія. Потым гукнуў:

- Зважай!

А калі сталі на “зважай”, закончыў:

- Падпісана: “Камандуючы партызанскім злучэннем палкоўнік Сатаноўскі”. Вольна.

Мы разняволіліся за домам. Быў там прыгожы сад. Якраз цвілі яблыні. Пад іхнімі галінамі паставілі доўгія драўляныя сталы, заслалі сурвэтамі. У вялікіх місах - мара мужоў гэтай эпохі: вэнджаны бачок, гатаванае мяса, тоўста нарэзанае сала. Расселіся. Галіны над галовамі, пад насамі ружова-белыя кветкі, брынчаць пчолы, пялёсткі кветак падаюць, як на парашутах, на талеркі, на мяса, на размазаны хрэн.

Адразу ўнеслі напоі: бімбар (самагонку), нажаль бурачковы. Адразу пачалі піць. Адразу пачаліся тосты.

Устаў Сатаноўскі: за здароўе СПП і яго кіраўнікоў, Войска Польскага, вельмі ветліва, бо і за наша з Люськам.

Выпілі згодна і па поўнай. Дзюбнуў кавалак сала. Адразу быў тост за пагібель немцаў і іхніх прыслужнікаў з бульбаўцамі на чале. Выпілі. Загаманілі. Выпілі. Выпілі. Выпілі.

Тады ўстаў адзін са свежа павышаных у званні:

- За здароўе нашага любімага камандзіра! Няхай жыве камандуючы згрупаваннем партызанскіх аддзелаў “Яшчэ Польшча не згінула” палкоўнік Сатаноўскі!

Авацыя, усе ўстаюць. Сатаноўскі кланяецца. Стукаемся з ім тоўстымі шклянкамі, як з-пад гарчыцы. П’ём. Ледзь сядаем, як наступны са свежа атрымаўшых званне, малодшы, чырвоны з твару, махае поўнай шклянкай:

- Няхай жыве галоўнакамандуючы польскіх партызанаў на Валыні палкоўнік Сатаноўскі!

Усе ўстаюць, авацыя, воплескі. Усё, як вышэй. П’ём.

Ледзьве сядаем, падхопліваецца наступны з атрымаўшых званне, яшчэ малодшы.

- Няхай жыве камандуючы Войска Польскага на Валыні, палкоўнік Сатаноўскі!

Усе ўскакваюць на ногі, гучная авацыя. Мы з Люськам таксама ўскакваем, мімаходам зыркнуўшы на сябе, але п’ём.

Падаем на лавы, а ўжо стаіць наступны, поўны смаркач:

- Няхай жыве галоўнакамандуючы Войска Польскага палкоўнік Сатаноўскі!

Не гледзячы на ўсю выпітую гарэлку, спрабуем неяк “абрэзаць”. Але як? Без дэманстрацыі ўжо не атрымаецца. Трэба было перасягнуць тастоўцаў і апярэдзіць. Але не прыйшло нам тады гэта ў галаву. Спрабуем прынамсі не піць. Але суседзі грозна на нас глядзяць. Зрэшты, вакол такі шал радасці! П’ём.

Не паспелі сесці, а ўжо наступны і апошні, наймалодшы:

- Няхай жыве вялікі правадыр польскага народа палкоўнік Сатаноўскі!

Што рабілася, што тады рабілася. Пілі, скакалі, крычалі: “Віват”, стралялі з дубальтоўкі. Сатаноўскі сядзеў змешаны, трохі засаромлены перад намі. Нягледзячы на ўвесь выпіты бімбар, здаваў сабе справу

з асноваў дыспрапорцыі ўсёй аказіі. Не памятаю канца прыёму, напэўна мы выехалі раней, прагнучы тым спосабам даць ім зразумець, што не цалкам згодныя з асаблівай гістарычнай оптыкай злучэння.

Далейшая гісторыя Сатаноўскага вядома мне вельмі коратка. Ведаю, што яшчэ перад канцом вайны паслалі яго ў Вышэйшую вайсковую школу ў Маскве. Была гэта добрая прыдумка. Не зрабілі праблемы з яго высокага звання, якое сабе ўзяў, будзь што будзе, на полі бою. Далі яму толькі аказію дайсці да таго звання ex post. Закончыў тую школу, наколькі ведаю, вельмі добра. Вярнуўся, атрымаў, здаецца, камандаванне сапраўднай дывізіяй. Але недзе каля 49-га года пачалі занадта да яго чапляцца, прыпамінаючы яму не зусім фармальны шлях да свайго звання і шмат іншага.

Тады махнуў рукой на войска, пайшоў у кансерваторыю, закончыў яе, быў нейкі час у ГДР дырыжорам адной з філармоній.

Не падаю тых дэталей, каб сумнявацца ў ваенным шляху аддзелаў Сатаноўскага. Але факты падаюцца мне маляўнічымі. Патрапілі яны тут толькі пад лёгкую літаратурную апрацоўку.

У Сатаноўскага, яшчэ перад урачыстасцю пад яблынямі сустрэў некалькі венграў. Адзін з іх, добра валодаючы расійскай, паведаміў мне, што ідуць з аддзеламі, разлічваючы, што неўзабаве рушаць да сябе, за Карпаты. Зрабіў мне лекцыю пра палітычную сітуацыю ў Венгрыі. Было гэта на такім узроўні, што я зразумеў адразу: гэта нехта з палітычных эмігрантаў найвышэйшай катэгорыі, катэгорыі Лямпэ, напрыклад.

**Далёкі налёт**

Іншы чалавек, таксама вельмі высокага ўзроўню, адведаў нас у Шпанаве. Гэта быў нехта з работнікаў ЦК ВКП (б) з Масквы. Прыехаў, каб зарыентавацца ў палітычнай сітуацыі на Валыні. Начаваў у мяне. Здзіўляў мяне сваёй нязвыклай сціпласцю, паслядоўнасцю ў меркаваннях, тактам. Зразумеў тады, што маё веданне партыйных кадраў, абапёртае на львоўскія прыклады, было вельмі няпоўнае.

Якраз быў налёт на Роўна. Мы доўга глядзелі на страшнае відовішча нішчанага горада. Нічога нам не пагражала, нічым мы не маглі дапамагчы гінуўшым. Зарыва пажару што хвілю перарывалі белыя фантаны новых выбухаў. Вораг, якому скруцілі карк, мог яшчэ агрызацца.

Разгаварыліся пра вайну. Была ў ёй адна цікавая дэталь. Я запытаў у яго, які момант быў для яго на вайне найцяжэйшым. І дадаў: для мяне 18 кастрычніка 41 года, дзень уцёкаў з Масквы.

Для яго было гэта 3 ліпеня таго ж года. Першая ваенная прамова Сталіна. Зразумеў тады, што будзе гэтая вайна у шмат разоў цяжэйшая, чым перад ёй пра яе думалі, чым думалі і гаварылі ў першыя дні яе ходу. Навучыўся па-просту чытаць паміж радкамі. На мяне прамова зрабіла ўражанне падмацоўваючае - але я бачыў тую вайну ад яе першай гадзіны. А ў Маскве доўга яшчэ трывалі настроі афіцыйнага ўрапатрыятызму. І там тыя самыя словы загучалі як сігнал трывогі.

Гэта быў цяжкі налёт. Роўна амаль дзень у дзень было прадметам атак нямецкай авіяцыі.

А дакладней - ноч у ноч. А таму ўвесь чыгуначны рух у тым закутку пераставілі на дзень.

Якраз пачалі перакідваць сюды нашу армію. Адзін з транспартаў не здолеў пад вечар выгрузіцца з вагонаў, нехта там нешта пракілбасіў, ён трапіў пад налёт і панёс страты. Было, здаецца, больш за дзясятак забітых.

Зрабілі ім пахаванне. Люсек і я былі на ім. Канешне, пастараліся пра ксендза. Не было з тым клопатаў, не так, як у Сельцах, дзе таго нашага любімага ксендза Кубша трэба было на кожную ўрачыстасць замаўляць як разрываную на ўсе бокі кіназорку.

Прамаўляюць, канешне, нашы з пал.- вых. Абсалютна беспамылкова. Усё на месцы: і дэмакратычная, і незалежная, але сяброўская і плячо да пляча з Чырвонай Арміяй. Слухаю адным вухам, а сам думаю пра таго дурня, які не сумеў забраць сваіх людзей удзень...

А на канец выходзіць ксянжышча. Таксама палітычна беспамылкова: ніякіх алюзій, ніякіх шпілек. вельмі тактоўна, таксама ў акрэсе свайго ведамства: несмяротнасць душы. Слухаю і раптам лаўлю сябе: вочы маю мокрыя...

Потым мы доўга размаўлялі з Люськам, чаму той ксянжышча патрафіў нас узрушыць, а гэтыя нашыя нічога і нікога. Дайшлі да высновы, што справа простая. Па-просту мы яшчэ знаходзімся на ўзроўні азбукі ў пэўнай, вельмі істотнай дзялянцы палітычнай дзейнасці: у дзялянцы красамоўства.

Тых ксяндзоў спецыяльна вучаць рыторыцы. Там тысячу гадоў назад заўважана, што не дастаткова гаварыць слушна, трэба яшчэ рабіць гэта прыгожа, ці ўмець зайграць на людскіх пачуццях. І тут, і там трапляюцца таленты красамоўства, такім, канешне, навука не вельмі патрэбна, але, пранятыя ёю, там падцягваюцца, у нас застаюцца тупымі піламі. Ба, некаторыя наўпрост лічаць, што камуніст павінен гаварыць нудна, у стылі лектараў. Бо інакай было б “несур’ёзна”.

**Гісторыя робіць скачок**

Недзе ў траўні мы былі зноў у Маскве. Грымнула сенсацыя: дэлегацыя Краёвай Нацыянальнай Рады прыехала ў Маскву.

Можна сабе ўявіць, як мы былі ўзрушаны. Людзі “адтуль”. Дагэтуль нашыя веды пра край былі нечувана фрагментарныя, іх найважнейшым элементам было, хіба, тое, што мы прывозілі з Валыні. Ясна было аднак, што Валынь - гэта прыклад нетыповы, што ў губернатарстве ўсё, калі не больш складанае, то іншае

Пра Краёвую Нацыянальную Раду, пра ПРП і Народную Армію (Армію Людову), канешне, мы

ведалі, але толькі самае агульнае. Сустрэць жывых прадстаўнікоў нашай справы адтуль, з-пад акупацыі. было незвычайна цікава.

Дэлегацыя была ў дарозе нешта з два месяцы: мела цяжкасці з пераходам цераз фронт, прадзіралася, бадай што, праз Палессе. Пасля некалькіх дзён размоў з нашымі кіраўнікамі прыехала на пару дзён адпачынку ў Барвіху.

Я якраз таксама там аказаўся. Кінуўся на дэлегатаў з роспытамі. Было іх чацвёра, канешне, ні аднаго знаёмага. Ні адзін не выступаў пад уласным прозвішчам. Толькі адзін псеўданім быў апублікваны ў камюніке: Мараўскі.

Быў гэта невысокі, прыстойны, малады чалавек з доўгім прамым носам і незвычайна буйнай чупрынай, спадаўшай на вочы. Ён і іншыя - сярод іх адзін невысокі, тоўсты, лысы, адзін малады, вельмі прыстойны і задзірлівы, адзін з вялікім арліным носам, найпаважнейшы - выдавалі нам інфармацыю пра тэрор і пра расклад сілаў у падполлі, пра дзейнасць лонданчыкаў, пра партызанку на Любліншчыне і ў Келецкім ваяводстве, пра ліквідацыю яўрэяў, пра жыццёвы ўзровень.

Мы слухалі, не шмат разумеючы. Нават мая знаёмасць з Ровеншчынай не дапамагла мне ўслухацца ў жудасную рэчаіснасць акупацыі. Усяму верылі і з нічога не маглі здаць сабе справы.

Пад вечар сілы абодвух бакоў вычарпаліся. Мараўскі пачаў мурлыкаць пад нос:

Мы маладыя, мы маладыя,
Нам бімбар не зашкодзіць.
Мы старшыя, мы старшыя,
Нам бімбар да твару.

Быў гэта ўзор папулярнай акупацыйнай песенькі. Запытаўся:

- А што такое бімбар?

Мы не ведалі тады гэтага слова. На Валыні не сустрэлі яго ні разу.

Мараўскі адказаў:

- А гэта тое самае, што папойка. Значыць: гуляць, піць...*

Задумаўся, як мог правесці гады акупацыі, не ведаючы найпрасцейшага значэння гэтага слова...

Мы былі зноў у Шпанаве, калі адбыліся дзве ваенныя падзеі велізарнай вагі. На захадзе Другі фронт стаў рэчаіснасцю.

Тое пра што марылі два апошнія гады! Памятаю, у 1942 годзе, у момант разгару бітвы за Сталінград, заскочыў у нашыя “Новыя гарызонты” калега з Савінформбюро, Андрэйчын, якога Усіевіч называла “шалёным македончыкам”. Ускочыў, задыханы, размахваючы белым аркушыкам:

- Другі фронт! - крычаў. - паведамленне “Рэйтар”, сам пераклаў.

Перачытаў паведамленне. Давала падставы для надзеі, але слабую. Сказаў:

- А можа гэта толькі дэманстрацыя?

Андрэйчын абурыўся. Два дні сварыліся: працягваў яшчэ верыць у другі фронт. На трэці дзень замоўк. Англічане апавясцілі, што высаджаныя аддзелы пасля выканання вызначаных задач вярнуліся на караблі. Была гэта дыверсія пад Д’епам.

Гэтым разам справа была сур’ёзная. Гэта бачылася адразу. Зрэшты гэта было вядома таксама. Сама сітуацыя на Усходнім фронце загадвала заходнім саюзнікам спяшацца.

Праз дзесяць з лішнім дзён пачалося магутнае савецкае наступленне на Беларусі. Насуперак нямецкім разлікам першым рушыла не наша найдалей на захад высунутая паўвыспа, а наадварот фронт, які найбольш дагэтуль заставаўся ў тыле, з-над сярэдняй і ніжняй Беразіны.

Тут тэмпы былі шалёныя. На працягу некалькіх дзён войскі Ракасоўскага дасягнулі Менска, потым без хвіліны перапынку рушылі на Вільню.

Зноў выглядала, што немцы сыплюцца, як замак з пяску. Выглядала, што ўся наша партызанка, якую спрабавалі ствараць са Шпанава, не мае сэнсу, што пакуль рушым, будзе ўжо па ўсім.

Тыя настроі ўзмацняліся ўва мне тым хутчэй, што ў той час у маім асабістым лёсе зноў адбыліся змены.

**Валынь, лета**

Цяпер вяртаемся ў перыяд, калі запіс успамінаў будзе асабліва цяжкім, таму што ўжо адзін раз гэта ўчыніў - у “Трох вяртаннях”. Часткова буду вымушаны паўтарацца, няма рады.

Пасля чарговага падарожжа зноў высадзіўся на Валыні. Было гэта апошняе маё падарожжа на спадарожных вайсковых машынах, той род перамяшчэння, які ў час вайны быў найхутчэйшы, найтанейшы, найцікавейшы.

Ідзеш на канец горада, бліжэй да КПП - гэта значыць да кантрольнага пункта, дзе правяраюць паперы, пераважна шафёраў. Пасярод шашы стаіць дзяўчына ў шынялі, у высокіх ботах, у футравай шапцы зімой, у фуражцы летам. Усе дзяўчаты былі языкастыя, у абвостраным сэнсе камандавання, хуткія да пакрыквання нават на афіцэраў, і адначасова нейкія ўдзячныя, у тым сваім медзведзяватым строі, мілыя вартыя жадання. Парадокс цалкам натуральны: мусілі прыапранацца ў важнасць і крыклівасць, бо іначай не справіліся б са страшным племенем дзікароў: з ваеннымі шафёрамі.

Ад такой дзяўчыны залежала, калі рушыш далей. Трэба прызнаць, былі паслужлівыя, не фармалісткі, стараліся пасадзіць чакаўшых як найхутчэй.

Вечарам начлегі ў выпадковых мястэчках, у незнаёмых людзей. Пра вуліцу Каракульную і сям’ю

* Ужо пасля друку гэтага атрымаў ліст ад гр. Асобкі-Мараўскага, у якім ён сцвярджае, што гэтай песенькі не ведаў, затое ведаў найпапулярнейшае значэнне слова “бімбар”. Мяркуе, што песеньку мог спяваць гр. Сідар, іншы чалавек дэлегацыі.



***Кіеў. Чэрвень 1944 г. Падчас аднаго са шматлікіх пераездаў удалося мне сфатаграфавацца з Вандай Васілеўскай і Ежым Барэйшам***

Шчапаноўскіх у Жытоміры я ўжо ўспамінаў. Нейкая ноч у Звяглі, хата выбрукавана спячымі покатам савецкімі афіцэрамі, недзе над цэнтрам налёт, а тут рушыцца ніхто не хоча, такія ўсе змучаныя.

Дзве заўвагі пра таварышаў падарожжа: незвычайна тактоўныя і таварысцкія. Мы ездзілі з Люськам у тых нашых мундзірах з орлікамі. Ад першай хвілі мы звярталі ўвагу атачэння. І ніколі ніхто нас не зачапіў, не спытаў, што гэта, тыкаючы ў орлікаў.

Толькі, калі ад нас зыходзілі першыя словы, тады, канешне, пыталі, што гэта такое. Гаварылі: “Польшча”. Адказвалі: “А так, ведаем, Ванда Васілеўская”.

Таварыства нараджалася на пятай, дзясятай хвіліне на грузавіку - з першай папяросай, першай запалкай. На прывалах харчы ставілі на стол, падмацоўваліся разам, без настойлівага частавання, натуральна і прыязна. Той жудаснай атмасферы грузавіка львоўскага аблвыканкама, на якім уцякаў 23 чэрвеня 1941 года, не сустрэў ужо ні разу.

Прыехалі на Валынь. Ужо не ў Роўна: адкамандзіравалі нас да камандавання арміі, якое перасуналася на захад ад Роўна і зашылася ў лясы пад Луцкам, на поўнач ад Ківерцаў.

Дзіўны гэта быў край, незвычайна багаты і прыгожы. Дарогі абсаджаны якраз даспяваўшымі чарэшнямі. Лясы - гэта часта дубровы, вялізныя, цяністыя і сонечныя, прыгажэйшыя за найвыдатнейшыя паркі. У вёсках буйныя сады, поўна кветак адцвітаўшага язвіну, не расцвіўшых яшчэ хрызантэм і вяргіняў.

І толькі: толькі зелень і кветкі. Вёскі бязлюдныя. Часам засталіся толькі цагляныя шкілеты печаў, заслоненых крапівой. Часам нават дамы, але ані жывой душы.

Д’яблы ведаюць, хто тут жыў пяць гадоў назад. Можа, нямецкія каланісты, якія ў 1940 годзе паспяшылі перасяліцца за Буг. Можа палякі, выбітыя бульбаўцамі ці бандэраўцамі. Можа ўкраінцы, якіх ліквідавалі эсэсаўцы. Той кантраст раслiннай буйнасці і людской пустыні асабліва ўдарае. Цяпер падумалі б: так мусіць выглядаць край, знішчаны атамнай вайной.

Стаяць гэтыя вёскі-прывіды, і нават нашыя аддзелы не хочуць у іх жыць, хаваюцца ў лясах.Толькі пасты на скрыжаваннях, вельмі важныя, бо іначай заблудзішся. Бо дарожных указальнікаў няма!

Круціўся тут досыць шмат, бо ў штабе зацягвалі з новым маім прызначэннем. Уласна, была гэта досыць заядлая сутычка пры вельмі няроўным раскладзе сіл: з аднаго боку ўсе штабныя інстанцыі, з другога капітан Путрамант. Бо вясной атрымаў капітана, забыў пра гэта ўзгадаць.

Справа была ў тым, што ў прадбачанні нашага ўваходу ў Польшчу рыхтавалі вайсковае выданне, прызначанае для цывільнай люднасці. Галоўным рэдактарам стала Гелена Усіевіч. Ветэран “Гарызонтаў” зажадала, каб і мяне туды прызначылі.

Але часы змяніліся. Паўгода мы вялі з Люськам жыццё, якое нечакана нам адпавядала. Мы рабілі палітычную работу, але штодзень не былі нікому падпарадкаваны, не слухалі штодзённых распараджэнняў, не рабілі насценных газетак, не пісалі справаздач, хто і колькі пытанняў нам задае.

Я пачаў здаваць сабе справу, што не прыдатны да войска - хіба што на вельмі незалежную пасаду. Таму, калі Усіевіч зажадала мяне ў газету, было дастатковым заглянуць да мантаванай рэдакцыі, каб навеяла мінулае.

Размяшчалася яна ў даўняй нямецкай калоніі пад вялікімі ліпамі. У саракавым перасялілі сюды з Грубяшоўскага ваяводства ўкраінцаў. За пяць гадоў не сумелі прыстасавацца да новых варункаў, выглядалі ў тых загродах, як дзеці ў бацькоўскай, лішне вялікай вопратцы.

Заглянуў у рэдакцыйныя апартаменты. Усіевіч ужо мела сакратара рэдакцыі. Быў спакойны, паважны. Адразу адчуў: тут без насценнай газеткі ані кроку. Усіевіч спрабавала мяне ўгаварыць. Круціўся цэлы вечар, а з раніцы даў ходу.

Але абражаная рэдакцыя не згаджалася быць прайграўшаю. Калі я бегаў па высокіх інстанцыях, просячы літасці, усюды была перада мной. Заставаў высокіх суразмоўцаў папярэджанымі і непрыязнымі, просьбы да нічога не прыводзілі, бег вышэй.

А ўсё ж выкруціўся з той рэдакцыі. Сам ужо не памятаю, якім спосабам. Можа сама колькасць маіх захадаў перарасла ў якасць, і на мяне махнулі рукой.

Меў нюх, як аказалася. Нічога з таго выдання не выйшла, можа пару нумароў.

**У Дрожджы ў цені дзяўчат**

Бяздомны, у выніку той роспачлівай баталіі, трапіў на Болька Дрожджы. Ён камандаваў жаночым батальёнам. Была гэта выдатная задумка, каб яго паставіць на тую нялёгкую пасаду. Яго папярэднікі часам вызначаліся дысцыплінай, бліжэйшай да брутальнасці, чым да чаго іншага - і гэта ў адносінах да дзяўчат, не да сябе саміх. А Болек быў тактоўны і парадачны.

Сустрэў яго недзе выпадкова, забраў ён мяне да "сябе", як да гасціннага маёнтка. Батальён стаяў у велізарным паркавым лесе. Усюды парадак, чыстата, беднае дзявочае какецтва: букецік кветак, абабітае люстэрна.

Усе дзяўчаты былі закаханыя ў свайго камандзіра. Здаваў сабе з таго справу, саромеўся чужых, але напэўна да таго прызвычаіўся. Была гэта нявінная эпідэмічная хвароба. Сама яе агульнасць гарантавала, што шкоды не наробіць: за шмат было закаханых, каб некаторая магла быць выбранай, нават калі б Болек не змог справіцца з сабой.

Сядзелі з ім у намёце, размаўлялі, а што хвіля адхілялася заслона, чарговая "шараговая" станавілася на "зважай", дакладвала пра сваё прыбыццё і бралася - за падмятанне, за накрыванне стала, прыносіла вячэру, хлеб, гарбату. З раніцы ў бляшаных кубках прынеслі нам суніц. Болек станавіўся амаль грубым, збянтэжаным, а мяне гэта забаўляла.

Потым прыехаў джып, абняліся, Болек застаўся пад высокім дубам, махаючы рукой. І ўжо яго я больш не ўбачыў.

Тым часам прыйшло рашэнне адносна мяне. Наступленне на Беларусі перайшло Менск, ішло на Вільню. Фармавалі новыя групы, якія мелі быць прымацованымі да штабоў асобных франтоў. Люсек трапіў начальнікам групы пры II Беларускім фронце генерала Захарава, які дзейнічаў у кірунку Беластока. Мяне ўключылі ў групу загадкавага палкоўніка Сарокі-Вішнявецкага, прымацаваную да III Беларускага фронту, якім камандаваў генерал Чарняхоўскі. Быў гэта кірунак Вільні.

Як звычайна вельмі доўга мусолілі ў вярхах чарговае рашэнне. Затое, калі нарэшце яго прынялі, загадалі групе быць гатовай на працягу аднаго дня. Паспешнасцю той я аддзячаны адным пажоўклым лісточкам.

Ёсць гэта картачка з датай 11.VII.1944 г., адрасаваная палкоўніку Бабяну ў кватэрмейстарства арміі. Змест яе вельмі празаічны:

*"Забяспечыць, каб к-н Путрамант адразу, на працягу дня 12 гэтага месяца быў належна апрануты."*

Подпіс надае картачцы гістарычны ранг: К. Сярчэўскі. Тагачасны генерал дывізіі, намеснік камандуючага I Польскай арміі ў СССР. Кароль Сярчэўскі асабіста кантраляваў высыланне нашых груп. Калі прадставіўся яму, агледзеў мяне досыць здзіўлены: я быў моцна абадраны пасля тых паўгода вандровак з Роўна праз Кіеў у Маскву і назад. А ў той момант мой асабісты выгляд набіраў палітычнае значэнне. Бо па мне жыхары Вільні мелі меркаваць пра выгляд усёй нашай арміі.

Не памятаю, ці тая картачка мела вынік. Непакояць мяне два факты. Па прыездзе ў Люблін я таксама быў досыць абадраны. Па-другое, каб я таго Бабяна злавіў, мусіў бы яму аддаць картачку замест квітанцыі. Пэўна, Бабян недзе схаваўся: гэта вельмі важна ў кватэрмайстрстве ўнікнуць ад атрымання загадаў!

Шукаў яго доўга. У выніку рэшта місіі, палк. Сарока-Вішнявецкі і мой любімы Анатоль Мікулка, капітан-лекар, выехалі выдзеленым нам "вілісам".

Зламаўся, прыгнечаны той серыяй няўдач. Але ў апошнюю хвілю, сам ужо не ведаю як, трапіў да начальніка штаба арміі, генерала Корчыца. Той пачаў ад праборкі мяне, а потым выдзеліў малы сувязны самалёт У-2 для перакідвання мяне цераз Палессе ў Менск, адкуль мог дабірацца далей аказійнымі машынамі.

Апошні вечар перад адлётам. Начую ў самотнай цудам ацалелай карчме. Размяшчаецца тут рэдакцыя "Zolnierza Wolnosci" ("Жаўнера свабоды"). Доўгія размовы...

*(Працяг у наступным нумары.)*

# *Найбольш значныя гістарычныя выданні апошняга часу*




**У Менску ў выдавецтве “Беларуская навука” пад тытулам Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук выйшла кніга “Беларуская Народная Рэспубліка - крок да незалежнасці”, 158 ст., наклад 500 асобнікаў.**




**У выдавецтве “Радыё Свабода” выйшла кніга С.яргея Абламейкі “Нечаканы Скарына”, 328 ст.**




**У выдавецтве “Радыё Свабода” выйшла кніга С.яргея Шупы “Падарожжа ў БНР”, 282 ст.**




**У выдавецтве “Радыё Свабода” выйшла кніга С.яргея Навумчыка “Дзевяноста трэці”, 536 ст.**




**У Варшаве ў выдавецтве “Bellona” выйшла кніга Баляслава Анджэя Дэмбэка “Славянская гісторыя”, 334 ст.**




**У Менску ў выдавецтве “Логвінаў” выйшла першая кніга менскай трылогіі Сяргея Пясецкага “Яблычак”. 268 ст.**

